# БЕЛАРУСКІ КАЛЕНДАР

## на 1925 год



ВІЛЬНЯ

# БЕЛАРУСКІ КАЛЕНДАР

## на 1925 год.

Выданьне Беларускага Грамадзянскага Сабраньня
ў Вільні.

ВІЛЬНЯ 1925.

# ЯК ПАЎСТАЎ КАЛЕНДАР?

Над тым, каб злажыць календар, найбольш папрацавалі старадаўнія народы. Цяпер людзі карыстаюцца календаром, нічога ня ведаючы пра тое, колькі клопату і ламаньня галавы палажылі на яго злажэньне старадаўнія вучоныя. Мы хочам дзе-што расказаць аб гэтым чытачом нашага календара.

## Значэньне слова „календар“.

Слова гэтае паходзіць ад стара-лацінскага „calendae“ (календэ), якім рымляне азначалі першае чысло сваіх месяцаў. Цяпер пад словам „календар“ людзі разумеюць рад правілаў і прадпісаньняў падзелу часу. Дзяленьне часу пачалося яшчэ ў найстарэйшыя часы. Людзі дзялілі час, грунтуючыся на некаторых зьявішчах прыроды, а якраз на руху нябесных целаў.

## Пара.

Дзень і ноч разам складаюць пару. Трэба думаць, што перш за ўсё чалавек, пры дзяленьні часу, разьлічваў толькі дні ды ночы. Аднак-жа, хутка заўсёднае паўтарэньне адных і тых самых часоў дня навяло яго на думку дзяліць час на поры, пры чым рахунак вёўся ня з поўначы, а ад усходу альбо ад захаду сонца. Толькі значна пазьней рымляне пачалі лічыць пачатак пары ад поўначы і ад іх гэты звычай перайшоў і да нас.

У падзеле пары на меншыя адзінкі часу ў старадаўніх народаў заўважалася вялікая рознасьць. Той, які цяпер істнуе, падзел пары на 24 гадзіны, гадзіны на 60 мінут, мінуты на 60 сэкундаў узяты намі ад даўнейшых вавілёнян.

Што датычыць жыдоў, дык у іх у часы Ісуса Хрыста быў гэткі падзел часу:

першая начная варта (ад 6 да 9 гадз. ўвеч.),
другая начная варта (ад 9 да 12 г. ночы),
трэцяя начная варта (ад 12 да 3 гадз. ночы),
чацьвёртая начная варта (ад 3 да 6 г. раніцы),

трэцяя гадзіна (ад 6 да 9 гадз. раніцы),
шостая гадзіна (ад 9 да 12 гадз. дня),
дзевятая гадзіна (ад 12 да 3 гадз. дня),
дванаццатая гадзіна (ад 3 да 6 гадз. дня).

## Тыдзень.

Тыдзень паходзіць ад падзелу месяца на чатыры пэрыяды, згодна з чатырма выразнымі зьменамі месяца (сход, маладзік, поўня і ветах), якія цягнуліся больш-менш па $7^{1}/_{18}$ дня кожны. Дзяленьне часу на тыдні ў ізраільскага народу было устаноўлена і асьвечана цераз Маісеяў закон А ад жыдоў гэты парадак перайшоў да хрысьціян і магамэтан, толькі з тэю розьніцаю, што дзень адпачынку — жыдоўская **Субота** — ў хрысьціян быў заменены **Нядзеляю**, а ў магамэтан **Пятніцаю**.

## Месяц.

У даўнейшых народаў **месяцам** называўся кавалак часу ў 29—30 дзён, праходзіўшы ад аднаго пачатку сходу (з момэнту першага зьяўленьня на вячэрнім небе вузкага месячнага сярпа) да другога. Спачатку людзі яшчэ ня ўмелі азначаць акуратна дня новага зьяўленьня месяца і яны **чакалі** дня „новага месяца". Гэтак і дасюль робяць яшчэ дзікары ў Афрыцы. Яны спатыкаюць „месяц", робячы розныя рэлігійныя цэрамоніі і гэта яны завуць абнаўленьнем часу. Больш-менш за сто гадоў да Хрыстовага Нараджэньня аднаму грэцкаму вучонаму ўдалося азначыць, што ў сярэднім кожны месяц цягнецца 29 дзён, 12 гадзін, 44 мінюты і $3^{1}/_{2}$ сэкунды, альбо, йначай кажучы, $29^{1}/_{2}$ дзён. Каб не пачынаць кожны раз месяца ў іншы час, ён запрапанаваў лічыць пачарзе то 29 то 30 дзён за адзін месяц. Гэткім чынам было ўведзена чаргаваньне гэтак празваных поўных месяцаў у 30 дзён з няпоўнымі ў 29 дзён.

## Год.

Правільны паварот адных і тых самых пораў году: вясны, лета, восені й зімы, ад якіх залежаць нармальныя заняткі чалавека ў хлебаробстве, паляваньні, рыбалоўстве і г. д., навёў на думку дзяліць час на гады ў сувязі з палажэньнем сонца. Адначасна былі спробы дзяліць год на месяцы. Паўстаў спачатку **месячны год**, які складаўся з 12 нябесных месяцаў або 354 дзён. Аднак-жа, пры гэткім лічэньні, выявілася, што дні, зьвязаныя з некаторым выразным палажэньнем сонца, пераставалі сходзіцца з тымі, якія ў пачатку па сонцы былі устаноўлены і што яны паступова пераходзілі ў іншыя месяцы. Дзеля ўхіленьня гэтага

зьявішча, да канца месячнага году пачалі дадаваць **дадатковыя дні**, каб зраўняць месячны год з сонечным. Ад гэтага пайшла сыстэма ўстаўкаў. Аказалася, што дзеля ўраўненьня месячнага году з сонечным, неабходна было да месячнага году дадаць 11 дзён.

Гледзячы па акалічнасьці, ці народы лічаць гады па сонцы ці па месяцы, адрозьніваюць календар з месячным альбо сонечным годалічэньнем.

Народы, вылічваўшыя час па сонечных гадох, прыклалі вялізарныя натугі да таго, каб акуратна азначыць даўжыню году. Гэта ім і ўдалося якнайлепей. Паміж аблічэньнем даўнейшых і нашых вучоных саўсім нязначнае расходжаньне. Паводлуг даных найнавейшае навукі, год цягнецца 365 дзён, 5 гадзін, 48 мінют і 48 сэкундаў, што для кожнага з 12-цёх месяцаў дае 30 дзён, 10 гадзін, 29 мінют і 4 сэкунды.

Што датычыць пачатку году, дык у гэтым сэнсе народы прытрымліваліся розных правілаў. Навет хрысьціянскія народы незаўсёды пачыналі год з 1-га студня. Новы Год сьвяткаваўся і 1-га сакавіка, і 1-га верасьня, і 25-га сьнежня. Толькі з 1563 году 1-е студня паступова робіцца днём новага году.

## Эпоха і эра

Пры годалічэньні заўсёды паўставала труднасьць, якая была ў тым, што невядома было адкуль пачаць лічэньне. Прыходзілася дзеля аблічэньня гадоў штучна асноўвацца на якой-нібудзь выдатнай падзеі. Спачатку гэткімі важнымі падзеямі лічыліся дні нараджэньня цароў, правіцеляў, жрацоў і г. д., або пзноў дні прыходу іх да ўлады. Прарок Агей, гэткім чынам азначае час: „У другі год цара Дарыя ў шосты месяц, у першы дзень месяца было слова Божае праз Агея прарока да Зарававэля“.

Пазьней, калі зносіны народу паміж сабою змацнелі і калі высьнілася, што падзеі, важныя для адных, пазбаўлены значэньня для іншых, дык людзі пачалі высоўваць гэткія падзеі, якія былі вядомымі шмат якім народам. Адсюль паўстала **эра** і **эпоха**. Гістарычная падзея, якая служыць асноваю для годалічэньня шмат якіх народаў называецца **эпохаю**, а час прайшоўшы ад эпохі — **эраю**. Эпохаю даўнейшых грэкаў была руйнацыя Троі, эпохаю рымлян — заснаваньне Рыму. У жыдоў эпохаю лічыцца стварэньне сьвету, ў магомэтан **гэджра**, гэта знач. час, калі Магамэт уцёк з Мэкі ў Мэдыну, а ў хрысьціянскіх народаў эпохаю зьяўляецца Нараджэньня Ісуса Хрыста.

Хрысьціяне спачатку таксама вялі сваё годалічэньне ад стварэньня сьвету, але ў чацьвёртым сталецьці пасьля Хр. Нар. Дыянізі Малы запрапанаваў годалічэньне, аснованае на новай эпосе — на дні Нараджэньня Ісуса Хрыста.

Гэтае годалічэньне было прынята толькі ў VIII сталецьці. Аднак-жа, трэба прыпушчаць, што Дыянізі Малы не саўсім правільна азначыў дату Хрыстовага Нараджэньня. Старадаўнія гісторыкі разсказваюць, што ў ноч сьмерці Ірада Крывавага, значыцца хутка пасьля Нараджэньня Ісуса было поўнае зацьменьне месяца. Паводлуг вылічэньняў астраномаў, яно здарылася ўночы з 12 на 13 сакавіка 750 году пасьля заснаваньня Рыму. Гэта гаворыць за тое, што Ісус Хрыстос парадзіўся на чатыры гады раней, чымся лічыў Дыянізі. Айцы царквы, сваім чынам, даводзілі, што І. Хрыстос нарадзіўся 25 сьнежня 751 году пасьля заснаваньня Рыму, альбо на тры гады раней, чымся цяпер прынята лічыць. Невядома, якія даныя леглі ў аснову даты прыведзенай вышэй. Трэба толькі ад'значыць, што хрысьціяне да сярэдзіны чацьвёртага сталецьця Нараджэньня Хрыста не сьвяткавалі і што дзень гэты з памяці хрысьціянскіх масаў пасьпеў згладзіцца. Затое 25-е сьнежня было паганскім сьвяточным днём і было ад'значана ў стара-рымскім календары як „dies natalis solis invicti" (дзень нараджэньня непераможанага сонца), сходзячыся з днём зімовага павароту сонца, калі дзень ізноў пачынаў павялічвацца.

## Эгіпэцкі календар.

З даўнейшых народаў найбольш астранамічнае веды мелі эгіпцяне. Календар іх азначаў сонечны год у 365 дзён, які дзяліўся на 12 месяцаў па 30 дзён. Пасьля 360 дзён, уваходзіўшых у склад месяцаў, ішлі 5 дадатковых дзён. Дзеля таго, аднак-жа, што сонечны год даўжэйшы блізу што на $1/4$ дня, дык пачатак году паступова пераходзіў ува ўсе поры году, аж пакуль цераз 1461 год, ён ізноў ня зышоўся з часам, устаноўленым спачатку.

## Грэцкі календар.

Даўнейшыя грэкі спачатку мелі месячныя гады па 12 нябесных месяцаў. За 600 гадоў да Хр. Нар. законадаўца Солён узвёў правільнае чаргаваньне поўных месяцаў у 30 дзён з н[illegible]поўнымі у 29 дзён. Апрача таго, ад часу да часу, ўстаўляўся яшчэ адзін месяц, дзеля прывядзеньня месячнага году ў адпаведнасьць з сонечным. Пазьней была ўведзена правільная сыстэма ўставак: у кожныя 8 гадоў тройчы ўстаўляўся месяц з 30-х дзён. Сярэдні год, гэткім чынам, складаўся з $365^1/_4$ дзён. У 432 годзе да Хрыст. Нарадж. афінянін Мэтон выкрыў, што 235 нябесных месяцаў роўны 19-ём сонечным гадом і ён ўвёў 19-гадовы пэрыяд з сёма перастуннымі гадамі.

19 гадоў, якія складаюць 6940 дзён. Мэтон, гэткім чынам, патрапіў падзяліць на месяцы, што пачатак іх заўсёды сходзіўся са сходам (зьменаю месяца). Гэты календар у 330

годзе быў яшчэ папраўлены астраномам Каліппам, які вылічыў, што Мэтон пры азначэньні даўжыні году дапусьціў памылку ў $^{1}/_{76}$ дня. Ен ўвёў 76-гадовы пэрыяд, які складаўся з чатырох 19-гадовых мэтонскіх пэрыядаў без аднаго дня. Такім чынам, сярэдняя даўжыня году ізноў была зьведзена да 365 з $^{1}/_{4}$ дзён.

## Жыдоўскі календар.

Жыдоўскі календар вельмі няпросты. Год дзеліцца на 12-месячных, пачарзе, поўных, або няпоўных месяцаў. Дзеля прывядзеньня месячнага году, ў адпаведнасьць з сонечным ад часу да часу ўстаўляецца 13-ты месяц. Уставачны пэрыяд жыдоў ахапляе, як і ў даўнейшых грэкаў, 19 гадоў і мае ў сабе 7 пераступных гадоў. Даўжыня гадоў розная. Чаргуюцца, паводлуг выразных правілаў, гады ў 353, 354, 355, 383, 384 і 385 дзён.

## Мусульманскі календар.

Магамэтане лічаць час толькі па месячных гадох. Уставачны пэрыяд ахапляе 30 гадоў, з якіх 11 маюць па 355, рэшта — па 354 дні.

## Рымскі календар.

У даўнейшых рымлян год складаўся з 12 месяцаў, або 355 дзён. Дзеля ўраўненьня месячнага году з сонечным ад часу да часу да году дадаваўся ўставачны месяц. Календар гэты, дзякуючы таму, што з ім ня ўмелі абходзіцца паганскія жрацы, на абавязку якіх было назначаньне сьвятаў, дайшоў да поўнага беспарадку, з якога яго вывеў рымскі консуль Юлі Цэзар. У 46 годзе да Хр. Нар. ён правёў рэформу, якая дасюль яшчэ вядома пад назовам **юліянскага** календара.

Найважнейшыя яго асаблівасьці ў тым, што ў ім сярэдняя даўжыня году азначана ў $365^{1}/_{4}$ дзён, пры чым гады чаргуюцца такім чынам, што тры разы, адзін за адным, гады маюць па 365 дзён, а чацьвёрты 366 дзён. Месяцы адтрымалі новыя назовы, дайшоўшыя бяз зьмены і да нас, апрача месяцаў квінтыля і сэкстыля, перайначаных пасьля рымскім сэнатам у чэсьць Юлія Цэзара і імпэратара Аўгуста ў юль і аўгуст. Была ўстаноўлена таксама й даўжыня месяцаў, якая захавалася ў календары аж да гэтага дня. А што датычыць пачатку году, дык ён быў аднесены да першага сходу, іноўшага за зімовым паваротам сонца. Ен быў названы 1 январа і дзень гэты дасюль прынята лічыць днём новага году. Каб урэгуляваць такім чынам лічэньне часу, прышлося 46 год да Хрыстовага Нараджэньня расьцягнуць да 445 дзён.

## Хрысьціянскі календар.

Хрысьціяне спачатку ня мелі свайго ўласнага календара, але карысталіся календарамі сваіх народаў: хрысьціяне-жыды—жыдоўскім, хрысьціяне з грэкаў—грэцкім, з рымлян рымскім і г. д. У Эгіпце сягоньня яшчэ хрысьціяне-копты прытрымліваюцца эгіпэцкага календара.

Калі пры рымскім імпэратары Канстантыне Вялікім хрысьціянства зрабілася пануючай рэлігіяй, дык Нікейскі сабор хрысьціянскіх архірэяў заняўся пытаньнем аб увядзеньні для хрысьціянскага сьвету агульнага для ўсіх календара. Было пастаноўлена ўзяць за аснову для хрысьціянскага годалічэньня рымскі календар. Год Нікейскага сабору, 325 пасьля Хрыстовага Нараджэньня, а таксама 326 і 327 года былі прыняты за простыя, а 328 за пераступны год. Адначасна раз назаўсёды было устаноўлена, што гады, якія дзеляцца без астатку на 4, павінны лічыцца пераступнымі гадамі.

Прайшоў цэлы рад сталецьцяў пакуль ня выясьнілася, што рымскі календар мае ў сабе памылку. Апошняя была ў тым, што даўжыня году была прынята у 365 дзён і 6 гадзін, у той час, як яна складае 365 дзён 5 гадзін 48 мінют і 48 сэкундаў, г. знач. на 11 мінют і 12 сэкундаў менш. Дзеля таго, што гэта нязначная розьніца за 128 гадоў дае 1 дзень, дык вышла, што за кавалак часу ў 1257 гадоў, прайшоўшых ад году Нікейскага Сабору да 1582 году, ў які была папраўлена памылка, зложылася розьніца ў 10 дзён. Памылку заўважылі па дні вясьнянага роўнадзеньня, меўшага па пастанове Нікейскага Сабору прыпасьць на 21 сакавіка, але быўшага 11 сакавіка.

Дзеля гэтага, папа Рыгор XIII запрапанаваў у 1562 годзе Трыдэнцкаму Сабору нанова паправіць календар. Сабор спыніўся на папраўцы вучонага Люіджі Лілію, прызнаней шмат якімі унівэрсытэтамі. Папраўка гэтая крылася ў тым, што праз кожныя 128 гадоў выкідаўся адзін дзень. Дзеля палёгкі ў лічэньні Л. Лілію запрапанаваў выкідаць цераз кожныя 400 гадоў (правільней трэ' было-б лічыць не праз чатырыста, а цераз 384 годы) тры дні, такім чынам, каб сталецьці, якія ня дзеляцца на 4, ня лічыць пераступнымі гадамі. Гэтак 1800 і 1900 гады не павінны былі лічыцца пераступнымі, але затое павінны быць пераступнымі гэткія гады як 1600, 2000 і г. д. Асюль выходзіць, што Юліянскі календар з 400 гадоў налічвае 100 пераступных і 300 звычайных, а новы проект прадбачыў 97 пераступных і 103 звычайныя гады. Сярэдняя даўжыня году, такім чынам, была прыведзена да 365 дзён 5 гадзін 49 мінют і 12 сэкундаў, г. знач. да расходжаньня з сонечным годам толькі на 24 сэкунды. Гэтыя 24 сэкунды ў год дадуць пасьля прабегу 3600 гадоў адзін дзень, ці іначай ка-

жучы, ў 5200 годзе пасьля Хрыстова Нараджэньня (1600 + 3600) прыдзецца выкінуць яшчэ адзін дзень.

Пасьля таго, як Трыдэнцкі Сабор прызнаў проект добрым, папа Рыгор XIII спэцыяльнаю бульляю загадаў увясьці новы календар. Было загадана прапусьціць у чацьвер 4 кастрычніка 1582 году дзесяць дзён і лічыць ідоўшую за гэтым днём пятніцу за 15 кастрычніка. Гэтым дзень вясьняпага роўнадзеньня ізноў быў перанесены на 21 сакавіка, што мела важнае значэньне дзеля ўстанаўленьня дзён Вялікадня, дзеля таго, што царква прытрымлівалася правіла прытарноўваць гэтае сьвята да поўня, якое йшло за вясьняным роўнадзеньнем.

Папраўлены Юліянскі календар у чэсьць папы Рыгора XIII быў названы **Грыгарыянскім**. Яго прынялі ўсе каталіцкія народы і ў тым ліку польскі народ. Усходняя царква, а таксама і протэстанскія цэрквы ўвясьці яго адмовіліся. Толькі шмат гадоў пазьней протэстанская Нямеччына згадзілася кінуць „стары стыль“. У 1700 годзе, яна з 18 лютага адразу перайшла на 1 сакавіка. У бышай Расеі толькі ў 1918 годзе Радавы Ўрад распарадзіўся ўвясьці „новы стыль“, даўшы аднак-жа праваслаўнай царкве права прытрымлівацца сьвятаў паводлуг старога стылю.

## Календар францускае рэвалюцыі.

Арыгінальны календар быў уведзены ў 1793 годзе падчас Вялікае Францускае Рэвалюцыі францускім нацыянальным конвэнтам. Тады была ўстаноўлена новая эпоха — поўнач перад асеньнім роўнадзеньнем 1792 году. Год, на ўзор эгіпэцкі, быў падзелены на 12 месяцаў па 30 дзён у кожным. Да гэткіх 360 дзён у канцы году дадаваліся: 5 сьвяточных дзён у звычайныя і 6 сьвяточных дзён у пераступныя гады. Месяц дзяліўся на 3 тыдні па 10 дзён кожны. Гэткі тыдзень называўся **дэкадаю**. Сьвяткаваньне нядзеляў і хрысьціянскіх сьвятаў было адменена. Ня гледзячы на сваю прастату, рэвалюцыйны календар доўга ня ўтрымаўся. Дэкрэтам Напалеёна I і яго сэнату календар гэты ў 1805 годзе ізноў быў скасованы і заменены Грыгарыянскім.

# Ад Хрыстовага Нараджэньня 1925 год

**(звычайны, мае 365 дзён).**

| | | |
|---|---|---|
| Ад стварэньня сьвету па аблічэньню царквы | 7433 | год. |
| „ стварэньня сьвету па аблічэньню жыдоў | 5685 | „ |
| „ увядзеньня Юліянскага календара . . | 1970 | „ |
| „ сьмерці Хрыста . . . . . . . . . . | 1892 | „ |
| „ руйнацыі Ерусаліму . . . . . . . . . | 1855 | „ |
| „ падзелу цэркваў на ўсходнюю і заходнюю | 1064 | „ |
| „ рэформы юліянскага календара . . . . | 343 | „ |
| „ выдумкі друку кніг . . . . . . . . . | 485 | „ |
| „ адкрыцьця Амэрыкі . . . . . . . . . | 433 | „ |
| „ пачатку рэфармацыі (выступленьня Лютэра) . . . . . . . . . . . . . | 408 | „ |
| „ сьмерці кн. Усяслава Полацкага . . . | 824 | „ |
| „ вуніі Літвы і Беларусі з Польшаю . . | 539 | „ |
| „ Люблінскай вуніі . . . . . . . . . | 356 | „ |
| „ Берасьцейскай царкоўнай вуніі . . . . | 329 | „ |
| „ пачатку друкаваньня кніг пабеларуску . | 442 | „ |
| „ надрукаваньня першае кнігі парасейску ў Маскоўшчыне . . . . . . . . . . | 352 | „ |
| „ істнаваньня першае **беларускае** друкарні ў Вільні . . . . . . . . . . | 400 | „ |
| „ істнаваньня першае **польскае** друкарні ў Вільні . . . . . . . . . . . . . | 349 | „ |
| „ істнаваньня першае **расейскае** друкарні ў Маскве . . . . . . . . . . . . . | 362 | „ |
| „ выдуманьня тэлескопу . . . . . . . | 316 | „ |
| „ „ гадзіньніка . . . . . . | 268 | „ |
| „ „ паравой машыны . . . . | 227 | „ |
| „ увядзеньня прышчэпкі воспы . . . . | 130 | „ |
| „ збудаваньня першае чугункі . . . . . | 100 | „ |
| „ выдуманьня тэлеграфу . . . . . . . | 88 | „ |
| „ правядзеньня кабэлю цераз акіян . . . | 59 | „ |

| | |
|---|---|
| Ад выдуманьня тэлефону . . . . . . . . | 48 год. |
| „ „ бяздротнага тэлеграфу . . | 29 „ |
| „ вынаходу радыю . . . . . . . . . . | 28 „ |
| „ выдуманьня аэропляну . . . . . . . | 20 „ |
| „ рэвалюцыі ў Расеі . . . . . . . . . | 8 „ |
| „ абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі . . . . . . . . . | 7 „ |
| „ незалежнасьці Польшчы . . . . . . . | 7 „ |
| „ Вэрсальскага міру . . . . . . . . . | 6 „ |
| „ Падзелу Беларусі (мір у Рызе) . . . . | 4 „ |



# Наша сонечная сыстэма.

Сонца ў 1.252.000 разоў большае за зямлю і ў 333.470 разоў цяжэйшае за яе. Месяц абягае зямлю навакола ў 27 дзён 8 гадзін. Ен аддалены ад зямлі на 384.000 кілёмэтраў. Месяц у 50 разоў меншы за зямлю. Дыямэтр (папярэчнік) зямлі — 12.756 кілёмэтраў. Сярэдняе аддаленьне зямлі ад сонца — 149 мільёнаў кілёмэтраў.

У сонечную сыстэму ўваходзяць гэткія плянэты (некаторыя з іх абягаюць вакол сонца разам са сваімі прыдатковымі плянэтамі, напр. Зямля мае пры сабе Месяц):

| Назоў плянэты. | Час абегу вакол сонца. | | Аддаленьне ад сонца (у мільёнах кілёмэт.). | | | Калі прыняць Зямлю за адзінку, дык: | | Лік прыдатковых плянэтаў. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Гады. | Дні. | Найменшае. | Сярэдняе. | Найбольшае. | Адпаведная велічыня плянэты. | Адпаведны цяжар плянэты. | |
| Мэркуры . | — | 88,0 | 46 | 58 | 70 | 0,053 | 0,056 | — |
| Вэнэра. . | — | 224,7 | 107 | 108 | 109 | 0,93 | 0.82 | — |
| Зямля . . | 1 | — | — | 148 | — | 1,00 | 1,00 | 1 |
| Марс . . | 1 | 321,7 | 206 | 227 | 248 | 0,15 | 0.11 | 2 |
| Юпітэр. . | 11 | 314,8 | 738 | 775 | 813 | 1318 | 318 | 4 |
| Сатурн. . | 29 | 166,5 | 1344 | 1424 | 1504 | 686 | 95 | 8 і 3 кольцы |
| Уран . . | 84 | 6,0 | 2731 | 2864 | 2996 | 62 | 15 | 4 |
| Нэптун . | 164 | 286,0 | 4446 | 4487 | 4527 | 83 | 17 | 1 |

## Зацьменьне сонца і месяца.

У гэтым годзе будуць два зацьменьні сонца і два зацьменьні месяца.

**Першае няпоўнае зацьменьне месяца** будзе 8-га лютага. Пачатак зацьменьня ў 19 гадзін 48 мін. (а 7-й га-

дзіне 48 мін. увечары), сярэдзіна — а 21 гадз. 22 мін., канец а 22 гадз. 55 мін.

Пачатак гэтага зацьменьня будзе відаць у заходняй часьці Ціхага Акіяну, ў Заходняй Аўстраліі, ў Азіі, на Індыйскім акіяне, ў Эўропе, Афрыцы і на усходняй часьці Атлянтычнага акіяну. Канец зацьменьня будзе відаць у Азіі, па Індыйскім акіяне. У Эўропе, Афрыцы, на Атлянтычным акіяне, ў паўднёвай Амэрыцы і ўсходняй'часьці Паўночнай Амэрыкі.

**Другое няпоўнае зацьменьне месяца** будзе 4 жніўня. Пачатак зацьменьня а 10 гадз. 7 мін., сярэдзіна—а 11 гадз. 32 мін., канец — а 12 гадз. 57 мін.

Пачатак гэтага зацьменьня будзе відаць у заходняй часьці паўночнай і паўднёвай Амэрыкі, на Ціхім акіяне, ў Аўстраліі і паўночна-ўсходняй Азіі. Канец відаць будзе на Ціхім акіяне, ў Аўстраліі, ўсходняй Азіі і на Індыйскім акіяне.

**Першае зацьменьне сонца** (ў нас — няпоўнае) будзе 24 студня. Пачатак яго а 12 гадз. 21 мін., канец 16 гадз. 45 мін.

Гэтае зацьменьне відаць будзе: ўва ўсходняй часьці Паўночнай Амэрыкі, цэнтральнай Амэрыцы, паўночнай часьці Паўднёвай Амэрыкі, ў паўднёвай Грэнляндыі, Ісьляндыі, ў заходняй і цэнтральнай Эўропе і паўночна-заходняй Афрыцы. Граніца поўнага зацьменьня праходзіць праз Вялікія Вазёры Паўночнай Амэрыкі, паўночную часьць Атлянтычнага акіяну і канчаецца на поўнач ад Шкоцыі.

**Другое зацьменьне сонца** (кальцавое) будзе 20 ліпня. Пачатак а 18 гадз. 43 мін. Канец 21 ліпня ў 13 мін. пасьля поўначы. Відаць будзе на Ціхім акіяне, а няпоўна — ўва ўсходняй Аўстраліі і Новай Зэляндыі.

**Вясна** ў гэтым годзе пачынаецца 21 сакавіка, **лета** — 21 чэрвеня, **восень** — 23 верасьня і **зіма** — 22 сьнежня.

## Важнейшыя жыдоўскія сьвяты ў гэтым годзе.

**Вялікдзень** — 9 красавіка, **Новы Год** — 19 верасьня, Страшная Ноч (Судны дзень) — 28-га верасьня, Кучкі — 3-га кастрычніка.



Январь
Sausis

# СТУДЗЕНЬ

**Studzień** (мае 31 дзень)

Styczeń
Просій
(ст.-слав.).

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар. | Новы стыль | Katalicki kalendar. |
|---|---|---|---|---|
| Сьнеж. 1924 г. | | | | |
| Ч. | 19 | Муч. Баніфата і Цімахвея. | 1 | **Nowy Hod.** Abrazańnie ☽ |
| П. | 20 | Сьв. Ігната Баганосца. | 2 | Imieńnia Jezus. |
| С. | 21 | Сьв. Ульяны. | 3 | Daniły, m. Genawefy. |
| Н. | 22 | **Нядз. С. Айцоў (29 па Сём.)** | 4 | **1 Niadz. po Kal.** Izabeli. |
| П. | 23 | Сьв. Навума прасьветп. | 5 | *Wibil.*, Telesfora. |
| А. | 24 | М. Аўгеньні. *Бедн. куцьця.* | 6 | **Try Karali.** |
| С. | 25 | **Нараджэньне Госп. І. Хр.** | 7 | Lucyjana. |
| Ч. | 26 | Сьв. Язэпа Абручніка. | 8 | Seweryna. |
| П. | 27 | Муч. Архід. Сьцяпана. | 9 | Marcyjany dz. |
| С. | 28 | Муч. Дарахвея і Агаты. | 10 | Jana Dobraha. ☉ |
| Н. | 29 | **Нядз. па Хр. Нар. (30 па Сём.)** | 11 | **1 N. pa 3 Kar.** Hanaraty dz. |
| П. | 30 | Пр. Хвядоры. | 12 | Św. Siamji. |
| А. | 31 | Пр. Маланьні. *Багат. куцьця.* | 13 | Weraniki. |
| Студзень 1925 г. | | | | |
| С. | 1 | **Абраз. Госп. І. Хр. Св. Вас. В.** | 14 | Hilaraga. |
| Ч. | 2 | Сьв. Сыльвэстра, Папы Р. | 15 | Paŭły 1-ha pust. |
| П. | 3 | Прарока Малахіі. | 16 | Marcelaha pap. |
| С. | 4 | Сабор 70 апосталаў. | 17 | Antona ap. ☾ |
| Н. | 5 | **Нядз. пер. Прасьв. (31 па С.)** | 18 | **2 N. pa 3 K.** Stal. św. Piotry. |
| П. | 6 | **Сьв. Богазьяўл.** *Вадохрышча* | 19 | Maryja i Taw. m. m. |
| А. | 7 | Сабор сьв. Івана Хрысьц. | 20 | Fabijana i Sebast. |
| С. | 8 | Пр. Юрыя Хозэвіта. | 21 | Ahnieszki dz. m. |
| Ч. | 9 | Піліпа Мітрап. Маск. | 22 | Wincentaha i Nastasi. |
| П. | 10 | Грыгора, еп. Ніскага. | 23 | Rajmunda. |
| С. | 11 | Хвядоса Вялікага. | 24 | Cimachwieja. ● |
| Н. | 12 | **Нядз. па Прасьв. (32 па Сём.)** | 25 | **3 N. pa 3 K.** Nawarot ś. Paŭły |
| П. | 13 | Муч. Ярмілы. | 26 | Palikarpa bisk. |
| А. | 14 | Роўнаапост. Ніны Прасьв. | 27 | Jana Załatawusnaha. |
| С. | 15 | Пр. Паўлы з Тэбаў. | 28 | Waleryja |
| Ч. | 16 | Муч. Леанілы. | 29 | Franciszka Salez. |
| П. | 17 | Пр. Антона Вялікага. | 30 | Martyny dz. i m. |
| С. | 18 | Апанаса Вялікага і Кірылы. | 31 | Piotry z Nolasko. ☽ |

**Усход і захад сонца.**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | 7.39 | 15.49 |
| 10 | 7.36 | 15.50 |
| 20 | 7.29 | 16.14 |
| 31 | 7.16 | 16.33 |

**Зьмены месяца.**

| | | |
|---|---|---|
| ☽ Маладзік | 1 | а 23 г. 15 м. |
| ☉ Поўня | 10 | а 2 г. 27 м. |
| ☾ Ветах | 17 | а 23 г. 13 м. |
| ● Сход | 24 | а 14 г. 25 м. |
| ☽ Маладзік | 31 | а 16 г. 23 м. |

## Што рабіць у Студні?

Гаспадару. Малаціць і ачышчаць насеньне для пасеву. Трэба аблічыць сабе абсеў, і колькі для яго будзе патрэбна насеньня. Калі ёсьць у ім недахват, дык раней трэба закупіць. Зьвязьці дрэва на будоўлю і на апал. Папраўляць мяхі, парадкаваць ставы, рабіць усялякія гаспадарчыя прылады, зьбіраць матар'ял на кампосты. Даглядаць старанна дамавую жывёлу і коні і дбаць аб парасятах, каб ня мерзьлі. Жаробным кабылам даваць лепшы аброк і праводзіць іх штодня. У тых ставах, дзе ёсьць рыба, рабіць аддушыны.

Гаспадыні. Ў доўгія вечары прасьці, папраўляць вопраткі і порце. Даглядаць дзяцей, каб мелі ахвоту да асьветы, а большы з іх каб чытаў голасна лепшыя кніжкі. Забясьпечыць хатнія птушкі ад холаду і сырасьці. Курам дадаваць да корму аўса і грачыхі — дык пачнуць раней нясьці яйкі.

Пчаляру. Не хадзіць без патрэбы каля вульлёў, калі сьнег пад нагамі трашчыць. Даглядаць, каб вылеты не зарасьлі інеем, што здараецца ў вялікія маразы. У гэтым выпадку асьцярожна прачышчаць вочкі пруточкам, ухіляючыся ад шорхату.

Паляўнічаму. Утрымліваць пашу для зьвярыны і прытулішчы для курапат. Кожны ў нас хацеў-бы паляваць, але ніхто не падумае аб тым, што калі аб зьвярыне ня дбаюць, дык яна марнуецца. Паляваць дазваляецца на дзікоў, ласёў, аленяў, сарнаў (самцоў), зайцоў, глухароў, цецярукоў, рабчыкаў, курапат, качак і іншых пералётных птушак.

---

## З БЕЛАРУСКАЕ ПОЭЗІІ.

### *МЯЦЕЛІЦА.*

Ой, 'спалеце пяруны,
Майго Янку, бо дурны!
Назаляе толькі мне,
А каб сватацца, дык не!

Я казала дый ня раз:
Прысылай сватоў да нас;
Татка добры, ён аддасьць,
У пасаг—цялушку дасьць.

А той Янка, той благі,
Усё сьмяецца — «гі-гі-гі!»
Да таго-ж часамі *кпіць*:
«Ну, чаго табе карціць?»

Ой, пралецеся дажджы,
А ты, Янычка, пажджы:
Учыню табе бяду —
За нікога не пайду!

*Алесь Гарун.*

Февраль Vasaris

# ЛЮТЫ

Luty (мае 28 дзён).

Luty Сечень (ст.-слав.)

| Дні. | Стары стыль. | Праваслаўны календар. | Новы стыль. | Katalicki kalendar. |
|---|---|---|---|---|
| Студзень | | | | |
| Н. | 19 | **Нядз. аб Закхею (33 па Сём.)** | 1 | **4 N. pa 3 Kar.** Ihnata bisk. |
| П. | 20 | Аўхіма Вял. Муч. Інны. | 2 | **Najśw. Dz. M. Hramnicy** |
| А. | 21 | Максіма Грэка, Муч. Аўгена. | 3 | Błażeja |
| С. | 22 | Ап. Цімахвея і Настаса. | 4 | Andreja kars. |
| Ч. | 23 | Муч. Кліманта, Генадз. | 5 | Ahaty dz. i m. |
| П. | 24 | Аксіньні. | 6 | Daroty dz. i m. |
| С. | 25 | Сьв. Грыгора Багаслова. | 7 | Ramualda ap. |
| Н. | 26 | **Нядз. аб Мытніку і Фарыс.** | 8 | **5 N. pa 3Kar.** Jana z M. ☉ |
| П. | 27 | Пераң. Мошч. Івана Злат. | 9 | Kiryły aleks., Apalonii. |
| А. | 28 | Ахрэма Сірына. | 10 | Schalastyki. |
| С. | 29 | Лаўрына еп. Тураўскага. | 11 | Lucyjana. |
| Ч. | 30 | Сабор трох сьв. В. В., Г. Б., І. З. | 12 | Aŭłali dz. |
| П. | 31 | Мікіты Цудатворцы. | 13 | Kaciaryny dz. |
| Люты | | | | |
| С. | 1 | Муч. Трыфана. | 14 | Walenta. |
| Н. | 2 | **Н. аб Бл. Сыне. Стр. Госп. І. Х.** | 15 | **N. Miasapustn.** Faustyna. |
| П. | 3 | Пр. Сямёна і Ганны. | 16 | Juljany dz. i m. ☾ |
| А. | 4 | Сідара. | 17 | Patrycyja. |
| С. | 5 | Муч. Агаты. | 18 | Symona. |
| Ч. | 6 | Муч. Марты і Марыі. | 19 | Konrada, Zuzanny. |
| П. | 7 | Пархвена, Лукі. | 20 | Lawona. |
| С. | 8 | Хведара Страц. *Дзяды.* | 21 | Feliksa. |
| Н. | 9 | **Нядз. аб Ст. Судзе** (*Маслян.*) | 22 | **N. Zap.** Stal. ś. Pioty ŭ Ant. |
| П. | 10 | Прохара. | 23 | Piotry. Dziamjana. ● |
| А. | 11 | Зьмітры Прылуцкага. | 24 | Macieja. |
| С. | 12 | Аляксея Мітрап. **Маск.** | 25 | **Pap elec.** Wiktaryna. |
| Ч. | 13 | Пр. Мартыніяна. | 26 | Alaksandra. |
| П. | 14 | Кірылы вучыц. Славян. | 27 | Leanarda. |
| С. | 15 | **Віл. абр. Бож. Маці** (*Одзігітр.*) | 28 | Ramana. |

**Усход і захад сонца.**

7 — 7.15 — 16.44
15 — 6.52 — 16.58
20 — 6.42 — 17.06
25 — 6.33 — 17.15
28 — 6.27 — 17.20

**Зьмены месяца.**

☉ Поуня 8 а 21 г. 29 м.
☾ Ветах 16 а 9 г. 21 м.
● Сход 23 а 1 г. 52 м.

## Што рабіць у Лютым?

Гаспадару. Прывясьці ў парадак усе земляробскія прылады. Перавеяць збожжа, асабліва, калі яно сырое. Ачысьціць канавы ад сьнегу, каб у адлігу вада ляпей сьцякала. Рабочую жывёлу карміць лепей перад вясьнянымі работамі. Кабылы трэба злучаць з добрымі вогерамі, авечкі з баранамі. Зьнішчаць вошы ў цялят. Калі гной вывозіцца на поле зімою, дык зрабіць гэта пакуль замёрзшая зямля. Калі магчыма дык выкапаць раўкі наўкола яблынь і груш, сьліваў і г. д. Ачысьціць у іх кару ад усялякіх непатрэбных лічынак і бяліць іх. Калі ёсьць, дык залажыць парнікі. Упарадкаваць платы. У канцы месяца зрабіць прышчэпы пладовых дрэваў. Для пасадкі лесу набраць сасновых і яловых шышак.

Гаспадыні. Перабраць гнілую агародніну. Карміць парсюка, прызначанага на Вялікдзень. Загатовіць алей для ўсялякіх патраваў на Вялікі Пост. Індыкі і куры пачынаюць нясьціся; дык садзіць іх на яйкі, як заквокчуць.

Пчаляру. Матка пачынае чарвіць або класьці яйкі. У сонечныя, марозныя дні трэба пільнаваць пчолы, каб не памерзьлі. Дзеля гэтага найлепш было-б вылётную старану вульлёў стаўляць на ўсход. Пчол ня можна чапаць.

Паляўнічаму. Палявацъ дазваляецца на зьвяроў, апроч аленяў, да 1-га, а на глушцоў, цецярукоў і курапат да 15-га.

На Мацея — зіма пацее.
Пытае люты — ці добра абуты.
Грамніца—зімы палавіца.

ooo

## З БЕЛАРУСКАЕ ПОЭЗІІ.

* * *

...К свабодзе, роўнасьці і
знаньню.
Мы працярэбім сабе сьлед!
І будзе ўнукаў панаваньне
Там, дзе сягоньня плача
дзед!..

*Янка Купала.*

ooo

12 лютага 1910 г. у Вільні адбыўся першы беларускі спэктакль. Гралі «Па рэвізіі»

27 лют. 1888 г. радзіўся ў Менску поэт Алесь Гарун (Прушынскі)

Мартъ
Kovas

# САКАВІК

**Sakawik** (мае 31 дзень).

**Marzec**
**Сухій**
(ст.-слав.)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар. | Новы стыль | Katalicki kalendar. |
|---|---|---|---|---|
| Люты | | | | |
| Н. | 16 | **Нядз. дарав.** *Пост на сыр.* | 1 | **1 N. postu** Albina bisk. |
| П. | 17 | *Пачат. Вялік.посту.* сьв. Хвед. | 2 | Paŭły m. ☽ |
| А. | 18 | Сьв. Льва Папы Р. | 3 | Kuniehundy cez. |
| С. | 19 | Архіпа і Хвілімона. | 4 | **Such.** Kazimira. |
| Ч. | 20 | Агапопа | 5 | Jana ad kr. |
| П. | 21 | Цімахвея | 6 | **Such.** Felicyty. |
| С. | 22 | Пётры Стоўпніка, Хведара Т. | 7 | **Such.** Tamaša z akwinu. |
| Н. | 23 | **Нядз.1(2 т.)Вял.п.рад.пер.пр** | 8 | **2 N. postu.** Jana Božaha. |
| П. | 24 | Рамана Вугліцкага | 9 | Franciški Rym. |
| А. | 25 | Тараса | 10 | 40 mučanikaŭ. ⊙ |
| С. | 26 | Муч. Севасьцяна | 11 | Róžy Franc. i Pałahiei. |
| Ч. | 27 | Пракопа | 12 | Hryhora Wial. |
| П. | 28 | Марыны | 13 | Ničypara. |
| Сакавік | | | | |
| С. | 1 | Муч. Аўдоцьці | 14 | Matyldy kar. |
| Н. | 2 | **Нядз. 2 (3 т.) Вял. п. Грыг. П.** | 15 | **3 N postu.** Klemansa. |
| П. | 3 | Сьв. Зінона | 16 | Kiryjaka. |
| А. | 4 | Гарасіма, Данілы | 17 | Patrycyja. ☾ |
| С. | 5 | Марка | 18 | Kiryły Jeruz. |
| Ч. | 6 | Аркадзя. | 19 | **Jazepa ab. Dz. M.** |
| П. | 7 | Васіля і Ахрэма | 20 | Aŭchimy. |
| С. | 8 | Тэадарыта | 21 | Benedykta. |
| Н. | 9 | **Нядз.3 (4 т.)Вял.п. Крыжаўк.** | 22 | **4 N. Siarodpost.** Kac. šw. |
| П. | 10 | Кандрата, Купрыяна | 23 | Feliksa. |
| А. | 11 | Сапрона, Патрыяр. Еруз. | 24 | Haŭryły, Arch. ● |
| С. | 12 | Грыгора Двохслова Папы | 25 | **Zwiestawanie N. Dz. M.** |
| Ч. | 13 | Муч. Хрыстыны | 26 | Todara bisk. |
| П. | 14 | Расьціслава | 27 | Jana z Damasku. |
| С. | 15 | Муч. Агапа | 28 | Jana kapistr. |
| Н. | 16 | **Нядз.4.(5 т.)Вял.п. с.Івана Л.** | 29 | **5 N. postu.** Aŭstazja. |
| П. | 17 | Пр. Аляксея чалав. Б. | 30 | Jana Klimaka. |
| А. | 18 | Кірылы арх. Еруз. | 31 | Balbiny. |

**Усход і захад сонца.**

6 — 6.14 — 17.30
10 — 6.06 — 17.36
20 — 5.44 — 17.52
25 — 5.33 — 18.00

**Зьмены месяца.**

☽ Маладзік 2 а 11 г. 46 м.
⊙ Поўня 10 „ 14 г. 00 м.
☾ Ветах 17 „ 17 г. 01 м.
● Сход 24 „ 13 г. 42 м.

## Што рабіць у Сакавіку?

Гаспадару. Быць зусім гатовым да вясьняных работ, а асабліва мець на пагатове збожжа для пасеву. Трэба якнайлепш яго перавеяць Калі магчыма, дык пачаць земляробную працу. Перааараць зямлю, зьвязьці гной пад бульбу. Пачаць сеяць, дзе можна. Дзе суха, там баранаваць для пасеву канюшыны, а таксама зьбіраць каменьні з поля. Ягнят з лютага харашаць у канцы сакавіка. Сеяць капустную расаду. Скончыць у садзе ачыстку і пабелку дрэваў. Спушчаць ваду з дарог, робячы пратокі.

Гаспадыні. Ўясныдзень бяліць хату, вытрасаць пасьцелі і праветрываць хату. Маладым птушкам: куранятам, качанятам і іншым. даваць яду з сухога хлеба, размочанага ў малаку (чатыры разы ў дзень). Курам, каб больш нясьліся, трэба даваць пакрысе аўса.

Пчаляру. У першы ясны і цёплы дзень, калі па Рэамюру ў цені будзе 8 гр. цяплыні, пчолы вылятаюць з вульлёў, і першым аблётам, збываюць з сябе бруд, які застаўся на іх за час зімовае пары. Калі пчолы не вылятаюць з вульля, дык хухаць ў дзірачкі, даўшы цяпла ў вулей, альбо стукаць па вульлю. У той час, калі гучна пчолы адгукнуцца на стук у вулей, дык трэба пакінуць іх ў спакоі. Лепш калі пчолы ў добрым вульлі даўжэй ня робяць аблёту. Той вўлей, у якім няма знаку жыцьця, трэба адчыніць і аглядзець. Галодным пчолам, у якіх няма чаго есьці, трэба пакінуць адну ці дзьве запасныя рамкі з мёдам ў сярэдзіне гнязда. Слабыя пчолы пасьля зімы, ад недахвату корму можна ратаваць, абагрэўшы іх у цёплай хаце. Разагрэўшы, калі яны ажывуць, трэба накарміць і, калі выпадзе цёплы дзень, перагнаць да вульля. У час марозу трэба добра залажыць вочка, аблажыўшы вулей намочаным вадой мохам. Гнілыя вульлі трэба ўхіліць з пасекі. Сьнег, што каля вульлёў, трэбя адкінуць ў бок, альбо накідаць на яго саломы, каб хутчэй зьлез. Паставіць карыта з вадою і мохам на пасецы; можна пасаліць. Калі выпадаюць цёплыя дні, а здабытку для пчол яшчэ няма, дык паставіць у спакойным месцы прыправу з аўсянай мукі, каб даць пчолам працу і мець карысьць. Калі ёсьць 10 гр. цяплыні, трэба абчышчаць ад бруду вулей.

Апрѣль | Balandis

# КРАСАВІК

**Krasawik** (мае 30 дзень).

Kwiecień. | Цвѣтень (ст.-слав.).

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar. |
|---|---|---|---|---|
| Сакавік | | | | |
| С. | 19 | Муч. Дар'і. | 1 | Hugona b. ☽ |
| Ч. | 20 | Муч. Івана, Сяргея. | 2 | **7 baleściaŭ N Dz M.** |
| П. | 21 | Пр. Якуба еп. | 3 | Ryčarda b. |
| С. | 22 | Муч. Васіля. | 4 | Sidara b. |
| Н. | 23 | **Нядз. 5 (6 т.) Вял. п. Пам. св. М.** | 5 | **Wierbnaja N.** Wincen. F. |
| П. | 24 | Арцёма. | 6 | Wilhelma. |
| А. | 25 | **Сьв. Добравешчаньне.** | 7 | Epifanija b. |
| С. | 26 | Сабор Архістр. Гаўрылы. | 8 | Dzianisa b. |
| Ч. | 27 | Сьв. Матроны з Салуні. | 9 | **Wialiki Czaćwier.** ☉ |
| П. | 28 | Гіляр'я і Сьцяпана. | 10 | **Wialikaja Piatnica.** |
| С. | 29 | **Лазарава Субота** | 11 | **Wialikaja Subota.** |
| Н. | 30 | **Уваход Госп. Іс. Х. ў Ерусал.** | 12 | **Wialikdzień.** |
| П. | 31 | *Вялікі Панядзелак,* м. Іпата. | 13 | **Wialikdzień.** |
| Красавік | | | | |
| А. | 1 | *Вял. Аўторак,* Марыі Эгіп. | 14 | Justyna m. |
| С. | 2 | *Вял. Серада.* Ціта Цудатв. | 15 | Nastasii m. ☾ |
| Ч. | 3 | *Вял. Чацьвер.* Мікіты. | 16 | Benedykta, Jazepa L. |
| П. | 4 | *Вял. Пятніца.* Юрыя Малеіна | 17 | Aniceta. |
| С. | 5 | *Вял. Субота.* Хвядоры з Сал. | 18 | Tymona. |
| Н. | 6 | **Уваскрас. Госп. Іс. Хр.** | 19 | **Prawodnaja.** Sulpicyja. |
| П. | 7 | **Сьвет. Панядзел.** Акуліны. | 20 | Anzelma. |
| А. | 8 | **Сьвет. Аўтор.** Флегонта. | 21 | Bohumiła. |
| С. | 9 | **Сьвет. Серада.** Яззпа з Ар. | 22 | Safera i Kajia m. |
| Ч. | 10 | **Сьвет. Чацьв.** Муч. Цярэнц. | 23 | **Jura.** Wajciecha. ● |
| П. | 11 | **Сьвет. Пятніца.** М. Антыпа. | 24 | Fidelisa z Sihm. |
| С. | 12 | **Сьвет. Субота.** Васіля. | 25 | Marka Ewanh. |
| Н. | 13 | **Нядз. а Хамé (2 па Вял.).** | 26 | **2 N. pa Wialikad.** Kleta |
| П. | 14 | Сьв. Віл. Муч. Ант., Ів. і Аўст. | 27 | Teofila. |
| А. | 15 | *Радаўніца.* Трахіма. | 28 | Paŭły ad kryža. |
| С. | 16 | Муч. Леваніда. | 29 | Piotry z Werony. |
| Ч. | 17 | Сямёна. | 30 | Kaciaryny dz. |

**Усход і захад сонца.**

5 — 5.09 — 18.17
10 — 4.59 — 18.25
15 — 4.48 — 18.33
20 — 4.33 — 18.41
30 — 4.19 — 18.56

**Зьмены месяца.**

☽ Маладзік 1 а 7 г. 51 м.
☉ Поўня 9 а 3 г. 12 м.
☾ Ветах 15 а 23 г. 19 м.
● Сход 23 а 2 г. 08 м.

## Што рабіць у Красавіку?

Гаспадару. Перавеяць насеньне, вызначанае для пасеву. Быць гатовым да веснавой працы, а наагул, не марнуючы часу, ўсё сеяць у сваю пару. Баранаваць пшаніцу, аглядаць сенажаці раскідаючы гнёзды кратоў. Загадзя думаць аб патрэбных машынах і прыладах да касьбы сена і жніва. Старацца мець патрэбныя косы, а дзе ёсьць большая гаспадарка, там павінны быць жнеяркі. У садзе абкапаць усе дрэвы, садзіць прысады.

Гаспадыні. Сьцерагчы кажухі і ваўняную адзежу ад молі. Гаспадыня мае штораз то болей працы з хатнімі птушкамі. Кураняты, качаняты і інш. ў цяплейшы дзень выпушчаць на падворак Выганяць сьвіньні на пашу. Дзеці, калі ёсьць вольны час, няхай не марнуюць яго пустой гульнёю на выганох, а займаюцца навукай, бо прасьвета — гэта скарб для селяніна.

Пчаляру. Нельга рабіць адкладу пры даглядзе пчол. Калі ў вульлёх застаецца сьмяцьцё ад сухіх ападкаў, дык іх можна выбіраць у цяплейшыя дні, пакінуўшы пчолы ў спакоі. Пчолы, якія пасьля перазімку зрабіліся слабымі, трэба даглядзець і спраўдзіць ці ёсьць у іх матка. Паплясьнеўшыя і мокрыя рамкі выбраць, а сырыя застаўкі замяніць сьвежымі, альбо залажыць тыя самыя, добра перасушыўшы на сонцы. Пчалінае гняздо якнайменш халадзіць. Матачнік ізноў трэба назад закласьці. У пераменную пагоду, трэба праветрываць вулей, заклаўшы матачнік, каб пчолы заставаліся ў вульлі, не вылятали без патрэбы і ня гінулі. Пчолы, якія страцілі сваю матку, трэба далучыць да тых, што маюць яе. У гэты час зусім бескарысна пчолам бяз маткі пакідаць соты з чарвою, каб выгадаваць другую матку, бо няма трутня, які даў-бы плод. У цёплы дзень, калі ёсьць 15 гр., патрэбна аглядзець вульлі, даўшы ім цяпла. Упарадкаваць іх, а соты з трутнямі выкінуць, каб ня было ў вульлёх вільгаці. Пустыя вульлі выкінуць з пасекі. Для выхаду пчол за здабыткам, добрая пара ў палове красавіка, калі ўстановіцца пагода. Найлепшы гэта час перагону пчол з калодаў у рамачныя вульлі. Васкавыя адпадкі першатапіць, каб усьцерагчы пчолы ад матылёў і плесьні.

Май | Gegužis | Maj | Травень (ст.-слав.)

# ТРАВЕНЬ

**Trawień** (мае 31 дзень).

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар. | Новы стыль | Katalicki kalendar. |
|---|---|---|---|---|
| Красавік | | | | |
| П. | 18 | Віктара. | 1 | Pilipa i Jakuba ap. ☽ |
| С. | 19 | Івана. | 2 | Apanasa. |
| Н. | 20 | **Нядз.сьв.Каб.Міран.(3 па В.)** | 3 | **3 N. pa W.** Zn. Św. Kryža. |
| П. | 21 | Прокла. | 4 | Floryana i Moniki. |
| А. | 22 | Хведара Сікеота. | 5 | Piusa V pap. |
| С. | 23 | **Сьв. Вялікам. Юрыя Пер.** | 6 | Jana ū aleju. |
| Ч. | 24 | Муч. Саввы (Саўкі). | 7 | Damiceli m. |
| П. | 25 | Сьв. Марка Эвангелістага. | 8 | Stanisława b. m. ☉ |
| С. | 26 | Васіля. | 9 | Hryhora z Nazar. |
| Н. | 27 | **Нядз. аб Расслабл.(4 па Вял.)** | 10 | **4 N. pa Wial.** Sidara w. |
| П. | 28 | Кірылы еп. Тураўск. Віталя. | 11 | Franciška. |
| А. | 29 | Хвядота. | 12 | Pankrata m. |
| С. | 30 | Сьв. ап. Якуба. | 13 | Jana Maūczalnika. |
| Травень. | | | | |
| Ч. | 1 | **Макара, Мітрап. Кіеўск.** | 14 | Banifaca. |
| П. | 2 | Сьв. Апанаса Вял. | 15 | Jana z S., Zofji. ☾ |
| С. | 3 | Муч. Цімахвея. | 16 | Andreja Baboli. |
| Н. | 4 | **Нядз. аб Самаран. (5 па В.)** | 17 | **5 N. pa Wial.** Paschalisa. |
| П. | 5 | Муч. Арыны. | 18 | *Kryż. d.* Feliksa. |
| А. | 6 | Сьв. Іова многапакутн. | 19 | *Kryż. d.* Piotry Celestyna p. |
| С. | 7 | Пахома. | 20 | *Kryż. d.* Bernardyna z Sien. |
| Ч. | 8 | Сьв. Эвангел. Івана Багасл. | 21 | **Usšeście P. Jezusa.** |
| П. | 9 | **Пер. мошч. сьв. Міколы.** | 22 | Julii i Aleny. ● |
| С. | 10 | Сьв. Ап. Сымона. | 23 | Dezydera. |
| Н. | 11 | **Нядз.аб Сьляпым (6 па Вял.)** | 24 | **6 N. pa W.** Jahanny ūd. |
| П. | 12 | Апіфана. | 25 | Hryhora V p. |
| А. | 13 | Муч. Глікерыі. | 26 | Pilipa. |
| С. | 14 | Муч. Ісідара. | 27 | Bedy, Jana p. |
| Ч. | 15 | **Усшэсьце Госп. Іс. Хрыста.** | 28 | Aūhustyna. |
| П. | 16 | Муч. Мадэста. | 29 | Marji. |
| С. | 17 | Сьв. Ап. Андраніка. | 30 | *Wihilija.* Feliksa. ☽ |
| Н. | 18 | **Н. сьв. Айцоў I Сусьв. Саб.** | 31 | **Zych. Św. Ducha** (*siom*). |

**Усход і захад сонца.**

4 — 4.12 — 19.02
8 — 4.05 — 19.08
14 — 3.56 — 19.17
18 — 3.51 — 19.23
25 — 3.42 — 19.32

**Зьмены месяца.**

☽ Маладзік 1 a 2 г. 59 м.
☉ Поўня 8 a 13 г. 22 м.
☾ Ветах 15 a 5 г. 25 м.
● Сход 22 a 15 г. 28 м.
☽ Маладзік 30 a 19 г 44 м.

## Што рабіць у Траўні?

Гаспадару. Канчаць веснавыя пасевы, садзіць бульбу, сеяць грэчку, а ў канцы месяца проса. У канцы месяца садзіць капусту з расадніка і флянсаваць кармавыя буракі. Калі пшаніца выбуяла, дык трэба адрэзаць лісьцьцё. Пачаць прыгатаўляць ральлю пад азімыя пасевы. Мець на ўвазе, як і ў красавіку, што патрэбна для касьбы сена і жніва. Пераглядзець гэтыя прылады, паправіць, што трэба, купіць тое, чаго яшчэ няма. У канцы гэтага месяца баранаваць бульбу.

Гаспадыні. З кожным днём робіцца гарачэй і хто мае катух для курэй, дык павінен часта даваць ім сьвежае вады. Трэба добра карміць кураняты, качаняты, гусяняты і інш.

Пчаляру. Уставіць ў вульлі запасныя рамкі з сотамі. Можна пачаць падкармляць вульлі з чарвою, ў якіх ёсьць запас мёду. Гэта робіцца дзеля павялічаньня сілы пчол у першай палове месяца. Гэты месяц небясьпечны для пчаляра, бо часта пчолы ў гэтую пару гінуць ад голаду, дык трэба глядзець, каб у іх было ня менш, як 4 фунты мёду. Пчолы трымаць у цяпле. Не дапушчаць разводу трутняў, асабліва ў тых вульлёх, якія вызначаны на большы ўзятак. Умацоўваць вульлі раскладам паміж слабейшымі і моцнымі. Перад гэтым добра было-б папырскаць вулей часныком альбо камфораю напярэдадні ўвечары. Рабіць гэта трэба ў ясныя дні перад паўднём. Пчол у вульлі павінна быць у меру. Не дапушчаць, каб дарэмна гінуў восак. Адкрыць усе вылеты. Пры добрым даглядзе ў гэтым месяцы пчаляр можа мець вялікую карысьць ад пчол.

Паляўнічаму. У гэтым месяцы у добрага паляўнічага стрэльба адпачывае, ён навязвае паляўнічых сабак на ланцуг, і дае поўны спакой лесу і балоту, бо ў гэты час уся зьвярына і птушкі множацца. Наагул прапануецца паляваньне спыніць.

---

— 25 траўня 1905 г. быў надрукованы першы раз у расейскай газэце верш Янкі Купалы — «Мужык».

— 25 траўня 1917 г. памёр у Ялце поэт Максім Багдановіч.

**Іюнь** **Czerwiec**

**Birželis** **Изок** (ст.-слав.).

# ЧЭРВЕНЬ

**Czerwień** (мае 30 дзён).

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар. | Новы стыль | Katalicki kalendar. |
|---|---|---|---|---|
| **Травень.** | | | | |
| П. | 19 | Муч. Патрыкея. | 1 | **2 dz. Św.** Jakuba Strepy. |
| А. | 20 | Мікіты, Язэпа. | 2 | Marcel, Piotry Eraz. |
| С. | 21 | Цара Канстантына і Алёны. | 3 | **Such.** Klatyldy kar. |
| Ч. | 22 | Якуба. | 4 | Franciška. |
| П. | 23 | **Афрасіні, Прасьв. Беларусі** | 5 | **Such.** Bonifaca. |
| С. | 24 | Сямёна Стоўпніка. *Дзяды.* | 6 | **Such.** Norberta i Klaŭd. ☉ |
| Н. | 25 | **Сьв. Тройца** (*Сёмуха*). | 7 | **1 N. pa Z. S. D.** Roberta. |
| П. | 26 | **Дзень Сьв. Духа.** | 8 | Maksima b. m. |
| А. | 27 | Хверапонта і Ніла. | 9 | Felicyjana. |
| С. | 28 | Мікіты, Ігната і Сапрона. | 10 | Marharyty kar. |
| Ч. | 29 | Муч. Хвядосіі. | 11 | **Božaha Cieła.** |
| П. | 30 | Ісака. | 12 | Jana Fak., Andreja. |
| С. | 31 | Ярэмы. | 13 | Antona z Padui. ☾ |
| **Чэрвень.** | | | | |
| Н. | 1 | **Нядз. Усіх Сьвят. (1 па Сём.)** | 14 | **2 N. pa Z. S. D.** Bazyla W. |
| П. | 2 | Клаўдзя. *Пятроўка.* | 15 | Wita i Madesta. |
| А. | 3 | Лукьяна. | 16 | Jana Behisa. |
| С. | 4 | Сьв. Зьмітрапапа. | 17 | Adolfa b. |
| Ч. | 5 | Муч. Дарахвея і Леваніда. | 18 | Achrema. |
| П. | 6 | Гілярыя і Хвёклы. | 19 | Pratasa |
| С. | 7 | Муч. Хвядота. | 20 | Sylweryja. |
| Н. | 8 | **Нядз. 2.** Хведара Страціл. | 21 | **3 N. pa Z.S.D.** Alaiz. G. ● |
| П. | 9 | Сьв. Кірылы. | 22 | Paŭlina. |
| А. | 10 | Антаніны. | 23 | Hrypiny. |
| С. | 11 | Сьв. Баўтрамея. | 24 | Jana Chrysciciela. |
| Ч. | 12 | Анупрэя і Арсеня. | 25 | Wilhelma. |
| П. | 13 | Муч. Акуліны. | 26 | Jana i Paŭły m. |
| С. | 14 | Прар. Алісея. | 27 | Uładysława. |
| Н. | 15 | **Нядз. 3.** Муч. Мадэста. | 28 | **4 N. pa Z.S.D.** Law. II pap. |
| П. | 16 | Ціхана. | 29 | Piotry i Paŭły. ☽ |
| А. | 17 | Муч. Мануіла. | 30 | Amilii. |

**Усход і захад сонца.**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | 3.36 | 19.40 |
| 6 | 3.33 | 19.45 |
| 10 | 3.31 | 19.48 |
| 15 | 3.30 | 19.51 |
| 24 | 3.31 | 19.53 |

**Зьмены месяца.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ☉ | Поуня | 6 а | 21 г. | 27 м. |
| ☾ | Ветах | 13 а | 12 г. | 28 м. |
| ● | Сход | 21 а | 5 г. | 56 м. |
| ☽ | Маладзік | 29 а | 9 г. | 23 м |

## Што рабіць у Чэрвені?

Гаспадару. Бульбу ў пару разганяць і наагул палоць. Быць гатоваму да касьбы лугоў, пачынаючы з канюшыны. Мець усё напагатове да жніва. Ачысьціць ад павуціны і пылу гумно, ўпарадкаваць стайні, такі, прыгатовіць месца для сена. Нішчыць гусеніцу і хрушчы. Дакладна вычысьціць і праветрыць сьвірны.

Гаспадыні. У гэтым месяцы ёсьць шмат пільнай працы. Асьцярожна абходзіцца з агнем бо нядоўга да бяды, дзеля таго што час сухі. Рабіць сокі з малінаў і вішняў. Карміць парсюкоў канюшынай і лупінамі ад агародніны. Курэй ўжо не саджаць на яйкі. Гарачыня куранятам шкодзіць і шмат іх гіне ад сонца.

Пчаляру. Пачынаецца найгарачэйшы час працы у пасецы. У полі найбольш прыбывае красак, а ў вульлёх мёду. Цяпер, дзе цяпло устанавілася, дык дадаваць больш рамак, дапоўніць каля 6 чэрвеня. Застаўку з шыбай уставіць толькі цяпер. Калі пад вечар якога-кольвек дня прыкмеціш у апошнім соце поўнага вульля шмат пчол, дык гэта знак, што заўтра трэба даць падстаўку. Калі зарана даць падстаўку, або ў халодную пару, дык гэта можа пашкодзіць разьвіцьцю вульля, а калі спозьнішся — дык пашкодзіць пчолам раіцца. У палове месяца пчолы пачынаюць раіцца. Калі выходзяць раі, трэба пільнаваць. Лепшымі лічацца раі, якія выйшлі ў гэтым месяцы. Яны пасьпеюць умацавацца і дадаць сілы на зіму. Не дапушчаць раіцца пчолам тых вульлёў, якія вызначаны на ўзятак мёду. З падставак мёд трэба тады забіраць, калі пчолы пачынаюць яго ўжываць. Добра хаваць мёд у сухім, халодным месцы, злажыўшы ў шчыльную пасудзіну.

Паляўнічаму. У лесе павінен быць поўны спакой. Ляпей зусім не страляць да шкоднікаў, каб не палохаць маладое зьвярыны. Абараняць гнёзды курапатаў і перапёлак, косячы сена, сабак не выпушчаць на поле. Дазваляецца паляваньне на дзікоў, ласёў, сарняў, глухароў, цецярукоў, рабчыкаў і качуроў.

### ЖАРТ.

Раз у малой дзеўчынкі пыталіся: — Ці доўга Адам з Эвай жылі ў раі?

— Пакуль яблыкі пасьпелі,— кажа яна.

Іюль | **ЛІПЕНЬ** | Lipiec
Lepos | | Червень (ст.-слав.).

Lipień (мае 31 дзень)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар. | Новы стыль | Katalicki kalendar. |
|---|---|---|---|---|
| Чэрвень | | | | |
| С. | 18 | Муч. Лявона. | 1 | Teodoryka. |
| Ч. | 19 | Глеба. | 2 | Adwiedziny N. Dz. M. |
| П. | 20 | Сьв. Мяфода. | 3 | Anatola. |
| С. | 21 | Юльяна. | 4 | Todara b. |
| Н. | 22 | **Нядз. 4** Муч. Аўсея. | 5 | **5 Niadz. po Z.S.D.** Ant. |
| П. | 23 | Муч. Грыпіны. | 6 | Lucei. ☉ |
| А. | 24 | **Ражство Івана Хр.**(*Купальле*) | 7 | Kiryły i Miafoda. |
| С. | 25 | Давіда. | 8 | Alżbiety. |
| Ч. | 26 | Давіда з Салуні. | 9 | Wieraniki. |
| П. | 27 | Марціна. | 10 | 7 bratoŭ mučanikaŭ. |
| С. | 28 | Сяргея. *Канец Пятроўкі.* | 11 | Piełahiei dz. |
| Н. | 29 | **Нядз. 5. С. Пётры і Паўлы.** | 12 | **6 Niadz. pa Z. S. D.** ☾ |
| П. | 30 | Сабор 12 апосталаў. | 13 | Anakleta. |
| Ліпень | | | | |
| А. | 1 | Муч. Кузьмы і Дзям'яна. | 14 | Bonawentury. |
| С. | 2 | Сьв. Ювэналія. | 15 | Henryka. |
| Ч. | 3 | Анатоля і Яраслава. | 16 | **M. B. Škaplernaie.** |
| П. | 4 | Сьв. Андрэя Крыцкага. | 17 | Alaksieja. |
| С. | 5 | Сьв. Сяргея з Раданежу. | 18 | Symona z Lipnicy. |
| Н. | 6 | **Нядз. 6.** Марты. | 19 | **7 Niadz pa Z. S. D.** Winc. |
| П. | 7 | Хамы. | 20 | Haronima. ● |
| А. | 8 | Муч. Пракопа. | 21 | Praksedy dz. |
| С. | 9 | Муч. Панкрата. | 22 | Maryi Mahdaleny. |
| Ч. | 10 | Антона Пячэрскага. | 23 | Apalinara m. |
| П. | 11 | Кн. Вольгі. | 24 | Krystyny dz. |
| С. | 12 | Прокла і Міхала. | 25 | Jakuba ap. |
| Н. | 13 | **Нядз. 7.** Сабор Архан. Гаўр. | 26 | **8 Niadz. pa Z.S.D.** Hanny |
| П. | 14 | Анісіма. | 27 | Rudolfa. |
| А. | 15 | Сьв. Кн. Ўладымера. | 28 | Wiktara. ☽ |
| С. | 16 | Памяць перш. 6-ёх сусьв. саб. | 29 | Marty dz. |
| Ч. | 17 | Муч. Марыны. | 30 | Aldony. |
| П. | 18 | Муч. Амельяна. | 31 | Ihnata Lajoły, Heleny. |

**Усход і захад сонца.**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | 3.34 | 19.53 |
| 5 | 3.37 | 19.51 |
| 12 | 3.43 | 19.47 |
| 20 | 3.52 | 19.39 |
| 25 | 3.58 | 19.33 |

**Зьмены месяца.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ☉ Поўня | 6 а | 4 г. | 33 м. |
| ☾ Ветах | 12 а | 21 г. | 14 м. |
| ● Сход | 20 а | 21 г. | 19 м. |
| ☽ Маладзік | 28 а | 20 г. | 02 м. |

## Што рабіць у Ліпні?

Гаспадару. Канчаць касьбу і не пазьніцца са жнівом. Парадкаваць будынкі для складу. Лепей, калі яны трымаюцца у холадзе. Дзеля гэтага добра бяліць сьцены вапнай. Трэба трымаць у парадку гаспадарчыя рэчы і прылады: бочкі, кадушкі, вёдры, і г. д.

Гаспадыні. У вялікую жару, калі малако хутка кісьне, дасыпаць да яго крышачку ачышчанае соды. Каб ад жары ня тухла мяса—хаваць яго ў цені з паўночнага боку. Не пазваляць курам выводзіцца (не саджаць іх на яйкі).

Пчаляру. Гэты месяц больш усяго рояцца пчолы. Не забываць з надставак зьбіраць мёд. Рамак не нахіляць, каб не ламаліся. Таксама даглядаць вульлі з новымі маткамі. Пчолам, якія ня маюць маткі, палажыць соты з чарвою. Але лепей забясьпечваць запаснымі маткамі з другіх вульлёў. Калі ідзе праца ў рамачных вульлёх без надставак, нельга браць сотаў з чарвою, памятаючы аб харчох на зіму. Трэба 6 рамак з мёдам пакінуць у вульлі, каб ня мець клопату аб недахваце корму. Спозьненымі трэба лічыць, тыя раі, якія выйшлі ў першай палове гэтага месяца; пазьнейшыя вяртаць, або ўзмацоўваць імі слабейшыя, нядаўна асаджаныя. Перавозіць калоды ў лепшыя ваколіцы, дзе болей мядовых расьлін і пазьнейшых (грэчні, верасьнякі).

Паляўнічаму. Пільнаваць, каб дзеці ня нішчылі гнёздаў птушак, не лавілі малодых зайцоў, і наагул даць магчымасьць усім птушкам і зьвярыне падрасьці. Можна паляваць на дзікоў, ласёў, сарняў і самцоў, глухароў, цецярукоў, рабчыкаў (самцоў) і пералётных птушак.

## З беларускай географіі.

### ПУШЧЫ.

**Белавежаская** пушча мае больш 100.000 дзесяцін. Належала ўперад да польскіх каралёў, пасьля да расейскіх цароў. У Белав. пушчы вяліся зубры. Досіць вялікая пушча— Налібоцкая у Ашмянскім пав. Пасьля Горадзенская і Аўгустоўская. Усе гэтыя пушчы ў значнай часьці цяпер зьнішчаны, павысяканы. Беларусь, гэта край лясоў. Усяго лясоў на Беларусі 9.500.000 дзес. на агульны прастор 31 міл. дзес. Самы лясны край — Палесьсе, маець 3 міл. дзес. лесу.

**Августъ** | **Rugpiutis**

# ЖНІВЕНЬ

**Źniwień** (мае 31 дзень).

**Sierpień** | **Зарев** (ст.-слав.)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар. | Новы стыль | Katalicki kalendar. |
|---|---|---|---|---|
| Ліпень. | | | | |
| С. | 19 | Макрыны. | 1 | Piotry ŭ akowach. |
| Н. | 20 | **Нядз. 8. Сьв. прар. Ільлі.** | 2 | **9 N. pa Z.S.D. N.D.M.An.** |
| П. | 21 | Сымона. | 3 | Znach. Relikw. św. Sciap. |
| А. | 22 | Сьв. Марыі Магдалены. | 4 | Daminika. ☉ |
| С. | 23 | Муч. Трахіма. | 5 | M. B. Śnieżnaj. |
| Ч. | 24 | Муч. Хрысьціны, Барыса. | 6 | **Pieraabraż. P. Jezusa.** |
| П. | 25 | Сьв. Ганны. | 7 | Kajetana. |
| С. | 26 | Муч. Параскі, Ермалая. | 8 | Kiryjaka. |
| Н. | 27 | **Нядз. 9.** Анфісы. | 9 | **10 Niadz. pa Z. S. D.** |
| П. | 28 | Прохара. | 10 | Łauryna. |
| А. | 29 | Муч. Калініка. | 11 | Zuzanny. ☾ |
| С. | 30 | Сілуана. | 12 | Klary dz. |
| Ч. | 31 | Аўдакіма. | 13 | Hipalita i Kaśjana. |
| Жнівень. | | | | |
| П. | 1 | Муч. Макавеяў. *Пач. Спасаўкі* | 14 | *Wihil.* Aŭsieja. |
| С. | 2 | Васіля. | 15 | **Unie bauziaćcie N.D.M.** |
| Н. | 3 | **Нядз. 10.** Ісака. | 16 | **11 Niadz. pa Z. S. D.** |
| П. | 4 | Аўдоцьці. | 17 | Jacka. |
| А. | 5 | Муч. Аўсьцігнея. | 18 | Aleny. |
| С. | 6 | **Пераабр. Госп. Іс. Хрыста** | 19 | Ludwika Toloź. ● |
| Ч. | 7 | Пімана. | 20 | Bernarda. |
| П. | 8 | Грыгора. | 21 | Jahanny. |
| С. | 9 | Сьв. ап. Мацея. | 22 | Cimachwieja. |
| Н. | 10 | **Нядз. 11.** Муч. Лаўрына. | 23 | **12 Niadz. pa Z. S. D.** |
| П. | 11 | Муч. Сусанны. | 24 | Baŭtramieja. |
| А. | 12 | Капітона. | 25 | Ludwika kar. |
| С. | 13 | Максіма, Ціхана Задонск. | 26 | **M. B. Czanstachoŭsk.** |
| Ч. | 14 | Сьв. прар. Міхея. *Канец Спас.* | 27 | Jazepa Kalas. ☽ |
| П. | 15 | **Усьп. Прачыст. Багародз.** | 28 | Aŭhustyna. |
| С. | 16 | Нярукатв. Абраза (3-ці Спас) | 29 | Ściaćcie haławy Jana Ch. |
| Н. | 17 | **Нядз. 12.** Муч. Мірона. | 30 | **13 Niadz. pa Z. S. D.** |
| П. | 18 | Хлора і Лаўра. | 31 | Rajmunda. |

**Усход і захад сонца.**

1 — 4.08 — 19.23
6 — 4.15 — 19.15
12 — 4.24 — 19.05
20 — 4.36 — 18.50
25 — 4.43 — 18.40

**Зьмены месяца.**

☉ Поуня 4 а 11 г. 39 м.
☾ Ветах 11 „ 8 г. 50 м.
● Сход 19 „ 12 г. 54 м.
☽ Маладзік 27 „ 4 г. 26 м.

## Што рабіць у Жніўні?

Гаспадару. Намалочанае збожжа трэба добра перавеяць і трымаць у адкрытых засеках. Прыгатовіць збожжа на новы пасеў. Стагі сена акапаць раўкамі, і забясьпечыць іх ад палявых мышэй. Сьвіней трымаць у халодным месцы і карміць іх зяленівам; нішчыць мухі.

Гаспадыні. Пільнаваць, каб дзеці ня пілі нячыстае вады. Для жнеяў пасылаць у поле халодны хлебны квас. Трымаць чыста катухі, каб не заводзілася ўсялякая зараза. Жывы інвэнтар падзяліць. Мацнейшы затрымаць на гадоўлю, а горшы скарыстаць самому, альбо прадаць.

Пчаляру. Мёд перастае прыбываць у надстаўках. Калі пачнуцца халодныя ночы, забраць надстаўкі і пачаць строіць гнёзды на зіму. Замест некаторых рамак для гнёздаў, трэба пакінуць сотавыя на зімовую пару. Гнёзды складаць трэба з 6 альбо 9 рамкаў, гледзячы па сіле пчол. Вульлі з слабымі пчоламі можна скасаваць.

Паляўнічаму. У палове месяца можна пачаць паляваньне на аленяў, курапат, а таксама на балотных птушак. Зьнішчажаць шкоднікаў, дзікіх катоў, якія лазяць па лесе.

Дазваляецца паляваць на дзікоў, ласёў (самцоў), глухароў, цецярукоў і іншых пералётных ..тушак.

## З БЕЛАРУСКАЕ ПОЭЗІІ.

### ДЗЕ?

Дзе вы, цудоўныя казкі дзяцінныя
З ясным спакоем вясны?
Дзе вы, чароўныя годы бязьвінныя,
Шчасьця мінулага сны?

Матчынай ласкі уцеха прытульная,
Звону царкоўнага гук?
Удзень з кампанамі забава агульная,
Радасьць тых школьных навук?

Дзе ты, далёкая воля нязьмерная,
Зорка бясклопатных дзён?
Гутарка дзеда старога вячэрняя
Пра скасаваны прыгон?

Усё адыйшло так далёка ў мінулае,
Зноў не паўстане яно!
Моцна сьпяць дзедавы косьці бясчулыя,
Дзе кампаны—ня чутно...

*Краўцоў Макар.*

Сентябрь
Rugseis

# ВЕРАСЕНЬ

Wierasień (мае 30 дзён).

Wrzesień
Зорев
(ст.-слав.).

| Дні. | Стары стыль. | Праваслаўны календар. | Новы стыль. | Katalicki kalendar. |
|---|---|---|---|---|
| Жнівень. | | | | |
| А. | 19 | Муч. Андрэя Страцілата. | 1 | Branisławy. |
| С. | 20 | Самуіла. | 2 | Ściapana kar. ⊙ |
| Ч. | 21 | Сьв. ап. Хвадзея. | 3 | Zenona. |
| П. | 22 | Муч. Сэвэр'яна. | 4 | Razali dz. |
| С. | 23 | Калініка. | 5 | Łaŭryna Just. |
| Н. | 24 | **Нядз. 13.** Арсеня і Пётры. | 6 | **14 Niadz. pa Z. S. D.** |
| П. | 25 | Баўтрамея і Ціта. | 7 | Melchiora Hrodz. |
| А. | 26 | Муч. Натальлі. | 8 | **Naradźeńnie N. Dz. M** |
| С. | 27 | Пімана Вялікага. | 9 | Siarheja, Piotry. ☾ |
| Ч. | 28 | Майсея Мурына. | 10 | Mikałaja z Tol. |
| П. | 29 | **Сьцяцьце гал. Івана Хр.** | 11 | Prota i Jacka m. m. |
| С. | 30 | Аляксандра. | 12 | **Najsw. Imieńnia Marji.** |
| Н. | 31 | **Нядз. 14.** Генадзія. | 13 | **15 Niadz. pa Z. S. D.** |
| Верасень | | | | |
| П. | 1 | Марты. | 14 | **Uźwižańnie św. Krzyža** |
| А. | 2 | Івана Постніка. | 15 | *Baleści M. B.* Nikadema. |
| С. | 3 | Домны. | 16 | **Such.** Karnela i Kipryjana. |
| Ч. | 4 | Сьв. Прар. Масея. | 17 | Znakoŭ Franc. As. |
| П. | 5 | Захара і Альжбеты. | 18 | **Such.** Jazepa z Kupert. ● |
| С. | 6 | Архіпа. | 19 | **Such.** Januara. |
| Н. | 7 | **Няд.пер.Узьвіж.(15 па Сём.)** | 20 | **16 Niadz. pa Z. S. D.** |
| П. | 8 | **Нараджж. Прач. Багародз.** | 21 | Macieja. |
| А. | 9 | Сьв. Якіма і Ганны. | 22 | Tamasza. |
| С. | 10 | Паўлы Пячэрскага. | 23 | Tekli. |
| Ч. | 11 | Хвядоры. | 24 | **N. Dz. M. adkup. z niaw.** |
| П. | 12 | Апанаса і Сымона. | 25 | Uładysława. ☽ |
| С. | 13 | Карнілія. | 26 | Kipryjana i Justyny. |
| Н. | 14 | **Нядз. 16. Узьвіж. Жыц. Кр.** | 27 | **17 Niadz. pa Z. S. D.** |
| П. | 15 | Мікіты і Максіма. | 28 | Wacława. |
| А. | 16 | Людзьмілы і Пракопа. | 29 | Michała Archanheła. |
| С. | 17 | Веры, Надзеі і Любові. | 30 | Haronima. |

**Усход і захад сонца.**

1 — 4.54 — 18.25
10 — 5.07 — 18.06
17 — 5.18 — 17.51
25 — 5.30 — 17.33
30 — 5.37 — 17.22

**Зьмены месяца.**

⊙ Поўня 2 а 19 г. 33 м.
☾ Ветах 9 а 23 г. 51 м.
● Сход 18 а 3 г. 52 м.
☽ Маладзік 25 а 11 г. 30 м.

## Што рабіць у Верасьні?

Гаспадару. Аблічыць запас саломы, корму і збожжа, ці хопіць яго да новага жніва. Калі хатнюю жывёлу пакінулі пасьвіць, дык трэба патроху даваць ёй сена. Выганяць у лес сьвіней есьці жалуды. Капаць ямы пад фруктовыя дрэвы, якія садзяцца ўвосень. Не пазьніцца з капаньнем бульбы. Капцоў з бульбаю, пакуль што, занадта не абсыпаць і дбаць аб праветраваньні.

Гаспадыні. Зьбіраць і сушыць грыбы, марынаваць рыжкі, квасіць агуркі, умела захоўваць фрукты. Даваць курам лепшы корм, каб лепей апераліся. Выганяць індыкі на пожні, гусі і качкі— на траву.

Пчаляру. Матка ў гэтым месяцы яечак не кладзе і чарвы ў палове месяца звычайна няма. Касаваць вульлі з слабымі пчоламі, альбо са старымі маткамі, далучаючы ў іншыя вульлі.

Для забесьпячэньня гнязда ў вульлі трэба пааабкладаць вульлі зробленымі з моху падушкамі альбо матамі з саломы. Зачыніць вылёты, пакінуўшы адзін праход, як для двух пчол, каб уратаваць мёд ад рабунку. Вульлёў з слабымі і беднымі мёдам пчоламі абавязкова на зіму не пакідаць. Калі брак мёду, дык можна карміць пчолы толькі цукровым сыропам. Карытца падаваць на ноч, а ўдзень забіраць. Яду даваць часткамі з пярэрвамі ў два дні, бо матка пачне класьці яйкі. Цукровы сыроп рабіць гэтак:

На адзін фунт цукру, адна шклянка вады, і варыцца датуль, пакуль шума ня зробіцца белаю. Даваць сыроп пчолам трэба летні, альбо астуджаны. Пчалярскія прылады і судзіны вычысьціць і схаваць.

Паляўнічаму. Паляваць ужо дазваляецца на ўсіх птушак і зьвяроў. Трэба устрымоўвацца толькі ад паляваньня на аленяў і дзікіх козаў.

## З БЕЛАРУСКАЕ ПОЭЗІІ.

### ХМАРЫ.

Як ліхія думкі-мысьлі,
Над зямлёю хмары зьвісьлі.
— Ой, вы, хмары! што вы сталі?
Што вы неба нам заслалі?
Скрылі сонца, чарадою
Таучэцёся над зямлёю?
Чаму улетку над палямі
Ня ліліся вы сьлязамі? —
— А нас ветры так сушылі! —
Чаму збожжа не мачылі?
Як гарэлі нашы нівы,
Тагды, хмары, гдзе былі вы? —
Мы на неба пазіралі,
Вокам, хмары, вас шукалі.
Сохла праца наша у полі...
— Як мы, хмары, вы— без волі!

Якуб Колас.

**Октябрь**

**Spalio**

# КАСТРЫЧНІК

**Kastrycznik** (мае 31 дзень).

**Październik**

**Лістопад**

(ст.-слав.).

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar. |
|---|---|---|---|---|
| Верасень | | | | |
| Ч. | 18 | Муч. Арыны. | 1 | **M. B. Rażancowaj.** |
| П. | 19 | Муч. Трахіма. | 2 | Aniołaŭ Wartaŭnikoŭ. ⊙ |
| С. | 20 | Муч. Аўстахея, Алега. | 3 | Kandyda. |
| Н. | 21 | **Нядз. 17.** Сьв. мітрап. Зьм. | 4 | **18 Niadz. pa Z. Sw. D.** |
| П. | 22 | Прар. Іоны. | 5 | Brunona. |
| А. | 23 | М. Андрэя, Івана і Пётры. | 6 | Marka. |
| С. | 24 | Сьв. першамуч. Тэклі. | 7 | Bryhidy. |
| Ч. | 25 | Афрасіньні і Сяргея. | 8 | Dzianisa. |
| П. | 26 | Сьв. Ап. і Эванг. Івана Бог. | 9 | Franciška Bordżyl. ☾ |
| С. | 27 | Савацея. | 10 | Św. Placyda. |
| Н. | 28 | **Нядз. 18.** Харытона і Вячасл. | 11 | **19 Niadz. pa Z. Sw. D.** |
| П. | 29 | Кіпрыяна. | 12 | Maks. |
| А. | 30 | Грыгора і Міхала. | 13 | Adwardaha. |
| Кастрыч. | | | | |
| С. | 1 | **Пакрава Прач. Багародз.** | 14 | Kaliksta. |
| Ч. | 2 | Муч. Усьціны. | 15 | Jadwihi i Tareşi. |
| П. | 3 | Муч. Дзяніса. | 16 | Gerarda. |
| С. | 4 | Муч. Ерафея. | 17 | Maryi Marharyty Al. ● |
| Н. | 5 | **Нядз. 19.** Сьв. Пётры і Аляк. | 18 | **20 Niadz. pa Z. Sw. D.** |
| П. | 6 | Сьв. Ап. Хамы. | 19 | Piotry z Alk. |
| А. | 7 | Муч. Сяргея. | 20 | Jana kant. |
| С. | 8 | Пелагеі. | 21 | Uršuli. |
| Ч. | 9 | Сьв. Ап. Якуба. | 22 | Karduli. |
| П. | 10 | Муч. Сымона, Гілярыя. | 23 | Serwanda i Germana. |
| С. | 11 | Сьв. Ап. Піліпа, муч. Зінаіды | 24 | Rafała Archan. ☽ |
| Н. | 12 | **Нядз. 20.** Кузьмы і Тараса. | 25 | **21 Niadz. pa Z. Sw. D.** |
| П. | 13 | Муч. Карпа. | 26 | Ewarys. |
| А. | 14 | Назара і Параскі. | 27 | Sabiny dz. |
| С. | 15 | Муч. Лукьяна. | 28 | Symona i Tadeuša. |
| Ч. | 16 | Аўпраксеі. | 29 | Narcyza m. |
| П. | 17 | Муч. Андрэя Крыцкага. | 30 | Alfonsa. |
| С. | 18 | Сьв. Ап. і эвангел. Лукі. | 31 | *Wiȟilija.* Wolfganda. ⊙ |

**Усход і захад сонца.**

6 — 5.47 — 17.09
10 — 5.53 — 17.00
15 — 6.01 — 16.50
21 — 6.10 — 16.38
27 — 6.20 — 16.27

**Зьмены месяца.**

⊙ Поўня 2 а 5 г. 02 м.
☾ Ветах 9 а 18 г. 14 м.
● Сход 17 а 17 г. 45 м.
☽ Маладзік 24 а 18 г. 17 м.
⊙ Поўня 31 а 16 г. 56 м.

## Што рабіць у Кастрычніку?

Гаспадару. Трэба аглядаць бароны, сохі, плугі, жнеяркі, сеялкі; вычысьціць іх, нашмараваць жалезныя часткі іх і схаваць. Аглядзець усе будынкі, залатаць у іх дзіркі, пашкліць вокны, зрапараваць дах, наагул добра аглядзець, як хату, так і будынкі для жывёлы. Аглядзець і ачысьціць равы, асабліва ў месцах, дзе праяжджалі з цяжарам. У садзе шмараваць дрэвы і больШыя галіны мешанінаю вапны з быдлячым гноем. У лесе зьбіраць каштаны і жалуды. У канцы месяца добра аглядзець варыўню перад маразамі. Садзіць пладавыя дрэвы і кусты.

Гаспадыні. Квасіць капусту, агуркі і буракі, сушыць грыбы, варыць брушніцы і наагул зрабіць запасы ўсяго на зіму.

Пчаляру. Спыніць падкорм пчол. Гнёзды павінны ўжо быць агледжаны на зіму саўсім і вочкі пазавязваны. Калі надайдуць халаднейшыя дні, дык забясьпечыць вылёты ад птушак і мышэй. Шыбы трэба ўхіліць з вульлёў, бо зьбіралі-б вільгаць.

Паляўнічаму. Спыняецца паляваньне на курапат і робяцца для іх будкі. Зьбіраць жалуды, каштаны і інш. на корм для зьвярыны. Дазваляецца паляваць на дзікоў, зайцоў, цецярўкоў, гусей і іншых птушак.

**Ноябрь**
**Lapkritis**

# ЛІСТАПАД

**Listapad** (мае 30 дзён).

**Listopad**
**Груденъ**
(ст.-слав.).

| Дні | Праваслаўны календар. | Дні | Katalicki kalendar. |
|---|---|---|---|
| Кастрыч. Н. 19 | Нядз. 21. Лукона. | 1 | **22 Niadz. Pa Z. Ś. D.** |
| | | 2 | Bahdana. *Dziady.* |
| | | 3 | Huberta. |
| | | 4 | Karala Barameja. |
| | . | 5 | Zachara i Alžbiety. |
| | | 6 | Leanarda. |
| | | 7 | Nikandra. |
| | ал. | 8 | **23 Niadz. pa Z. Ś. D.** ☾ |
| | | 9 | Todara. |
| | | 10 | Andreja z Awelinu. |
| | | 11 | Marcina b. |
| | | 12 | Marcina pap. |
| | | 13 | Stanisława Kostki. |
| | | 14 | Jazafata. |
| | | 15 | **24 Niadz. pa Z. Ś. D.** |
| | | 16 | M.B. Wostrabramskaje. ● |
| | | 17 | Hryhora. |
| | | 18 | Ramana. |
| | | 19 | Alžbiety kar. |
| | | 20 | Feliksa Walua. |
| | | 21 | **Achwiaraw. N. Dz. M.** |
| | та | 22 | **25 Niadz. pa Z. Ś. D.** |
| | | 23 | Klemensa. ☽ |
| | | 24 | Jana ad Kryža. |
| | | 25 | Kaciaryny. |
| | | 26 | Leanar à Porto-Maŭro. |
| | | 27 | Jakuba, Walerjana. |
| | | 28 | Aŭstachieja. |
| | | 29 | **1 Niadz. Adwentu.** |
| | | 30 | Andreja ap. ☉ |

**Зьмены месяца.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| ☾ | Ветах | 8 а | 14 г. 53 м. |
| ● | Сход | 16 а | 6 г. 37 м. |
| ☽ | Маладзік | 23 а | 1 г. 45 м. |
| ☉ | Поўня | 30 а | 7 г. 51 м. |

**Ноябрь** **ЛІСТАПАД** **Listopad**

**Lapkritis** **Грудень** (ст.-слав.)

**Listapad** (мае 30 дзён).

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар |
|---|---|---|
| Кастрыч. | | |
| Н. | 19 | **Нядз. 21.** Лявона. |
| П. | 19 | Муч. Трахіма. |
| С. | 20 | Муч. Аўстахея, Алега. |
| Н. | 21 | **Нядз. 17.** Сьв. мітрап. З. |
| П. | 22 | Прар. Іоны. |
| А. | 23 | М. Андрэя, Івана і Пётр |
| С. | 24 | Сьв. першамуч. Тэклі. |
| Ч. | 25 | Афрасіньні і Сяргея. |
| П. | 26 | Сьв. Ап. і Эванг. Івана |
| С. | 27 | Савацея. |
| Н. | 28 | **Нядз. 18.** Харытона і Вяч |
| П. | 29 | Кіпрыяна. |
| А. | 30 | Грыгора і Міхала. |
| Кастрыч. | | |
| С. | 1 | **Пакрава Прач. Багарод** |
| Ч. | 2 | Муч. Усьціны. |
| П. | 3 | Муч. Дзяніса. |
| С. | 4 | Муч. Ерафея. |
| Н. | 5 | **Нядз. 19.** Сьв. Пётры і А |
| П. | 6 | Сьв. Ап. Хамы. |
| А. | 7 | Муч. Сяргея. |
| С. | 8 | Пелагеі. |
| Ч. | 9 | Сьв. Ап. Якуба. |
| П. | 10 | Муч. Сымона, Гілярыя. |
| С. | 11 | Сьв. Ап. Піліпа, муч. Зін |
| Н. | 12 | **Нядз. 20.** Кузьмы і Тара |
| П. | 13 | Муч. Карпа. |
| А. | 14 | Назара і Параскі. |
| С. | 15 | Муч. Лукьяна. |
| Ч. | 16 | Аўпраксеі. |
| П. | 17 | Муч. Андрэя Крыцкага. |
| С. | 18 | Сьв. Ап. і эвангел. Лукі. |

| Новы стыль | Katalicki kalendar. |
|---|---|
| 1 | **22 Niadz. Pa Z. Ś. D.** |
| 2 | Bahdana. *Dziady.* |
| 3 | Huberta. |
| 4 | Karala Barameja. |
| 5 | Zachara i Alžbiety. |
| 6 | Leanarda. |
| 7 | Nikandra. |
| 8 | **23 Niadz. pa Z. Ś. D.** ☾ |
| 9 | Todara. |
| 10 | Andreja z Awelinu. |
| 11 | Marcina b. |
| 12 | Marcina pap. |
| 13 | Stanisława Kostki. |
| 14 | Jazafata. |
| 15 | **24 Niadz. pa Z. Ś. D.** |
| 16 | M. B. Wostrabramskaje. ● |
| 17 | Hryhora. |
| 18 | Ramana. |
| 19 | Alžbiety kar. |
| 20 | Feliksa Walua. |
| 21 | **Achwiaraw. N. Dz. M.** |
| 22 | **25 Niadz. pa Z. Ś. D.** |
| 23 | Klemensa. ☽ |
| 24 | Jana ad Kryža. |
| 25 | Kaciaryny. |
| 26 | Leanar à Porto-Maūro. |
| 27 | Jakuba, Walerjana. |
| 28 | Aūstachieja. |
| 29 | **1 Niadz. Adwentu.** |
| 30 | Andreja ap. ☉ |

**Усход і захад сонца.**

| | | |
|---|---|---|
| 6 | 5.47 | 17.09 |
| 10 | 5.53 | 17.00 |
| 15 | 6.01 | 16.50 |
| 21 | 6.10 | 16.38 |
| 27 | 6.20 | 16.27 |

**Зьмены месяца.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| ☾ Ветах | 8 а 14 г. | 53 м. |
| ● Сход | 16 а 6 г. | 37 м. |
| ☽ Маладзік | 23 а 1 г. | 45 м. |
| ☉ Поўня | 30 а 7 г. | 51 м. |

## Што рабіць у Лістападзе?

Гаспадару. Аглядзець капцы з бульбай і агародніной. Хатнюю жывёлу чысьціць і паіць ня вельмі халоднаю вадою. Цельныя каровы паставіць асобна. Птушкі добра карміць. У маладым садзе акруціць дзярэўцы саломай, каб іх не маглі псаваць зайцы.

Гаспадыні. Пачаць прасьці і скубсьці пер'е. Аглядзець вопраткі. Глядзець за чыстатою хатніх птушак, худыя з іх прадаць, каб дарэмна не зьядалі збожжа.

Пчаляру. Часта аглядаць вульлі, але ня трывожачы пчол. Падкармліваць ужо нельга. Перад вялікімі маразамі асьцярожна перанясьці вульлі ў ціхае месца ад ветру і сьнегу. Калі ёсьць асобнае памешканьне, зробленае для зімоўкі вульлёў, дык у ім павінна быць цёпла ня вышэй як 6 гр. па Рэамюру. Таксама старацца, каб не заводзіліся тамака мышы, але ня пушчаць туды катоў. Вылётаў зусім не зачыняць, але забясьпечыць іх ад ветру і завеі. Добра, калі вылёты будуць заслонены яліною ці ялаўцом ад птушак і мышэй.

Паляўнічаму. Паляваць дазваляецца на дзікоў, ваўкоў, зайцоў, цецярукоў, лісоў і г. д. Нельга паляваць на ласёў, аленяў, дзікіх казаў. Што тычыцца ваўкоў, дык на іх дазваляецца паляваць увесь год.

---

### З белар. сцэнічнае творчасьці.

... „Не шкадуйце ран свае душы! Рвеце іх кіпцямі, няхай пасочыцца з іх сьвежая кроў, бо яна дасьць жыцьцё несьмяротнай кветцы хараства. Не шкадуйце свае душы! Сьцёбайце яе бічом вашай думкі, як сьвятыя бічавалі сваё цела, — а тагды змучаны дух ваш адслужыць службу Вечнасьці!..“

*Ф. Аляхновіч.*

(„Цені“. Акт I, зьява 9).

ооо

### Прыказкі.

Прыдзе пара, будзе й трава.

Ня ўсё тое сонца, што глядзіць уваконца.

У сваім краі, як у раі.

Ноч матка, а дзень бацька.

Як дуду падзьмеш, так дуда і грае.

ооо

### Беларускі гумар.

— Чаму праваслаўных беларусаў вучаць веры парасейску, а каталікоў — папольску?

— А таму, каб беларус нікому ня верыў, а свой розум меў.

Декабрь Gruodis

# СЬНЕЖАНЬ

**Sniežań** (мае 31 дзень).

Grudzień

Студэн (ст.-слав.).

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар. | Новы стыль | Katalicki kalendar. |
|---|---|---|---|---|
| Лістапад | | | | |
| А. | 18 | Платона й Рамана. | 1 | Flihija i Natalli. |
| С. | 19 | Сьв. прар. Аўдзея. | 2 | Bibjany. |
| Ч. | 20 | Грыгора Дэкаполіта. | 3 | Franciška Ksaw. |
| П. | 21 | **Увядз. ў храм Прач. Багар.** | 4 | Barbary m. |
| С. | 22 | Сьв. ап. Хвілімона. | 5 | Sawwy. |
| Н. | 23 | **Нядз. 26.** Зьмітрапана. | 6 | **2 n. Adwentu.** Mikałaja b. |
| П. | 24 | Муч. Кацярыны. | 7 | Ambožaha. |
| А. | 25 | Сьв. Клімента, Папы Р. | 8 | Biazhr. Pačaćcie N.D.M. 🌗 |
| С. | 26 | Нікапа. | 9 | Waleryi, Leakadyi. |
| Ч. | 27 | Усевалада. | 10 | N. Dz. M. Loretanskaje. |
| П. | 28 | Муч. Сьцяпана. | 11 | Damazaha. |
| С. | 29 | Муч. Парамона. | 12 | Alaksandra. |
| Н. | 30 | **Нядз. 27.** Ап. Андрэя Перш. | 13 | **3 n. Adwentu.** Łucei dz. m. |
| Сьнежань | | | | |
| П. | 1 | Прар. Аббакума. | 14 | Spirydona. |
| А. | 2 | Прар. Аббакума. | 15 | Walarjana. ● |
| С. | 3 | Саввы (Саўкі). | 16 | Aūsieja b. m. *Such.* |
| Ч. | 4 | Муч. Барбары. | 17 | Łazara b. |
| П. | 5 | Саввы (Саўкі). | 18 | Gracyjana. *Such.* |
| С. | 6 | **Сьв. Міколы Арх. Мірлік.** | 19 | Daryja Nemezija. *Such.* |
| Н. | 7 | **Нядз. 28.** Антона. | 20 | **4 n. Adwentu.** Teafila. |
| П. | 8 | Патапа. | 21 | Tamaša ap. |
| А. | 9 | Ганны. | 22 | Zenona Herona. ☽ |
| С. | 10 | Хамы. | 23 | Wiktoryi dz. m. |
| Ч. | 11 | Данілы Стоўпніка. | 24 | *Kućcia.* Adama i Ewy. |
| П. | 12 | Сьпірыдона. | 25 | **Naradz. P. Jez.** (***Kalady***). |
| С. | 13 | Муч. Аўксеньця. | 26 | Ščapana. |
| Н. | 14 | **Нядз. сьв. Праайцоў (29).** | 27 | **1 n. pa Kaladzie. Jana.** |
| П. | 15 | Паўлы. | 28 | Dzietak muč. |
| А. | 16 | Прар. Агея. | 29 | Tamaša muč. b. |
| С. | 17 | Прар. Данілы. | 30 | Aūhiena b. ⊙ |
| Ч. | 18 | Муч. Савасьцяна. | 31 | Sylwestra. |

**Усход і захад сонца.**

1 — 7.20 15.40
10 — 7.27 — 15.38
17 — 7.33 — 15.39
24 — 7.37 — 15.42
31 — 7.39 — 15.47

**Зьмены месяца.**

🌗 Ветах 8 а 11 г. 50 м.
● Сход 15 а 18 г. 44 м.
☽ Маладзік 22 а 10 г. 48 м.
⊙ Поўня 30 а 1 г. 41 м.

## Што рабіць у Сьнежні?

Гаспадару. Чысьціць і веяць збожжа. Памятаць аб чыстаце інвэнтара. Рапаравацъ мяхі, круціць перавяслы. Вазіць з лесу дровы і лёд з ракі, калі ёсьць лядоўня. Нагул аглядаць усю гаспадарку і трымаць у чыстаце.

Гаспадыні. Глядзець за дзяцьмі, каб ня грэліся ля агню, бо гэта вельмі шкодна для здароўя. Забясьпечыць варыўню ад холаду, каб не памерзьлі запасы. У канцы сьнежня добра кормленыя куры пачынаюць нясьціся. У маразы паіць хатнія птушкі летняю вадою.

Пчаляру. Устрымацца ад усялякіх направак вульлёў. Сьцерагчы іх ад шкоднікаў. Вылётаў не зачыняць, каб хворыя пчолы, паміраючы, мелі выхад. Хатняга набытку ня пушчаць на пасеку.

Паляўнічаму. Палявацъ можна на тых самых зьвяроў і птушак, што і ў лістападзе; на сарняў—толькі самцоў. Мець апеку над зьвярынаю і вадзянымі птушкамі.

У Нямеччыне гаспадары няраз навет на некалькіх дзесяцінах робяць зацішшы, ў якія зьбіраецца зьвярына, а пасьля з гэтага людзі маюць даходы. У нас настолькі распанела шкодніцтва і непашана да чужое ўласнасьці, што і думаць аб гэтым немагчыма.



## З БЕЛАРУСКАЕ ПОЭЗІІ.

* * *

Упалі з грудзей Пана Бога,
Парваўшыся, пацеркі зор.
Яны раскаціліся ў небе,
Усыпалі сіні прастор
І стуль так маркотна і пільна
На край мой радзімы глядзяць...
Што-ж там яны ясныя бачаць?
Чаго ўсё дрыжаць і дрыжаць?..

*М. Багдановіч.*



## НАРОДНЫЯ ПРЫПЕУКІ.

На вуліцы гоман, гоман,
А хто-ж там гамоне?
Жонка мужа качаргою
З карчмы дамоў гоне.

---

Адна баба ашалела,
Другая асьлепла:
Адна адну асядлала —
Паехалі ў пекла!



## ЖАРТ.

*Пан* (да жабрака). — Я-ж ужо табе казаў, што здаровым нічога не даю!

*Жабрак.* — А што-ж вы пане хацелі-б, каб я за вашыя пяць грошай халеры дастаў?

# Тры законы 1924 г.

Згодна з прынятымі на сябе абавязаньнямі. паводлуг Вэрсальскага Міравога Трактату, Польшча ў сваіх межах мусіць гарантаваць грамадзянам няпольскае нацыянальнасьці, ці агулам кажучы нацыянальным меншасьцям агавораныя як гэтым трактатам, так і Канстытуцыяю Польскае Рэспублікі, пэўныя правы на захаваньне меншасьцямі сваіх нацыянальных асаблівасьцяў.

У практыцы дасюль нічога ў сэнсе гэтых правоў не рабілася і ня было навет асобнага закону, які агавараваў-бы правы нацыянальных меншасьцяў болей падробна, як гэта спомнена ў Канстытуцыі.

Неаднакроць рознымі прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Польшчы, з эміграцыі, падаваліся ў Лігу Народаў мэморыялы й заявы аб ненармальным праваВым палажэньні нацыянальных меншасьцяў у Польшчы.

Гэта рабіла пэўнае ўражаньне ў палітычных кругох заходня-эўропэйскіх дзяржаваў, падпісаўшых з Польшчаю Вэрсальскі Трактат і зьвяртала ўвагу гэтых кругоў на фактычнае невыпаўненьне Польшчаю абавязаньняў яе датычна правоў нацыянальных меншасьцяў.

Хваля першамайскіх арыштаў па ўсёй Польшчы ў 1924 годзе падмацавала яшчэ болей тую заграцічную опінію аб Польшчы, якая ў Эўропе пачала складацца не ў карысьць польскае сыстэмы ўрадаваньня, і ў траўні месяцы мінулага году заграцічная прэса апублікавала вядомы протэст проці гэтак званага «белага тэрору» ў Польшчы.

Пад протэстам, паміж іншымі, падпісаліся гэткія прадстаўнікі заходня - эўропэйскага палітычнага сьвету, як цяперашні маршалак француcкага парлямэнту п. Пэнлевэ і прэм'ер-міністар Францыі п. Эрыё. Тады яны

падпісаліся проста, як выдатныя французскія палітычныя дзеячы, але парлямэнцкія выбары ў Францыі ў траўні месяцы мін. году незабаўна прывялі п. п. Пэнлевэ і Эрыё да ўлады.

Гэткім чынам, выйшла, што офіцыяльныя дзяржаўныя мужы магутнае польскае саюзьніцы Францыі выказаліся проці ненармальнасьцяў унутранага жыцьця Польшчы.

Спробы аслабіць уражаньне, якое адтрымалася ад протэсту проці «белага тэрору» шляхам офіцыяльным, а таксама й выступленьнямі польскае прафэсуры, ня мелі вялікае ўдачы, і трэба прызнаць, што пэўны націск эўропэйскае опініі на польскія ўрадовыя кругі мог мець, прынамсі, моральнае значэньне.

Польскі Урад прыступіў да апрацаваньня законапроектаў аб правох нацыянальных меншасьцяў офіцыяльна карыстацца роднаю моваю ў дзяржаўных установах і школах.

Законапроекты апрацоўвала ўрадовая «камісія чатырох», у якой правы (нацыяналістычны) польскі лагер прадстаўляў вядомы ідэолёг польскага нацыяналізму праф. Станіслаў Грабскі (брат прэм'ер-міністра Ул. Грабскага), а з левага боку ў камісіі гэтай засядаў пасол Сойму Станіслаў Тугут, тады яшчэ быўшы галавою народнае польскае партыі „Wyzwolenie“.

31-га ліпня 1924 году законапроекты аб мовах нацыянальных меншасьцяў з нязвычайнай пасьпешнасьцю прайшлі цераз парлямэнт Польскае Рэспублікі пры опозыцыі паслоў ад нацыянальных меншасьцяў.

Як з правага, так і з левага боку польскія партыі ў Сойме заяўлялі, падчас спрэчак над вышэйназванымі законапроектамі, што гэтыя законы зьяўляюцца толькі першым крокам на шляху ўрэгуляваньня ў Польшчы справаў нацыянальных меншасьцяў і што законы гэтыя прадыктованы інтарэсамі польскага дзяржаўнага характару, а ня тымі, ці іншымі ўплывамі заграніцы. З боку-ж паслоў ад нацыянальных меншасьцяў чуліся ў Сойме галасы, што вышэйназваныя «языковыя» законы творaны былі толькі для заграніцы.

Лічым за патрэбнае падаць, цікавыя для кожнага беларуса, тры законы 1924 году аб мовах нацыяналь-

ных меншасьцяў да ведама чытачоў «Беларускага Календара», пераклаўшы гэтыя законы на беларускую мову.

Як яны пачнуць адбівацца ў жыцьці пакажа недалёкая будучына.

**Н. Л.**

---

**Апублікована ў „Dzienniku Ustaw“ Польскае Рэспублікі за 26 жніўня 1924 г. № 73 пазыц. 724-я.**

# ЗАКОН

## 31 ліпня 1924 году

**аб мове дзяржаўнай і мове ўрадаваньня ўрадовых і самаўрадовых адміністрацыйных уладаў.**

**Артыкул 1.** Дзяржаўнаю моваю Польскае Рэспублікі зьяўляецца польская мова.

На ўрадовай мове ўрадуюць усе ўрадовыя і самаўрадовыя ўлады і адміністрацыйныя установы, як ува ўнутранай, так і вонкавай службе, з выняткамі, пералічанымі ў наступных артыкулах:

**Арт. 2.** Цывільныя ўлады і адміністрацыйныя установы I і II інстанцыі, а таксама самаўрадовыя ўлады й іхнія заклады прымаюць прашэньні, а таксама й вусныя заявы па справах, разрашэньне якіх ад іх залежыць, ад польскіх грамадзян нацыянальнасьці рускай (русінскай), беларускай і літоўскай таксама на іхняй матчынай мове, а ласьне: ад русінаў — на абшары ваяводзтваў: львоўскага, тарнопальскага, станіславоўскага, валынскага і палескага; ад беларусаў на абшары ваяводзтваў: палескага, наваградзкага, віленскага, а таксама й паветаў: горадзенскага і ваўкавыскага ў беластоцкім ваяводзтве; нарэшце, ад ліцьвіноў на абшары сьвянцянскага павету і валасьцяў з літоўскаю большасьцю ранейшага троцкага павету ў віленскім адміністрацыйным вокрузе.

**Арт. 3.** На прашэньні старонаў, унесеныя не на дзяржаўнай мове, адміністрацыйныя ўлады I і II інстанцыі, а таксама магістраты местаў, павятовыя й ваяводзкія аддзелы і іхнія заклады адказваюць: на абшары ваяводзтваў львоўскага, тарнопальскага і станіславоў-

скага на дзьвёх мовах: дзяржаўнай, а таксама й на мове прашэньня; на рэшце абшараў, пералічаных у арт. 2, адказ у гэткім выпадку адбываецца на дзяржаўнай мове, а па жаданьню старонаў — на дзьвёх мовах: дзяржаўнай, а таксама й на мове прашэньня.

Аб дапушчальнасьці ў аналёгічных выпадках у адказах мястовых уладаў местаў, выдзеленых з паветаў у сэнсе дзяржаўнае адміністрацыі, апрача дзяржаўнае мовы, аднае з вышэйназваных моваў рашае меставая рада.

Установы вясковых валасьцяў адказваюць старонам на мове прашэньняў.

**Арт. 4.** На паседжаньнях радаў валасных, меставых, павятовых і ваяводзкіх соймікаў нароўні з дзяржаўнаю мовою могуць быць ужыванымі мовы, якія зьяўляюцца дапушчанымі ў прашэньнях у даным ваяводзтве стасоўна да арт. 2.

Аб дапушчальнасьці на паседжаньнях меставых радаў местаў, выдзеленых з паветаў у сэнсе дзяржаўнае адміністрацыі, побач з дзяржаўнаю моваю аднае з названых у арт. 2 моваў рашае меставая рада.

Пратаколы паседжаньняў радаў валасных, меставых, павятовых і ваяводзкіх соймікаў могуць быць веdзенымі побач з дзяржаўнаю моваю, на аднэй з моваў, дапушчаных у паседжаньнях, на аснове пастановы аб гэтым данага самаўрадовага органу.

**Арт. 5.** Абвешчаньні самаўрадовых уладаў могуць быць, на аснове пастановы данага самаўрадовага органу, роблены на дзьвёх мовах, а ласьне, побач з тэкстам на дзяржаўнай мове, зьмешчаным на першым месцы, можа быць тэкст на мове, дапушчанай у прашэньнях.

Абвешчаньні дзяржаўных уладаў будуць рабіцца на тых самых мовах, што й абвешчаньні самаўрадовых уладаў у данай валасьці.

Ваяводзкія законы і ўрадовыя абвешчаньні дзяржаўных адміністрацыйных уладаў, публікованыя ў „Dzienniku Urzędowym" Ваяводзтва, будуць мець побач з тэкстам на дзяржаўнай мове, зьмешчаным на першым месцы, таксама й тэкст на тэй мове, на якой будзе весьціся пратакол ваяводзкага сойміку, побач з дзяр-

жаўнаю моваю. У выпадку розьніцы зьместу, рашае тэкст на мове дзяржаўнай.

**Арт. 6.** Самаўрадовыя саюзы (związki) могуць, на моцы свае пастановы, корэспондаваць з іншымі самаўрадовымі ўладамі, ня толькі на дзяржаўнай мове, але й на іншай мове, аднак-жа толькі ў межах абшару, на якім ужываньне данае мовы зьяўляецца дапушчаным стасоўна да арт. 2.

**Арт. 7.** Правілы арт. 2 — 5 не датычаць уладаў і установаў управаў чугунак, а таксама поштаў, тэлеграфаў і тэлефонаў.

Аднак-жа, ў вусным паразумяваньні з публікаю, ў дэтальнасьці пры чугуначных білетных касах, а таксама пры ваконцах паштовых установаў, трэба паводлуг патрэбы і магчымасьці дапусьціць матчыну мову мясцовага няпольскага насяленьня.

**Арт. 8.** Права ўжываньня нямецкае мовы ў урадовых адносінах на абшары пазнанскага і паморскага ваяводзтваў будзе урэгулёвана асобным законам.

**Арт. 9.** Выпаўненьне закону даручаецца Прэзэсу Рады Міністраў, а таксама інтарасованым міністрам.

**Арт. 10.** Закон гэты ўваходзіць у жыцьцё з 1-га кастрычніка 1924 г. Адначасна губляюць абавязальную моц правілы, якія рэгулююць дасюль справы, абнятыя правіламі гэтага закону на абшары Польскае Рэспублікі, з выняткам ваяводзтваў: сілезскага, пазнанскага і паморскага.

---

**Апублікована у „Dzienniku Ustaw“ Польскае Рэспублікі за 4 верасьня 1924 г. № 78, пазыц. 757.**

# ЗАКОН

## 31 ліпня 1924 году

### аб мове ўрадаваньня судоў, пракурорскіх установаў і нотарыяту.

**Арт. 1.** Моваю ўнутранага і вонкавага ўрадаваньня судоў, пракурорскіх установаў і нотарыяту зьяўляецца польская мова, як мова дзяржаўная.

**Арт. 2.** Польскім грамадзянам нацыянальнасьці рускай (русінскай), беларускай і літоўскай служыць

права ўжываньня ў судох і пракурорскіх установах, названых у артык. 3, таксама й іхняе матчынае мовы ў гэткіх выпадках:

1. Староны і сьведкі маюць права ўжываньня ў судох і пракурорскіх установах у слове — матчынае мовы. Паколькі другая старана, ці яе заступнік альбо прысяжны судзьдзя не разумее гэтае мовы, дык суд прадстаўляе яму зьмест паказаньняў, заяваў і вывадаў. У выпадку патрэбы суд можа ўзяць перакладчыка. Наагул суд павінен бачыць, каб старана, якая не разумее мовы, ўжыванае ў судзе, не нясла шкоды ў магчымасьці сьцеражэньня сваіх правоў.

2. Суды і пракурорскія установы прымаюць таксама, зложаныя на матчынай мове, скаргі, пісьменныя прапазыцыі, праўныя спосабы (środki prawne), прашэньні й іншыя пісьмы, а таксама прылажэньні і копіі, паколькі іх спаўненьне належыць выняткова да компэтэнцыі (właściwości) судоў (пракурорскіх установау), названых у арт. 3. Гэтае правіла мае прыстасаваньне таксама да пісьмаў, падаваных з подпісам адваката, ці іншага заступніка.

3. Старана, якая падала пісьмо на матчынай мове, абавязана падаць дадаткова пераклад яго на дзяржаўную мову, калі другая старана прадставіць суду гэткае жаданьне ў працягу 14 дзён ад дня даручэньня ёй пісьма. У гэтым выпадку папярэдняе даручэньне, як і акты, зробленыя судом на яго падставе (прыгавары, азначэньні, рашэньні, пастановы—(wyroki, orzeczenia, decyzje, uchwały), зьяўляюцца пазбаўленымі праўных рэзультатаў, аб чым суд гэты азначае ўрадова; днём даручэньня лічыцца той, у які даручаны пераклад; аднак-жа гэта не выключае выпаўненьня ўступных экзэкуцыйных дзеяньняў забясьпечваючых мэту экзэкуцыі. Нароўні з трэбаваньнем далучэньня перакладу будзе лічыцца адмова прынятку пісьма, заяўленая таму, які даручае, органу, з прычыны адсутнасьці перакладу.

Калі даручэньне мае адбыцца па-за абшарам, на якім даная матчына мова ёсьць ужыванаю ў судох першае інстанцыі (арт. 3), трэба пераклад на дзяржаўную мову далучыць ужо да пісьма.

4. Калі з важных прычын суд прызнае гэта патрэбным, дык пастановіць, што заява ці паказаньне зробленае на матчынай мове мае быць цалком, альбо прачасткаю зьмешчана ў пратаколе ці прылажэньні да пратаколу таксама на матчынай мове побач з моваю дзяржаўнаю.

5. У дахаджэньнях і сьледзтвах карных паказьньні і заявы абвінавачаных (oskarżonych) і сьведкаў, зробленыя на матчынай мове, трэба пратакалаваць побач з дзяржаўнаю моваю па трэбаваньню таксама і на мове, на якой былі зроблены.

6. Абвінавачанаму (oskarżonemu) служыць права трэбаваньня, каб да акту абвінавачаньня, зробленага на дзяржаўнай мове быў далучаны ўрадовы пераклад на матчыну мову; гэтае трэбаваньне трэба прадставіць перад законачаньнем дахаджэньняў, ці сьледзтва.

7. Старбны, якія выступаюць у характары абвінавачаных (oskarżonych), тых, што працэсуюцца альбо старон у судаводзтве (postępowaniu) няспорным, маюць права трэбаваць, каб да прыгавараў, азначэньняў (рашэньняў, пастановаў) і іншых спаўненьняў (załatwień), зробленых на дзяржаўнай мове, быў далучаны ўрадовы пераклад на матчыну мову; вышэйсказанае трэбаваньне належыць прадставіць перад аглашэньнем спаўненьня (załatwienia), а калі аглашэньне не зьяўляецца прадбачаным, дык перад яго напісаньнем (sporządzeniem).

8. Запісы ў вечныя гнігі (гіпотэчныя, грунтавыя) робяцца на дзяржаўнай мове, аднак-жа дакумэнт, які зьяўляецца падставаю запісу, можна злажыць да кнігі дакумэнтаў на матчынай мове без далучэньня перакладу.

Запісы ў гандлёвы рэестар робяцца на дзяржаўнай мове, аднак-жа ўласьніку фірмы можна трэбаваць, каб да копіі з рэестру быў далучаны бясплатна ўрадовы пераклад яе на матчыну мову.

9. Старана мае права трэбаваць засьведчаньня (uwierzytelnienia), копіяў дакумэнтаў, зробленых на матчынай мове і подпісаў на гэткіх дакумэнтах, як і сьпісаньня судовых паразуменьняў (ugód) на матчынай мове побач з моваю дзяржаўнаю,

**Арт. 3.** Правы, прызнаньня ў арт. 2, служаць:

a) ў судох і пракурорскіх установах, якія маюць месцапрабываньне ў вокрузе апэляцыйнага львоўскага суда, а таксама ў валынскім і палескім ваяводзтвах, польскім грамадзянам рускае (русінскае) нацыянальнасьці; тыя самыя правы служаць ім у апэляцыйных судох у Люблiне і ў Вільні на справах, па якіх гэтыя суды зьяўляюцца інстанцыямі для прыгавараў, рашэньняў і іншых спаўненьняў судоў, што маюць месцапрабываньне на абшары валынскага і палескага ваяводзтваў;

b) ў судох і пракурорскіх установах, якія маюць месцапрабываньне на абшарах палескага і наваградзкага ваяводзтваў і віленскага адміністрацыйнага вокругу; а таксама горадзенскага і ваўкавысскага паветаў у беластоцкім ваяводзтве, польскім грамадзянам беларускае нацыянальнасьці.

c) ў судох, якія маюць месцапрабываньне на абшарах сьвянцянскага павету і валасьцяў з літоўскаю большасьцю ранейшага троцкага павету ў віленскім адміністрацыйным вокрузе, польскім грамадзянам літоўскае нацыянальнасьці.

**Арт. 4.** У судох, названых у арт. 3 літ. a), b, адвакаты і іншыя заступнікі старон рускае (русінскае), ці беларускае нацыянальнасьці, па справах, па якіх заступаюць староны свае нацыянальнасьці, маюць права ўжываньня матчынае мовы, з выняткам прамоваў (вывадаў) перад судом пастанаўляючым (orzekającym), якія можна казаць на матчынай мове толькі перад судамі, маючымі месцапрабываньне ў вокрузе львоўскага апэляцыйнага суда.

У гэтым апошнім вокрузе ў выпадках, у якіх, паводлуг арт. 2, далучаюцца ўрадовыя пераклады на матчыну мову, належыць па трэбаваньню стараны пісаць акты абвінавачаньня, прыгавары, азначэньні, пастановы (wyroki, orzeczenia, uchwały) й іншыя спаўненьні (załatwienia) на дзьвёх мовах: дзяржаўнай і рускай (русінскай).

**Арт. 5.** Польскія грамадзяне рускае (русінскае) нацыянальнасьці могуць трэбаваць, каб прыгавары, азначэньні (пастановы) і іншыя спаўненьні (załatwienia) Найвышэйшага Суда былі пісаны на дзьвёх мовах, г. знач. дзяржаўнай і рускай (русінскай) па справах, на якія гэты суд ёсьць інстанцыяй для прыгавараў, пастановаў і іншых спаўненьняў судоў, маючых месцапрабываньне ў вокрузе львоўскага апэляцыйнага суда; вышэйсказаныя трэбаваньні прадстаўляюцца перад прыняцьцем Найвышэйшым Судом рашэньня.

**Арт. 6.** У выпадках ужыцьця мовы дзяржаўнае і матчынае абавязвае, ў выпадку розьніцы, тэкст мовы дзяржаўнае, з выняткам выпадку, прадбачанага ў арт. 2 пункт 5.

**Арт. 7.** Правіла арт. 1 мае адпаведнае прытарнаваньне ў урадаваньні нотарыюсаў.

Аднак нотарыюсу можна, па трэбаваньню, рабіць праўныя акты паміж жывымі і на выпадак сьмерці на матчынай мове стараны, паколькі яна мае права на ўжываньне гэтае мовы паводлуг арт. 3 ў судох першае інстанцыі, паложаных на абшары, дзе нотарыюс мае свае месцапрабываньне і піша акт.

**Арт. 8.** Правілы аб мове ўрадаваньня судоў, пракурорскіх установаў і нотарыяту, якія абавязвалі дасюль, ухіляюцца, з выняткам правілаў, якія абавязваюць у пазнанскім, паморскім і сілескім ваяводзтвах.

**Арт. 9.** Выкананьне гэтага закону даручаецца Міністру Справядлівасьці.

**Арт. 10.** Закон гэты ўваходзіць у жыцьцё з 1-га кастрычніка 1924 г.

---

**Апублікована ў „Dzienniku Ustaw“ Польскае Рэспублікі за 9 верасьня 1924 г. № 79, пазыц. 766.**

# ЗАКОН

## 31 ліпня 1924 году,

## маючы ў сабе некаторыя пастановы аб арганізацыі школьніцтва.

**Арт. 1.** Школьны лад ёсьць адзін для ўсяе Дзяржавы. Законадаўства аб школах усялякага тыпу на-

лежыць да Сойму й Сэнату з выняткам справаў, пераказаных дзяржаўнымі законамі компэтэнцыі самаўрадаў.

Прыватныя школы для дзяцей рускай (русінскай), беларускай і літоўскай нацыянальнасьці, таксама як і для дзяцей усіх іншых няпольскіх нацыянальнасьцяў у Рэспубліцы з выкладоваю матчынаю моваю, могуць быць закладанымі на тых самых варунках, што і школы прыватныя з выкладоваю моваю польскаю.

У гэтых рамах абавязваюць на абшары ваяводзтваў: львоўскага, станіславоўскага, тарнопальскага, валынскага, палескага, наваградзкага, віленскага, а таксама паветаў: гарадзенскага і ваўкавыскага беластоцкага ваяводзтва ў арганізацыі дзяржаўнага школьніцтва гэткія прынцыпы:

**Арт. 2.** Прынцыповым тыпам дзяржаўнае школы на названым у арт. 1 абшары, згодна з прынцыпам годжаньня і лучэньня для згоднага сужыцьця насяленьня нацыянальна мяшаных земляў, а не дзяленьня яго,— зьяўляецца школа супольная, выхоўваючая на добрых грамадзян Дзяржавы дзяцей польскае і няпольскае нацыянальнасьці ўва ўзаемнай пашане іхніх нацыянальных асаблівасьцяў.

**Арт. 3**. У дзяржаўных пачатковых школах, паложаных у валасьцёх, маючых 25% рускага (русінскага), беларускага або літоўскага насяленьня, па ўрадова (urzędownie) сьцьверджанаму трэбаваньню бацькоў 40 дзяцей школьнага веку рускае (русінскае), беларускае або літоўскае нацыянальнасьці, належачых да аднаго школьнага абводу, запэўнена ім будзе навука на матчынай мове. Паколькі ў даным школьным абводзе няма 40 дзяцей школьнага веку, бацькі якіх заявілі трэбаваньне навукі на матчынай мове рускай (русінскай), беларускай або літоўскай — выкладовай моваю школы зьяўляецца мова дзяржаўная; паколькі ў даным школьным абводзе побач з бацькамі, якія жадаюць для сваіх дзяцей навукі на мове рускай (русінскай), або беларускай, ёсьць прынамсі 20 дзяцей, бацькі якіх жадаюць навукі на мове дзяржаўнай, выклад зьяўляецца двумоўны з тым, што палова гадзінаў будзе празначана на навуку на мове рускай (русінскай), або беларускай. Калі няма

ў даным абводзе 20 дзяцей, бацькі якіх жадаюць навукі на дзяржаўнай мове, выкладоваю моваю зьяўляецца мова руская (русінская), беларуская або літоўская; істнуючыя ў адным абводзе асобныя школы з выкладоваю моваю польскаю і з выкладоваю моваю рускаю (русінскаю) будуць па меры магчымасьці злучаныя ў адну супольную школу двумоўную.

**Арт. 4.** У пачатковых 1, 2 і 3-клясовых, як прыватных, так і дзяржаўных школах з выкладоваю няпольскаю моваю зьяўляецца абавязковаю навука дзяржаўнае мовы, запэўняючая патрэбную (dostateczną) для практычных мэтаў веду яе на слове і пісьме. У пачатковых 4, 5, 6 і 7-клясовых, як прыватных, так і дзяржаўных, школах з выкладоваю няпольскаю моваю абавязкова вядзецца папольску навука дзяржаўнае мовы, польскае гісторыі і навукі аб сучаснай Польшчы ў межах, забясьпечваючых патрэбную (dostateczną) веду іх для пераходу вучняў у сярэднія агульнаадукацыйныя школы з выкладоваю моваю польскаю, альбо двумоўныя.

**Арт. 5.** Новазакладаныя дзяржаўныя настаўніцкія сэмінарыі на абшары ваяводстваў: львоўскага, станіславоўскага, тарнопальскага, валынскага, палескага, наваградзкага і віленскага будуць двумоўныя польска-рускія (русінскія) альбо польска-беларускія. Пакуль не паўстане двумоўная сэмінарыя польска-беларуская, ў настаўніцкіх сэмінарыях ваяводстваў: віленскага і наваградзкага будзе абавязковаю навука беларускае мовы ў разьмеры (zakresie), патрэбным (dostatecznym) для вядзеньня навукі ў пачатковай школе з беларускаю выкладоваю моваю. У аднэй сэмінарыі віленскага ваяводзтва будзе надабавязковаю навука літоўскае мовы.

**Арт. 6.** Па ўрадова сьцьверджанаму трэбаваньню бацькоў 150 вучняў рускае (русінскае) ці беларускае нацыянальнасьці, якія ходзяць у сярэднія агульнаадукацыйныя школы з выкладоваю польскаю моваю аднаго павету альбо места, выдзеленага адміністрацыйна, будзе, дзеля запэўненьня ім навукі на матчынай мове, створана дзяржаўная сярэдняя агульнаадукацыйная, двумоўная школа ў тым ці іншым з бліжэйшых паветаў. Тым, што істнуюць цяпер, у тым самым месцы асобныя дзяр-

жаўныя агульнаадукацыйныя сярэднія школы з выключна польскаю выкладоваю моваю і выключна рускаю (русінскаю) — будуць па меры магчымасьці злучаны ў адну супольную двумоўную.

**Арт. 7.** У сярэдніх агульнаадукацыйных, як прыватных, так і дзяржаўных школах з дзяржаўнаю выкладоваю моваю зьяўляецца абавязковаю навука, ведзеная папольску, польскае мовы й літэратуры, гісторыі і географіі разам з навукаю аб сучаснай Польшчы.

**Арт. 8.** У дзяржаўных прафэсіянальных школах па трэбаваньню бацькоў вучняў рускае (русінскае) або беларускае нацыянальнасьці, якія складаюць 40% усіх вучняў данае школы, навука будзе вясьціся на дзьвёх мовах—польскай і рускай (русінскай) або польскай і беларускай. Пакольні гэткага трэбаваньня няма, дык навука будзе вясьціся на мове дзяржаўнай.

**Арт. 9.** Да школаў, закладаных і утрымліваных самаўрадамі з падаткаў, аплачваных усім насяленьнем данага самаўрадовага вокругу, пакольні гэта школы прафэсіянальныя, спэцыяльныя і сярэднія агульнаадукацыйныя, прытарноўваюцца тыя самыя пастановы аб выкладовай мове, што й да школаў прафэсіянальных дзяржаўных (артыкул 8), а пакольні гэта школы пачатковыя (powszechne) — прытарноўваюцца да іх пастановы аб пачатковых дзяржаўных школах (арт. 3).

**Арт. 10.** Выкананьне гэтага закону павяраецца Міністру Вызнаньняў Рэлігійных і Публічнае Прасьветы, а датычна школаў самаўрадовых і земляробскіх — у паразуменьні з Міністрамі Унутраных Справаў або Земляробства і Дзяржаўных Маемасьцяў.

**Арт. 11.** Закон гэты ўваходзіць у жыцьцё з 1-га кастрычніка 1924 году. Адначасна правілы, нязгодныя з пастановамі гэтага закону, трацяць абавязальную моц.



# Некаторыя юрыдычныя парады.

## I.

### Цывільнае права.

У вокрузе Віленскага Апэляцыйнага Суда (бyўшая Сярэдняя Літва, Віленшчына) да компэтэнцыі Міравых Судоў (Sądów Pokoju) належаць:

1) справы аб усялякага роду абавязаньнях і правох на рухомую маемасьць, калі гэтыя абавязаньні і правы не перавышаюць 500 (пяцёхсот) злотых, а калі йдзе аб прадметы жывога альбо мёртвага інвэнтара сельскае гаспадаркі, або аб належнасьць за гэткія прадметы, — 1.000 (тысячы) злотых, аб нярухомасьці — да 300 злотых;

2) справы аб павароце нарушанага альбо ўтрачанага ўладаньня, калі нарушэньне альбо ўтрата мела месца пасьля 1-га жніўня 1914 году;

3) справы аб нарушэньні права аб ужываньні сэрвітуту, калі нарушэньне мела месца пасьля 1-га жніўня 1924 году;

4) прашэньні аб забясьпечаньні довадаў у позвах на ўсялякую суму;

5) прашэньні аб наданьні выканаўчае кляўзулі актам, вартасьць якіх не перавышае пяцёхсот злотых.

II.

# УЗОРЫ ПРАШЭНЬНЯЎ.

1.

У МІРАВЫ СУД ..............................................................
(напрыклад:) у Варнянах

Яна Клімовіча, жыхара вёскі Баброўнікі, Варнянскай воласьці, Віленскага павету,

на справе проці

Антона Ракоўскага, жыхара засьценку Новы-Двор, Варнянскай воласьці, Віленскага павету.

Цана позвы: 450 зл.

## Пазыўная скарга.

На моцы далучанага да гэтага квіта, пазваны пазычыў у мяне 450 зл., пры чым абавязаўся заплаціць пазычаную суму не пазьней дня 15 жніўня сёлетняга году, чаго, ня гледячы на неаднаразовыя напамінаньні, не зрабіў.

Дзеля вышэйсказана прашу:

1) прысудзіць з пазванага на маю карысьць чатырыста пяцьдзесят злотых %% ад дня паданьня позвы, а таксама судовыя кошты і за вядзеньне справы,

2) прыгавар (скіраваць да) незабаўнага выкананьня,

3) справу разглядзець пры маёй няпрысутнасьці, а ў выпадку незьяўленьня названага вынясьці завочны прыгавар.

................................ 192........г.

*Ян Клімовіч.*

2.

У МІРАВЫ СУД у.........................

Стафаніі Мікульскай, дзеючай за сябе, а таксама ў характары апякункі малалетніх Пётры і Мікалая Мікульскіх, з вёскі Залесьсе, Шумскае валасьці, Віленскага павету,

па справе проці

Ігната Мікульскага, жыхара тае самае вёскі.

Вартасьць позвы 200 зл.

## Пазыўная скарга.

Майму нябошчыку мужу, а бацьку пазвальнікаў Пётры і Мікалая Мікульскіх — Язэпу Мікульскаму належыць, як уласнасьць, кавалак зямлі з тымі, якія на ім знаходзяцца, будынкамі абшарам $3^1/_2$ дзесяціны, паложаны ў вёсцы Залесьсе, Шумскае валасьці, Віленскага павету ў граніцах з сядзібамі Доборжынскага, Паўлоўскага і Касьцюковіча. Па сьмерці Язэпа Мікульскага ў дзень 13 лістапада 1920 г. спомнены кавалак зямлі захапіў сын яго — пазваны Ігнат Мікульскі і не дапушчае нас пазвальнікаў да супольнага карыстаньня.

Дзеля вышэйсказанага прашу:

1) вызваць і дапрасіць у характары сьведкаў Яна Блажэвіча і Фэлікса Рыбака, якія жывуць у вёсцы Канопцы, Шумскае вол., Віленскага пав., ў доказ таго, што спрэчная нярухомасьць была ў бясспрэчным, бесьперарыўным і спакойным уладаньні Язэпа Мікульскага ў працягу ——— гадоў (*больш як 10 гадоў*).

2) прызнаць мне, Стафаніі Мікульскай, а таксама й малалетнім Пётры і Мікалаю Мікульскім права супольнае з пазваным уласнасьці на кавалак зямлі з будынкамі, паложаны ў вёсцы Залесьсе, Шумскае вол., Віленскага пав. абшарам $3^1/_2$ дзесяціны ў граніцах ......................... з правам для мяне, Стафаніі Мікульскай, на адну сёмую часьць, для Пётры і Мікалая Мікульскіх на дзьве сёмыя кожнаму,

3) выняць спрэчную нярухомасьць з выняткавага ўладаньня пазванага і аддаць у супольнае ўладаньне яго і нашае пазвальнікаў,

4) прыгавар скіраваць да незабаўнага выкананьня,

5) справу разабраць пры нашай няпрысутнасьці, а ў выпадку незьяўленьня пазванага вынясьці завочны прыгавар.

Далучаю: 1) наказ Міравога Судзьдзі аб назначэньні галоўнаю апякункаю малалетніх Пётры і Мікалая,
2) мэтрыку сьмерці Язэпа Мікульскага,
3) шлюбную мэтрыку, 4) мэтрыкі нараджэньня Пётры і Мікалая Мікульскіх.

3.

У МІРАВЫ СУД у ________________________

Сымона Мачульскага, жых.
________________________
........................................

па справе проці
Яна Сьвідэрскага
аб эксмісіі.

**Опозыцыя ад завочнага прыгавару.**

Завочным прыгаварам Міравога Суда дня ............................................. сёлетняга году пастаноўлена эксмітаваць мяне разам з дружынаю (сям'ёю) з дому пазвальніка Сьвідэрскага. Вышэйсказаны прыгавар лічу няслушным па гэткіх прычынах: Цьвярджэньне пазвальніка, нібыто псуецца дом, не адпавядае сапраўднасьці, наадварот, я за ўласны кошт зрабіў рэмонт, што могуць пацьвярдзіць сьведкі. Я не зьяўляўся на разгляд справы дня ......................................... з прычыны раптоўнае хваробы.

Дзеля вышэйсказанага прашу: 1) справу разабраць нанова, 2) вызваць у характары сьведкаў .......................................................................................... жых. ........................................................ 3) позву Яна Сьвідэрскага адхіліць з засуджэньнем на маю карысьць судовых коштаў і за вядзеньне справы.

.............................. 192...... г.

*Сымон Мачульскі.*

4.

# У Віленскі Акружны Суд.

Язэпа Гадвэльскага, жых.

.........................................

.........................................

па справе з позвы

Аляксандра Каліноўскага,

жыхара .............................

.........................................

## *Прыватная скарга.*

Прыгавар Міравога Суда за ..............................

192..... г., якім прызнана позва Аляксандра Каліноўскага проці мяне аб звароце каня, скіраваны да часовае выканальнасьці.

Бяручы пад увагу, што справа ў першай інстанцыі ня была цалком высьветлена, што паказаньні сьведкаў зьяўляюцца спрэчнымі, што пазвальнік не даказаў, што прамаруджаньне ў выкананьні прыгавару можа пацягнуць за сабою беспаваротную страту, прашу заскарджаны прыгавар у часьці скіраваньня яго да незабаўнага выкананьня ўхіліць.

.............................192........г. *Язэп Гадвэльскі.*

5.

# У Навааградзкі Акружны Суд.

Яна Мураўскага, жыхара

.........................................................

.........................................................

па справе з позвы
Станіслава Забельскага
аб зямлі.

## Прыватная справа.

Рашэньнем Міравога Суда ў ...................................
за ............................... 192... г. аддалена мая просьба аб прыняцьці ўзаемнае позвы і аб злучаным разборы з галоўнаю позваю.

Вышэйназванае рашэньне лічу няслушным, дзеля таго, што ўзаемная позва мае цесную сувязь з галоўнаю позваю.

Дзеля вышэйсказанага прашу заскарджанае рашэньне Міравога Суда ўхіліць.

...............................192.......г.

*Ян Мураўскі.*

6

У ........................................ АКРУЖНЫ СУД.

Канстантына Лабоўскага,
жых. ........................................
........................................

Цана апэляцыі ........
........................... зл.

па справе проці
Апекі над фундушам памёршага Язэпа Кавальчука.

**Апэляцыйная скарга.**

Прыгавар Міравога Суда за ........................................ 192........г., аддаляючы позву маю проці апекі над фундушам памёрш. Язэпа Кавальчука, лічу няслушным па гэткіх прычынах:

1) ........................................
2) ........................................
3) ........................................

Дзеля вышэйсказанага прашу:

1) вызваць у характары сьведкаў ........................................
........................................
жых. ........................................

2) заскарджаны прыгавар ухіліць і позву маю ў цэлым прызнаць,

3) прысудзіць з пазванага на маю карысьць судовыя кошты і за вядзеньне справы за абедзьве інстанцыі.

III.

**Срокі:** Паданьня ўзаемнае позвы. Заяўленьня адводу неадпаведнасьці Суда па ідучай справе, маючай цесную сувязь з пачатаю позваю — аб неадпаведным скіраваньні позвы, якая ў цэлай расьцягненасьці павінна быць скірована проці іншае асобы. Прыцягненьня трэцяе асобы. — На 1-шым паседжаньні ў справе.

Прад'яўленьня прыватнае скаргі — ў працягу 7-х дзён ад даты абвешчаньня рашэньня Міравога Суда.

Заяўленьня опозыцыі ад завочнага прыгавару — ў працягу двух тыдняў ад даты даручэньня копіі завочнага прыгавару.

Прад'яўленьня апэляцыйнае скаргі — ў працягуаднаго месяца ад даты абвешчаньня прыгавару.

## IV.

## Адвод сьведкаў.

Па трэбаваньню стараны павінны быць ухілены ад дачы паказаньняў:

1) сваякі ў простай лініі,

2) сваякі ў бочнай лініі першых трох ступеняў (родныя браты і сёстры, дзядзькі па бацьку і па матцы, цётка, братні сын, сыновец),

3) сваякі першых дзьвёх ступеняў і współmałżonek (муж ці жонка),

4) асобы, якія прыспасобілі старану, якая на іх ссылаецца, альбо якія ёю прыспасоблены,

5) тыя, хто знаходзіцца ў працэсе з аднэю з старонаў, а таксама асобы, якіх зыск залежыць ад вырашэньня справы на карысьць тае стараны, якая на іх саслалася,

6) тыя, хто мае поўнамоцтва ад стараны, якая на іх ссылаецца.

## V.

## Парадак падаваньня скаргаў на прыгавары і рашэньні Міравых Судоў:

Прыватныя і апэляцыйныя скаргі, адрэсаваныя ў Акружны Суд, павінны падавацца разам з копіямі скаргі і прылажэньняў у канцэлярыі адпаведнага Міравога Суда. А той Міравы Суд што ня скардзіцца, адсылае скаргу ў Суд Акружны.

## VI.

На моцы закону 31-га ліпня 1924 г. (Dz. Ust. № 75 — 1924 г., паз. 741) **аб абароне дробных зямельных арэндатараў**, абарона пашыраецца на арэндныя землі да 5-х ha (гэктараў) для кожнага арэндатара і на землі, адданыя ў уладаньне дробным земляробам зямельнымі установамі, а абнятыя гэтымі установамі на аснове азначэньняў Акружное альбо Галоўнае Зямельнае Камісіі, незалежна ад абшару.

Арэнда ня можа быць адмоўлена да дня 1-га кастрычніка 1930 году.

Арэндны чынш можа быць трэбаваны толькі ў грашавой суме і ня можа перавышаць 150 кілёграмаў жыта за 1 ha (гэктар).

Чынш мае быць плачаны дня 1 лістапада кожнага году з долу. Спазьненьне з аплатаю па віне арэндатара на 30 дзён цягне за сабою пазбаўленьне права засланяцца законам аб абароне.

VII.

На моцы закону 31-га ліпня 1924 г. (Dz. Ust. № 73—1924 г., паз. 722) аб устрыманьні эксмісіі арэндатараў зямлі, **занятае пад будынкі**, уласьнікі будынкаў, пабудованых на чужой зямлі, якія і цяпер уладаюць гэтаю зямлёю, ня могуць быць з яе выселены. Суд І інстанцыі (Міравы Суд або Суд Акружны) па прапазыцыі старапы ўстрымае выкананьне прыгавару аб эксмісіі, за выняткам прыгавараў, вынесеных у рэзультаце незаплаты чыншу.

Арэндная аплата раўняецца 1 злотаму за 1 рубель арэнды за 1914 г., платная да дня 31-га студня 1925 г. за час да 1-га красавіка 1926 г.

У выпадку незаплаты чыншу ў срок, закон перастае дзеяць.

VIII.

На моцы закону 20 чэрвеня 1924 году могуць набыць на ўласнасьць карыстаную імі дня 31-га кастрычніка 1923 г. зямлю па-за абшарам местаў і мястэчак у граніцах іх за 1914 г., а для места Вільні ў цяперашніх граніцах: a) быўшыя вечныя чыншавікі, b) быўшыя гэт. зван. вольныя людзі, датычна якіх паступаньне аб выкупе яшчэ не закончана, c) доўгалетнія арэндатары, якія карыстаюцца зямлёю, што не перавышае сваім абшарам, лічачы на аднаго арэндатара ў Валынскім ваяводзтве, 27,31 ha (гэктараў) (25 дзесяцін), ў рэшце мясцовасьцяў—43,70 ha (40 дзесяцін), якія асяліліся на тых, якімі цяпер уладаюць, землях перад 1-IV-1895 г. на моцы арэдных дагавораў, у якіх агаворана, што дагаворы па эксьпірацыі сроку павінны быць аднаўлены на ранейшых варунках, або агаворана права выкупу, якія карысталіся арэндованымі землямі перад 1 жніўня 1914 г. на моцы дагавораў з, прынамсі, шасьцёхгадовым срокам і пабудавалі ўласныя сялібы на арэндованых землях.

Азначальнасьць (orzecznictwo) па справах, якія вынікаюць з гэтага закону належыць да камісіі, якая ўводзіць у ўласнасьць (komisji uwłaszczeniowej) і да акружных зямельных камісіяў.

Асобы, якія хочуць скарыстаць з правоў гэтага закону, павінны зьвярнуцца з прашэньнем да мясцовае komisji uwłaszczeniowej у працягу 4-х гадоў ад дня 21 ліпня 1924 г.

Да часу ўваходу ў сілу пастановы, арэндная плата павінна адбывацца.

# ПАКАЗЬНІК

**праваслаўных імёнаў, ужываемых і шануемых на Беларусі. (Дні памяці іх паказаны па новаму стылю).**

## I. Мужчынскія імёны:

**А**бвакум—сьнеж. 15.
Агап—сак. 28.
Агапон—сак. 4.
Агей—сьнеж. 29.
Алег—кастр 3.
Алісей—чэрв. 27.
Аляксандар—вер. 12.
Аляксей—лют. 25, сак. 30, кастр. 18.
Амяльлян—ліп. 31.
Анатоль—ліп. 16.
Андранік—трав. 30.
Андрэй—ліп. 17, вер. 1, кастр. 6, 30, сьнеж. 13.
Анісім—лют. 28, ліп. 27.
Антон—студз. 30, крас. 27, ліп. 23, сьнеж. 20.
Антып—крас. 24.
Анупрэй—чэрв. 25.
Апанас—студз. 31, трав. 15, жнів. 2, вер. 18, 25, ліст. 6.
Апіфан—трав. 25.
Аркадзь—сак. 19.
Арсень—лют. 1, чэрв. 25, вер. 6, ліст. 10.
Артамон—крас. 26.
Архіп—сак. 3, вер. 19.
Арцём—крас. 6, ліст. 2.
Аўген—лют. 3.
Аўдакім—жнів. 13.
Аўдзей—сьнеж. 2.
Аўксенць—сьнеж. 26.
Аўсей—ліп. 5.
Аўстахей—крас. 27, кастр. 3.
Аўсьцігней—жнів. 18.
Аўтрапей—сак. 16.
Аўхім—лют. 2.
Ахрэм—лют. 10, сак. 20.

Барыс—жнів. 6.
Баўтрымей—чэрв. 24, вер. 7.
Баніфат—студз. 1.

Валяр'ян—чэрв. 14.
Васіль—Студз. 14, Лют. 12, сак. 20, крас. 4, 25, трав. 9, жнів. 15.
Вечаслаў—кастр. 11.
Віктар—трав. 1, ліст. 24.
Віталь—трав. 11.

Гарасім—сак. 17.
Гаўрыла (Габрусь)—красав. 8, трав. 3, ліп. 26.
Генадзі—лют. 5, вер. 13.
Глеб—ліп. 2.
Гіляры (Ларыён) — красав. 10, чэрв. 19, кастр. 23, ліст. 3.
Грыгор—студз. 18, 23, лют. 7, 12, сак. 10, 25, жнів. 21, кастр. 13, ліст. 18, 27, 30, сьнеж. 3.

Давід—ліп. 8, 9.
Даніла—сак. 17, сьнеж. 24, 30.
Дарахвей—студз. 10, чэрв. 18.

Дзям'ян—ліп. 14, ліст. 14.
Дзямід—жнів. 29.
Дзяніс—трав. 31, кастр. 16.

Ерамей—трав. 14.
Ермалай—жнів. 8.

Засіма—крас. 12.
Захар—вер. 18.
Зенавей—ліст. 12.
Зьмітра — лют. 24, кастр. 4, ліст. 8, 28.
Зьмітрапан—чэрв. 17.

Іван—студз. 20, лют. 9, 12, крас. 2, 6, 27, трав. 2, 21, ліп. 7, вер. 15, кастр. 6, 9, ліст. 26.
Ігар—чэрв. 7.
Ігнат—студз. 2, чэрв. 10.
Ільля—жнів. 2.
Іона—кастр. 5.
Іпат—крас. 13.
Ісак—чэрв. 12, жнів. 16.
Ізыдар—трав. 27.

Калінік—жнів. 11, верасьня 5, сьнежн. 27.
Кандрат—сак. 23, кастр. 4.
Канстантын—чэрв. 3, ліст. 23.
Капітон—жнів. 25.
Карней—вер. 26.
Карп—чэрв. 8, кастр. 26.
Касьян—сак. 13.
Кіпрыян—кастр. 12.
Кірыла — студз. 31, лют. 27, сак. 31, трав. 11, 24, чэрв. 22.
Клімант—лют. 5, сьнеж. 8.
Кузьма — ліп. 14, кастр. 25, ліст. 14.

Лазар—ліст. 20.
Ларыён—гл. Гіляры.
Лаўр—жнів. 31.
Лаўрын—ліст. 11, жнів. 23.
Леванід—крас. 29, чэрв. 18.
Леў—сак. 2.
Лука—лют. 20, вер. 20, кастр. 31, ліст. 19.
Лявон—ліп. 1, ліст. 1.

Мадэст—трав. 29, чэрв. 28.
Майсей—вер. 10, 17.
Макар—лют. 1, трав. 14.
Максім — лют. 3, жнів. 26, вер. 28.
Малахія—студз. 16.
Мануіл—чэрв. 30.
Марка — сак. 18, крас. 11, трав. 8.
Марк'ян—ліст. 15.
Марцін—крас. 27, ліп. 10
Марцыньян—лют. 26.
Мацей—жнів. 22, ліст. 29.
Мікіта — лют. 13, крас. 16, чэрв. 2, 6, 10, вер. 28.
Мікола—трав. 22, сьнеж. 19.
Міхал — ліп. 25, кастр. 13, ліст. 21.
Міхей—жнів. 27.
Мірон—жнів. 30.
Мсьціслаў—крас. 28.
Мяфод — крас. 19, трав. 24, ліп. 3.

Навум—студз. 5, сьнеж. 14.
Назар—кастр. 27.
Настас—лют. 4, ліст. 7.
Нікадзім—крас. 22.
Нікон—сьнеж. 9.
Нікандр—ліст. 17.
Нічыпар—лют. 22.
Ніл—чэрв. 9, ліст. 25.

Палікарп—сак. 7.
Панкрат—ліп. 22.
Парамон—сьнеж. 12.
Пархвен—лют. 20.
Патап—сьнеж. 21.
Патрыкей—чэрв. 1.
Паўла—студз. 28, ліп. 12, ліст. 23, сьнеж. 28.
Пахом—студз. 11, трав. 20, 28.
Пётра—сак. 6, трав. 31, ліп. 12, вер. 6, кастр. 6, 18.
Піліп—студз. 22, кастр. 24, ліст. 27.
Піман—жнів. 20, вер. 9.
Платон—сьнеж. 1.

Пракоп—сак. 11, ліп. 21, вер. 29.
Прокл—трав. 4, ліп. 25.
Прохар—лют. 23, жнів. 10.

Раман—сак. 8, жнів. 23, сьнеж. 1
Расьціслаў—сак. 27.

Савасьцьян—сак. 10, сьнеж. 31.
Савацей—кастр. 10.
Савва (Саўка)—трав. 7, сьнеж. 16, 18.
Самуіл—вер. 2.
Сапрон—сак. 24, чэрв. 10.
Сідар—лют. 17.
Сілуан—жнів. 12.
Сыльвэстар—студз. 15.
Сымон—трав. 23, кастр. 23.
Сьпірыдон—ліст. 13, сьнеж. 25.
Сьцяпан—студз. 9, крас. 10, трав. 10, сьнеж. 11.
Сямён—лют. 15, крас. 30, трав. 10, чэрв. 6, жнів. 3, вер. 25, ліст. 22.
Сэвэрын—вер. 4.
Сяргей—крас. 2, ліп. 11, 18, кастр. 8, 20.

Тарас—сак. 9, кастр. 25.
Тамаш—гл. Хама.
Тодар—гл. Хведар.
Трахім—сак. 29, крас. 28, жн. 5, кастр. 2.
Трыфан—лют. 14.
Тэадарыт—гл. Хвеадарыт.

Уладымер—ліп. 28.
Усевалад—сьнеж. 10.
Устын—чэрв. 14.

Флегонт—сак. 21.

Хама—ліп. 20, сьнеж. 23.
Харытон—кастр. 11, 19.
Хвадзей—вер. 3.
Хведар (Тодар) — лют. 8, 21, сак. 1, трав. 5, чэрв. 21.
Хверапонт—чэрв. 9.
Халімон—сак. 3, сьнеж. 5, 27.
Хлор—жн. 31.
Хвядос—студз. 24.
Хвядот—сакав. 15, трав. 12, чэрв. 20.

Цімахвей — студз. 1, лют. 4, сак. 5, трав. 16.
Ціт—крас. 15, вер. 7.
Ціхан—чэрв. 29, жн. 26.
Цярэнці—крас. 23.

Ювенал—ліп. 15.
Юльян—ліп. 4.
Юры—студз. 21, красавіка 17, трав. 6.
Юстын—гл. Устын.

Язэп—студз. 8, крас. 22, чэрв. 2, ліст. 16.
Якуб—крас. 3, трав. 13, чэрв. 4, кастр. 22, ліст. 5.
Якім—вер. 22.
Яраполк—чэрв. 7.
Яраслаў—ліп. 16.
Ярахвей—кастр. 17.
Ярміла—студз. 26.
Ярэма—чэрв. 13.

## II. Жаноцкія імёны.

Агата—студз. 10, лют. 18.
Аксіньня—лют. 6.
Акуліна—чэрв. 26.
Алёна—чэрв. 3.
Альжбета—вер. 18, ліст. 4.
Аляксандра—трав. 6.
Антаніна—чэрв. 23.
Анфіса—жн. 9.
Апрасіньня (Прузына)—чэрв. 5, кастр. 8.
Арына—трав. 18, кастр. 1.
Аўгеньня—студз. 6.
Аўдоцьця—сак. 14, жн. 17.
Аўпраксея—кастр. 23.

Барбара—сьнеж. 17.

—◁✱▷—

# Першая помач у нешчасьлівых выпадках.

### Падучая хвароба (эпілепсія).

Палажыць хворага на мягкую пасьцель і глядзець, каб хворы не зваліўся і ня ўдарыўся.

### Калі цячэ кроў з горла.

Хворы павінен мець абсолютны спакой, палажэньне паўляжачае, на грудзі кладзецца гумовы мяшочак з лёдам і трэба даваць патроху глытаць расчыненую жэлятыну ў вельмі малой дозе.

### Калі кроў цячэ з носа.

Змачыць хустку сьцюдзёнай вадой і прылажыць да пераносься, галаву адкінуць назад.

### Непатрэбны прадмет у вусе.

Хворага трэба палажыць хворым вухам дагары і ўліць у вуха некалькі кропляў цеплаватага алею, альбо гліцарыны. Нельга даставаць з вуха шпількамі ці дротам, трапіўшыя туды прадметы, бо гэтым можна загнаць іх яшчэ глыбей і саўсім папсаваць вуха.

### Непатрэбны прадмет у носе.

Калі выпадкова які-нібудзь прадмет залезе ў нос, дык трэба заціснуць пальцам вольную старану носа і дзьмухаць носам; калі прадмет ня выходзе, дык зьвярнуцца да доктара, без якога нельга рабіць ніякіх захадаў.

### Непатрэбны прадмет у воку.

Пры затрушэньні вока нельга яго цёрці, а трэба перамыць чыстаю, варанаю вадою; а калі гэта не памагае, дык зьвярнуцца да доктара.

### Адмарожаньне.

Замёрзшага нельга ўносіць адразу ў цёплае памешканьне, але трэба ў халодным месцы доба адцёрці адмарожаныя часьці цела сьнегам, альбо сьцюдзёнай вадою, і калі чалавек адыйдзе, дык унясьці яго ў хату, палажыць у ложак, накрыць цёплай коўдрай, аблажыць бутэлькамі з гарачай вадою, і даць яму выпіць гарачай гарбаты з каньяком ці гарэлкай.

### Пры апараньні.

Апараньне бывае трох гатункаў:

1. Калі скура на целе толькі чырванее;
2. Калі зьяўляюцца пузыры;
3. Калі бываюць моцныя асмаленьні вагнём.

Пры першым і другім выпадку трэба прыкладаць да хворага месца рошчыну соды. Адна лыжка на адну кварту сьцюдзёнай вады. Пузыроў зьдзіраць нельга. А тое месца, дзе пузыры зьдзёрты, трэба залажыць палатном, нашмарованым вазэлінай, альбо алеем.

Пры апаленьні пякучымі кісьлямі трэба хворае месца палівацць вадой з дадаткам соды, альбо вадой з разьмешанаю вапнай.

Пры апячэньні вока вапнай, трэба прамыць яго вадой вельмі добра прафільтрованай.

Пры апараньні лугам, трэба апаранае месца палівацць вадою з дадаткам цытрыновага соку.

У трэцім выпадку зьвярнуцца найхутчэй да доктара.

## Атручэньне:

### Чадам.

Перш за ўсё трэба атручанага (ўчадзеўшага) чалавека вывясьці на сьвежае паветра. У хаце адчыніць

дзьверы, вокны і юшку. Усё гэта трэба зрабіць вельмі хутка. Нацёрці віскі нашатырным сьпіртам, даваць хвораму яго нюхаць, зрабіць калі трэба штучнае дыханьне. Калі хворы ня прыходзе да прытомнасьці дык найхутчэй зьвярнуцца да доктара.

## Грыбамі.

Пры атруце грыбамі неадкладна вызваць ваніты пяром, альбо пальцам пры помачы казытаньня падниябеньня. Пасьля гэтага даць рыцыны, а на астатак даць выпіць чорнае кавы з віном ці з ромам.

## Мясам (трыхінамі).

Трэбна таксама вызваць ваніты. Даць рыцыны, даць выпіць у працягу 15 мін. адну шклянку вады з распушчанай ў ёй адной лыжкай звычайнае солі.

## Рыбай.

Таксама вызваць ваніты і паставіць леватыву, пасьля даць хвораму выпіць чорнай кавы з віном ці з ромам.

## Сьпіртам, табакай.

Пры атручэньні сьпіртам, табакай, опіумам, марфінай, трэба зараз-жа вызваць ваніты пры помачы казытаньня пяром альбо пальцам у горле, альбо даваць цёплую ваду з мылам.

## Лугам.

Даваць піць ваду з цытрыновым сокам, і кіслае малако.

## Ёдам.

Даваць крахмал, бульбу, хлеб.

## Ляпісам.

Даваць салёную ваду.

## Карболкаю.

Даваць ангельскую соль, распушчаную ў вадзе.

### Сулемою.

Даваць яйкі, малако, мыла.

### Мыш'якоw.

Вызваць ваніты праз казытаньне ў горле, альбо даваць ваду з мылам.

### Фосфарам (галоўкі ад сернікаў).

Даць піць цёплай вады, пасаліўшы яе, і вызваць ваніты.

### Падаўленьне.

Пры затрыманьні непатрэбнага прадмету ў горле часта бывае кашаль, які памагае прадмету выйсьці. Але калі гэта не памагае, дык трэба хворага павярнуць галавой уніз. У іншых выпадках, напрыклад пры затрыманьні мяса, трэба выпіць вады, альбо паказытаць у горле і вызваць ваніты.

### Павешаньне.

У гэтым выпадку асьцярожна зьняць самагубцу з пятлі, палажыць на ложак і пачаць расьціраць рукі і ногі сьцюдзёнай вадой, рабіць штучнае дыханьне, даваць нюхаць нашатырны сьпірт, і калі хворы пачне дыхаць, дык даваць яму піць моцную каву з віном, альбо ромам ці гарэлкаю, а самога накрыць цёплымі коўдрамі, аблажыўшы цела бутэлькамі з гарачай вадою.

### Паражэньне пяруном.

Небараку трэба распрануць; асыпаць зямлёй, альбо рабіць штучнае дыханьне, расьціраючы хворага сьцюдзёнай вадою.

### Паражэньне сонцам.

Хворага трэба палажыць у цені з высока паднятай галавой, распрануць, пачаць рабіць расьціраньне сьцюдзёнай вадой, на галаву палажыць мокрую хустку, рабіць штучнае дыханьне і даваць піць халодную ваду.

## Раны.

Пры ранах, зробленых іголкай ці шпількай, трэба зараз-жа параненае месца перамыць чыстай вадой, і завязаць чыстаю парцінаю. Пры ранах, зробленых тапаром ці іншым інструмэнтам і пры вялікім цячэньні крыві, трэба хутка зьвярнуцца да доктара, а параненае месца прамыць чыстай вадой, перавязаўшы моцна раменем вышэй раны.

## Удушэньне зямлёй.

Перш за ўсё патрэбна выкінуць зямлю з носа і рота. Далейшы курс лячэньня, як і пры павешаньні.

## Укус гадзіны.

Трэба перамыць рану пераваранай вадою з оцтам. Пасьля гэтага рану высмактаць, калі ёсьць пэўнасьць, што ў роце няма ніякіх царапінаў.

## Укус авадня.

Трэбна таксама абмыць рану пераваранай астуджанай вадою з оцтам.

## Укус шалёнага сабакі.

Рану абмыць і неадкладна хворага завязьці да доктара для процішаленскага прышчэпу.

## Утапленьне.

Калі топленік ужо страціў прытомнасьць, дык трэба якнайхутчэй рабіць выпампаваньне вады гэткім спосабам: калі ёсьць посьцілка, дык, палажыўшы на ее топленіка, пачаць яго калыхаць да таго часу, пакуль не пайдзе з горла вада. Калыхаць трэба ў папярэчным палажэньні. Другі спосаб пампаваньня вады, гэтакі: узяць топленіка за рукі вышэй лакця і рабіць імі ўзмахі. Пасьля гэтага расьціраць цела шарсьцянымі рукавіцамі, змочанымі сьпіртам.

## Утрата прытомнасьці.

Неадкладна трэба зьвярнуцца да доктара. Да яго прыходу трэба асьцярожна:

1. Усе часьці вопраткі на шыі расшпіліць.
2. Палажыць хворага так, каб галава была ніжэй за рэшту цела.
3. Скрапіць твар і грудзі вадою, і калі магчыма, дык уліць у рот віна.

## Пералом:

Пры пераломе нагі ці рукі, трэба, да прыезду доктара, даць хвораму поўны спакой. Зломаную руку ці нагу абкладаць лёдам.

## Зьвіх.

Памагаць такім самым спосабам, як і пры пераломе. На зьвіхнутае месца палажыць мяшочак з лёдам.



# ЛЯКАРСКІЯ ПАРАДЫ.

Трэба падкрэсьліць, што пры кожнай хваробе першая помач хвораму яшчэ да прыходу доктара мае вялікае значэньне. Калі ў чалавека пачынаецца гарачка, і тэмпэратура падымаецца вышэй за 37 гр., дык заўсёды трэба зараз-жа пакласьці хворага ў ложак і даць першую лякарскую помач.

### Раптоўны кашаль

Можна стрымаць гарачым малаком. Адна шклянка малака і адна лыжка несалёнай саланіны.

### Калацьцё.

Калацьцё і боль у грудзёх заспакойваецца цёплымі кампрэсамі, якія часта трэба зьмяняць.

### Прастуда.

Класьці хворага ў ложак, даць напіцца гарачага ліпавага цьвету, які выкліча пот, і гэткім чынам, можа чалавек паздаравець.

### Канвульсія.

Палажыць хворага на ложак і даць спакой, даглядаючы, каб ён не зваліўся.

### Ліхаманка (трасца).

Пры ліхаманцы добра даваць хвораму хіну ў дозе 0.5, і ня выпушчаць хворага на халоднае паветра ў працягу 3 тыдняў.

### Інфлюэнца.

Гэта хвароба выяўляецца ў такі спосаб. Пачынае хворага трасьці. Баліць галава, ломіць косьці, кідае ў холад і жару. Лячыць трэба гэтак: палажыць хво-

рага ў ложак, напаіць гарбатай з малінавым сокам, націерці тарпатынай, і ня выпушчаць хворага на халоднае паветра ў працягу 4 — 5 дзён.

## Развальненьне жывата (ганячка).

Трэба даць хвораму мятных ці іназемцавых кропель у ліку ад 15 да 30. Нічога ня есьці, апрача гарбаты, ў працягу 24 гадзін.

## Боль у галаве.

Ад моцнага галаўнога болю добра намачыць хустку оцтам і прылажыць да лоба і віскоў. Глядзець, каб оцат ня трапіў ў вочы.

## Пананеньне.

Пры ўсялякіх пананеньнях вельмі добра змазаць навакола раны ёдам.

## Глісты ў дзяцей.

Ад глістоў вельмі добра даваць цытворнае семя з мёдам.



# ПРАКТЫЧНЫЯ ПАРАДЫ.

## Мужчынская гаспадарка.

**Пабелка сьцен.** Каб вапна не асыпалася і ня пэцкала вопратак, трэба дадаць у вапну кварты дзьве малака, ці добра разьведзенага ў вадзе сталярскага клею.

**Чарніла для скур.** Трэба варыць сажу з малаком, а калі астыне, дык добра зьмяшаць з бялкамі ад яец, альбо з алеем.

**Гусеніца на садовых дрэвах.** Высушыць добра зялёныя лупіны ад арэхаў і лісьцьцё, палажыць у саган, паліць вадою і добра зварыць. Зварыўшы дадаць чалавечай мачы. Усё гэта добра прапусьціць праз палатно і разьвясьці з гашанай вапнай. Пасьля распусьціць у вадзе сажы, дадаўшы туды валовай жоўці, трошкі серкі і добра вымяшаць. Зьмяшаць усё разам і мазаць ім дрэвы ўвосень, калі ня будзе лісьцьцяў. Шмараваць трэба ад зямлі аж да першых галін. Паўтараць гэта штогоду.

**Гусеніца на агародніне.** Узяць два лоты сіняга каменя на адно вядро цёплай вады, разьмяшаць і абліць усю агарогніну гэтаю жыжкаю.

**Грыб у хаце.** Дзеля забясьпекі ад грыба ня трэба ніколі ўжываць пад фундамэнт чорнае зямлі, а трэба браць сухі пясок. На каменны фундамэнт, перад тым як класьці бэлькі, палажыць толь, альбо зрабіць мешаніну смалы і пяску. У дамох, дзе грыб ужо завёўся, трэба напальваць каменьні ці цэглы, падняць падлогу, і класьці іх пад ніз.

**Кітоўка шчэлін у падлозе.** Ўзяць па роўнай часьці жывіцы і тонкіх драўляных стружак, разварыць іх на кашу і гарачым замазваць шчэліны.

**Кітоўка печы.** Найлепей замазваць шчэліны ў печах глінай, распушчанай ў вадзе з бораксам.

**Конскія піяўкі.** Піяўкі вельмі шкодзяць рыбе. Зьнішчажаць іх можна гэткім спосабам: Трэба навязаць кусок якога-нібудзь мяса на шнур і кінуць у воду. Праз некалькі гадзін выцягнуць. На мясе будуць піяўкі; каб яны адпалі трэба пасыпаць на іх сольлю. Калі піяўка ўп'ецца ў чалавека, альбо якую жывёлу, дык ніколі ня трэба яе аддзіраць, бо можа зрабіцца небясьпечная рана. А трэба заўсёды гэтае месца пасаліць, і піяўка сама адваліцца.

**Плесьня ў бочках.** Каб бочкі, цэбры, вёдры, дзежкі і іншыя драўляныя рэчы ня плесьнелі, дык трэба іх часад-часу паласкаць цёплай вадой з негашанай вапнай, альбо з содай.

**Покаст.** Покаст з алею робіцца гэтакім чынам: Покаст з ляннага алею можна адтрымаць праз 42 гадзіны, варачы на слабым агні, прычым трэба ўвесь час мяшаць. Каб прысьпяшыць гэтую працу, трэба дадаць алавянага глейту. На 10 лотаў алею—ад 2 да 5 лотаў глейту, і варыць 24 гадзіны. Астудзіўшы покаст зьліць, на дне застанецца асадак. Варыць можна ў звычайным чугуне.

**Іржа на жалезных рэчах.** Каб іржа не пакрыла жалезных інструмантаў, трэба ўзяць тры часьці саланіны і адну часьць смалы, зьмяшаць усё гэта і вышмараваць усе жалезныя часьці. Тое месца, дзе іржа ўжо ёсьць добра вышмараваць газаю, пасьля выцерці пасуха.

**Выраб авечых скураў.** Скуры трэба мыць жыжкаю: 1 фунт вады, 100 гр. нашатыру, 50 гр. оцту і, добра зьмяшаўшы, мыць скуру. Вымыць трэба скуру ад усялякага бруду вельмі добра. Пасьля ўзяць дошку, на якой добра расьцягнуць цьвікамі скуру, шэрсьцю пад ніз і націраць мешанінай: 2 фунты галуну ў парашку і 2 фунты солі. Націршы, скуру трэба павесіць у сухім месцы, каб высахла. Калі скура ўжо трохі падсохла, дык трэба скрапіць яе жыжкаю прыгатоўленаю гэтак: Кару асіны трэба настаяць у гарачай вадзе ў працягу 12 гадзін, пасьля перацадзіць. Пасьля скрапеньня скуры, ізноў яе нацёрці галуном і сольлю. І скура ізноў сушыцца. Калі падсохне, дык другі раз, кропіцца жыжкаю, а рэшта мешаніны моцна ўціраецца ў скуру,

пасьля чаго трэба яе добра высушыць. Каб скура была лепшай, бяруць 5 жаўткоў курыных яец, мяшаюць з пшоннымі вотрубамі. Мешанінай моцна нацёрці скуру і прасаваць (качаць) яе ўва ўсіх кірунках. Каб шэрсьць была белая і добрая, дык трэба нацёрці яе крэйдай і пасьля добра выбіць.

---

# Жаноцкая гаспадарка.

**Чыстка лямпаў.** Каб лямпа добра гарэла, дык трэба ў газу ўсыпаць трохі солі. Шкло і машынку добра вычышчаць ад сажы.

**Чыстка меднага прыладзьдзя.** Чысьціць трэба кіслатою і крэйдаю.

**Чыстка ад мух.** Рэчы, забруджаныя мухамі найлепей чысьцяцца цыбульным сокам.

**Чыстка серабра і іншых мэталяў.** Трэба змачыць вадою, ў якой варылася бульба, а пасьля добра выцерці крахмалам.

**Як шкло да шкла прыляпіць.** Найляпей склейвае шкло клей - сындэтыкон, які бярэцца ў аптэцы.

**Як рабіць масьць да ботаў.** Каб боты не прамакалі, дык трэба шмараваць іх гэткаю мешанінаю: 6 лотаў жоўтага воску, $^{3}/_{4}$ ф. бараняга лою, 6 лотаў alівы, $^{1}/_{4}$ ф. шмальцу, і ўсё гэта зьмяшаць, растапіць і калі астыне, дык гэтым добра вышмараваць боты.

**Попел з папіросаў.** Гэтым попелам добра чысьціць усялякае шкло.

**Як нішчыць мышы і пацукі?** Трэба сьпячы маленькія булачкі, як найбольш салёныя і падсмажыць іх на саланіне. Пасьля параскідаць там, дзе ёсьць пацукі ці мышы. Пры гэтым трэба схаваць у хаце ўсю ваду.

---

## Сьпіжарня і кухня.

**Як пазнаць, ці сьвежае яйко?** Паглядзець яйко на сьвет, альбо апусьціць у ваду. Гнілыя яйкі ніколі не патануць.

**Як рабіць квас з хлеба?** Узяць 800 грам. хлебных сухароў, дадаць 600 гр. цукру, 60 гр. драждзжэй, заліць усё пераваранай вадою і паставіць па 3 дні, каб перабрадзіў. На 4 дзень квас можна піць. Для смаку можна ўкінуць ў кожную бутэльку па тры радзынкі.

**Як хаваць масла ад папсаваньня?** Узяць чысты кусок палатна, намачыць яго ў лёгкай сьцюдзёнай рошчыне вады з оцтам, завінуць у яго масла і палажыць у склеп.

**Соль для забясьпекі мяса ад папсаваньня.** Узяць: 35 часьцей простай солі, 35 часьцей салітры, 30 часьцей борнага квасу; усё гэта павінна быць у парашку, і пасаліць гэтаю мешанінаю мяса. Тады мяса будзе заўсёды мець добры смак.

**Як ураТаваць мяса ад плесьні?** Для гэтага трэба памыць яго ў моцна салёнай вадзе.

---

## Мыцьцё і чыстка вопратак.

**Найлепшы спосаб мыцьця вопратак.** Рашчыніць гліну ў вадзе, перацадзіць і гэтай вадой перамыць вопратку. Пасьля гэтага добра выпаласкаць у халоднай вадзе.

**Як вывясьці чарнільныя плямы?** Добра выводзіць плямы кіслаю сольлю, пасьля чаго вымыць мылам.

**Плямы ад кавы.** Выводзяцца найляпей за ўсе гліцарынай.

**Плямы іржы.** Гіпуць ад жыжкі: 10 часьцей галуну, 10 часьцей вады і 10 часьцей віннага квасу.

**Мыцьцё порця.** Пры мыцьці порця трэба яго добра вымыць у вадзе з содай, альбо з попелам, з якога робіцца луг.

---

### Зьніштажэньне аваднёў, чарвякоў і іншых непатрэбных казулек.

**Мухі.** Узяць 12 часьцей каніфолі, распусьціць нажыдка ў чатырох лотах ляннага алею і дадаць 1 лот мёду. Гэтаю рошчынаю нашмараваць кійкі і раставіць на вокнах.

**Блашчыцы.** Узяць ½ фунта солі, распусьціць у паўкварце вады і гэтаю жыжкаю вышмараваць месцы, дзе ёсьць блашчыцы.

**Парашок на прусакоў.** Узяць ¼ фунта анісавага (кменавага) караня, зьмеленага ў парашок, зьмяшаць яго з 1½ фунтамі эўкаліптавага алею. Пасыпаць на ноч падлогу.

**Чэрві і вошы у птушак.** Насушыць палыну, змалоць яго ў парашок і гэтым пасыпаць пер'е хатніх птушак, таксама дабаўляючы гэтага парашку ў яду, што памагае ад чарвей.

---

## Гігіена і лячэньне.

**Як забясьпечыць ногі ад замярзаньня.** Змачыць ганучы сьпіртам, ногі абвінуць паперам, пасьля завінуць змочанай ганучай і абуваць боты.

**Ёд у хаце.** У кожнай хаце павінен быць ёд, бо ён ужываецца пры кожным пашкоджаньні скуры, пры кожным параненьні цела.

**Пры адмарожаньні.**

1. Абкладаць 2 разы ўдзень адмарожанае месца дробна пакрышанай цыбуляй.

2. Націраць каваллкам цыбулі.

3. Штодзень увечары мачыць адмарожаныя часьці гарачай рошчынай галуну (1 фунт галуну на 1 гарнец вады).

4. Ужываць да гэтага мачэньня іншае жыжкі: кавалак хлёрнае вапны, велічынёю з валоскі гарэх, распусьціць у гарачай вадзе, перацадзіць і разбавіць аднэй квартай цёплае вады.

5. У трох квартах вады варыць 3 кілёгр. дубовай кары, пакуль ня выварыцца паўгарца і гэтаю яшчэ цёплаю жыжкаю мачыць адмарожаныя рукі альбо ногі.

6. Прыкладаць масьцяй, прыгатоўленай з рыбячага жыру і крэйдавага парашку.

7. Націраць цела гліцарынай з дадаткам пары кропляў арнікі.

**Ад апараных рук і ног.** Трэба перасыпаць талькам (парашком) паміж пальцаў рук і ног.

**Ад поту рук і ног.** Трэба ганучы пасыпаць танінам.

---

## Розныя парады.

**Добрая вада да піцьця.** Найлепшай вадой да піцьця зьяўляецца — крынічная.

**Ялаўцовы ягады.** Трэба зьбіраць ягады ад ялаўца; іх купляюць у аптэках.

**Маліна.** Яе трэба сушыць чым балей. Яна ўжываецца ад хваробаў. Наагул трэба зьбіраць добра вядомыя ўсялякія травы, якія ўжываюцца на лякарства.

**Як уратаваць дом ад перуна.** Дзеля гэтага добра садзіць каля хаты бярозы.

---

## Будова з каменя.

**Як робіцца заправа.** Браць буйны сухі пясок (жвір) у гэтакім працэнце: 4 вядры пяску на 2 вядры вапны; альбо 5 вёдраў пяску на 1 вядро цыманту. Усё гэта вельмі добра разьмяшаць. Зрабіўшы заправу, добра змочваць каменьні альбо цэглы, змазваць заправай і класьці сьцяну ўгару, гледзячы каб была моцная сувязь.

---

## Гаспадарскія рады.

**Як палепшыць малако.** Даваць патроху аўса карове — гэта найлепшая рэч для палепшаньня гатунку малака. Адзін немэц раіць гэта для кароў, каторыя даюць вадзяністае малако, і кажа, што меры ў $1/8$—$3/4$ фунта аўса на галаву ў дзень акурат хапае.

Прыбаўка да корму нятолькі дае больш клустых часьцей у малаку, але і паляпшае смак малака і масла з яго дый малака шмат прыбывае, а значыць і масла.

**Яшчэ адзін спосаб на пацукі і мышы.** Кладуць дзікую мяту у тыя месцы, дзе бегаюць мышы. Пацукі і мышы не пераносяць гэтага паху і ўцякаюць у другое месца.

**Як бараніць жывёлу ад мух і аваднёў летам.** У якую-нібудзь вялікую пасудзіну набраць палыну, абварыць варам так, каб вада цакрыла ўвесь палын і даць пастаяць 3—4 гадзіны. Калі раніцай абціраць гэтым палыновым жлуктам скаціну, то можна быць пэўным, што ні адна мошка ня сядзе на жывёлу. Абціраць больш аднаго разу ў дзень ня трэба.

**Як зьвясьці мох і лішаі на фруктовых дрэвах.** На гэта ёсьць колькі спосабаў: 1) На вядро вады бяруць 6 ф. попелу з дрэва, 1 ф. солі, 1 ф. простага мыла; мешаніну гэту вараць да таго часу, пакуль не разварыцца мыла. Калі мешаніна астыне, ўліваюць чарку тарпатыны (скіпідару) і гэтым мажуць пень і суччa, пакрытыя мохам і лішаямі. Мох і лішаі засыхаюць і самі сабой адвальваюцца. Кара пасьля гэтага мае выгляд сьвежы, здаровы. Восеньню гэту работу можна рабіць як ужо ападзе лісьцьцё, а вясною пакуль яшчэ не распусьціліся пучкі. 2) Добра спырсківаць з сікаўкі дрэвы вось гэткай мешанінай: 6 ф. меднага купарвасу, 4 ф. вапны на 4 вядры вады. Гэтак сама спырсківаць трэба, пакуль не распусьціліся пучкі.

**Даеньне кароў.** Найлепшае даеньне кароў—гэта даіць ня пальцамі, а так званым спосабам — „кулакамі" пры чым сьпярша гладзіцца ўсё вымя каровы, пасьля сьціскаць досіць высока правую, а потым левую старапу вымя, а тады ўжо даіць „кулакамі". Калі карова перастае даваць малако, тады трэба ізноў пагладзіць (масажаваць) кожную чэцьверць вымя з асобку і ўдарыць некалькі разоў досіць моцна кулаком у вымя зьнізу ўгару, як гэта робіць цялё, а тады ўжо выдаіць дачыста.

Каб малако было добрае на смак, трэба яго зьліваць у пасудак не ў аборы, а на двары, цадзіць не праз палатняныя цадзілкі, а праз сітца з ватай. Самае малако павінна нейкі час пастаяць адкрытым, каб страціла свой пах.

**Калі рубаць дрэва на будоўлю?** Найдаўжэй будзе стаяць тая будыніна, каторая пабудована з дрэва ськечанага ў тым часе, калі ўжо ўсе сокі з дрэва зыйшлі ў карэньні, гэта знача ў самай сярэдзіне зімы, ў студні месяцы. Дрэва, рубанае у іншым часе, дае ня крэпкі матар'ял, каторы скора парахнее і гніе.

**Іржа на порці.** Выцісьнуць у сталовую ложку сок з цытрыны і нагрэць яго над лямпай альбо сьвечкай і гарачым сокам мачыць плямы ад жалеза, каторыя скора зьнікнуць.

**Рожа ў сьвіней (чырвонка),** — вельмі пошасная хвароба. Найчасьцей хварэюць на яе сьвіньні ад шасьцёх месяцаў да двух гадоў, больш за ўсё ў летнія месяцы. Азнакі вось якія: сьвіньня слаба есьць, хвост апушчаны, зарываецца ў падсьцілку, часта дыша, з рота цячэ лепкая сьліна, скура гарачая: на ёй (на вушох, вакол вачэй, на брусе) паказаваюцца плямы чырвонага, вішнёвага, фіялетавага колеру. Праз 3—4 дні наступае сьмерць. — Чума ў сьвіней ідзе ня так хутка. Сьвіньня кашляе, марнее і да гэтага яшчэ дабаўляецца панос. Чума здараецца часьцей, чымся рожа. Лякарствы мала памагаюць, найболей пры сьвіных хваробах памагаюць прышчэпліваньні.

**Сталярскі клей, які не распускаецца ў вадзе.** Кладуць сталярскі клей у ваду; калі ён размокне (а не распусьціцца) яго распушчаюць у покасьце, умеранна награваючы. Засыхае гэты клей даўжэй, як вараны на вадзе.

**Попелам з дрэва** варта пасыпаць сенажаці ўсюды, дзе яго можна недарагім спосабам шмат даставаць (пудоў 50—70 на дзесяціну); калі-б навет за попел трэба было плаціць і вазіць здалёку, дык і так шмат таньней абойдзецца пасыпаць сенажаці попелам, чымся купляным парашкамі (каінтам, томасшлякам, фосфарам).

**Абарона пчол ад мышэй.** Мышы вельмі ня любяць мяты. Ставіўшы вульлі на зімоўку, трэба класьці галінкі мяты ўсюды — і на вульлі і на пакрышку, і на памосьце. Пчолам ад мяты нічога ня робіцца.

**Мазалі на нагах.** Найляпей, размачыўшы ногі ў вадзе — зрэзаць ножніцамі. Трэба пільнавацца толькі, каб не зарэзаць да крыві, бо можна заразіць кроў, а гэта грозіць сьмерцьцю.

**Аб адкармленьні сьвіней.** Сьвіньня, як і кожная жывёла, вымагае дагляду і чыстаты. Калі будзеш сьвіньню час-ад-часу абмываць цёплай вадой, чысьціць яе 1—2 разы на тыдзень шчоткай, ці хоць-бы згрэблам, яды даваць хоць паменш, але часта, сьвежае, ў чыстай пасудзіне, за кожным разам прыймаючы яе з хлява, тады толькі сьвіньня відам расьце і сыцее. Таксама добра, калі ў хляве папрыбіваць планкі, аб якія сьвіньня магла-б часацца сама. Трапляюцца сьвіньні, каторыя надта глумяць яду, вываpачваючы яе з ражкі на зямлю. На гэта ёсьць рада. З двух бакоў пасудзіны зрабіць вушы (з жалеза, ці хоць-бы з моцнай вяроўкі), за гэтыя вушы падчапіць двама крукамі, асаджанымі на кіёх, а кіі гэтыя прымацаваць да бэлькі ўгарэ. Гэтак пасуда з ядой не на зямлі будзе стаяць, а вісець і калыхацца і сьвіньня ня толькі ня дасьць рады вывярнуць, але і з нагамі туды не ўлезе, дык яда заўсёды будзе чыстая.

**Пошасныя хваробы ў нашых жывёлаў.** Золзы, — невылячымая хвароба коней, ад якое могуць захварэць і людзі. Прызнакі золзаў: 1) пад сківіцамі паказываецца цьвёрдая пухліна, жалвак у арэх велічынёю, 2) з храпаў (адной або абедзьвюх) пачынае цячы зеленавата-жаўтаватая жыжка, або 3) на целе паказваюцца жалвакі (ў арэх), якія не баляць пры ашчупваньні; калі гэтыя жалвакі прарываюцца, з іх цячэ гной. Глаўнае, трэба баяцца сапу, калі штось падобнае прыключаецца ў каня, нядаўна купленага ад невядомай асобы, на рынку, або з гаспадаркі, дзе коні ўжо хварэлі.

**Сушка мокрых абутак.** Каб вымачаная абутка ня сьселася, яе трэба добра набіць непатрэбнай паперай або саломай і сушыць у цёплым месцы, але ні ў якім разе ня ў печы, альбо каля вагню.

**Кратоў выгнаць** можна заліваючы, або кладучы ў норы чаго-небудзь вельмі сьмярдзючага. Ужываць на гэта часныку, кавалкі гнілога мяса, селядцы, шпікунар, нафталіну і інш.

**Як ачышчаць лёд з замёрзшых вокан.** На шклянку цёплай вады кладуць сталовую лыжку звычайнай солі або галуну і, змачыўшы рызіпачку, мажуць замерзлае вакно і лёд хутка тае.

**Як зрабіць, каб вышлі каляровыя кураняты?** Садзячы курыцу на яйкі, трэба гэтыя апошнія вымазаць алеем, а калі высахнуць, дык намалявацць іх, якімі хочаш, колярамі; пасьля пзноў пакрыць высахшыя хварбы алеем і пасадзіць на гэтых яйках курыцу. Праз тры тыдні выйдуць кураняты такіх самых колераў, якімі былі намалёваны яйкі.

**Як усьцерагчыся ад молі.** Перад выездам з дому, ці пакідаючы памешканьне на некалькі месяцаў, трэба добра выбіць і вычысьціць шчоткай мягкія мэблі. Пасьля ў адным літры (крыху болей кварты) чыстага сьпірту распусьціць 40 грамаў камфоры, ўсыпаць туды 30 грамаў тоўчанага індзейскага перцу і, паналіваўшы гэтую мікстуру ў малыя шкляначкі, парасстаўляць іх пад мэблямі, а таксама і ў шафы з адзежай. Замкнуўшы добра ўсе вокны і дзьверы, можна быць пэўным, што моль нічога не папсуе.

**Калі пячэ пякотка.** Трэба ўзяць лыжачку ачышчанай соды, разьмяшаць у вадзе і выпіць. Памагае таксама, калі зьесці кавалачак крэйды. Калі ні аднаго ні другога няма пад рукой, трэба прабаваць піць сцюдзёную ваду маленькімі глыткамі.

---

## Земляробства.

**Апрацоўка раньлі.** Калі толькі праменьні сонца згоняць сьнег і зямля пачне адходзіць, дык трэба зараз-жа аглядзець поле, зрабіць, дзе трэба канаўкі для стоку вады; пасьля, калі поле трохі абсохне, дык пачаць баранаваць яго, якое было згарана ўвосень. Таксама трэба глядзець, каб на азімым жыце ня было плесьні, ды хвашчоў (трава). На полі, якое было прыгатоўлена для бульбы, раскідаць гной роўным пластом, пасьля яго загараць, забаранаваць і чакаць часу пасадкі бульбы.

**Некалькі слоў аб сяўбе.** Найважнейшая пара ў гаспадарцы ёсьць вясна і час пасеву. Кажуць, якая сяўба такі і ўраджай. Нагляд над сяўбою гаспадар ніколі не павінен даручаць другім. Найляпей за ўсё, калі ён наглядае за ёю сам, альбо сам робіць яе. Трэба даглядаць, каб насеньне было добрае і пры сяўбе глядзець, каб зярняты клаліся роўна і пры забаранаваньні ня вельмі былі глыбока заціснуты ў зямлю.

**Як зьнішчыць хвошч?** Для гэтага трэба, перад тым як пачаць сеяць якое-кібудзь насеньне, пераглядзець яго добра каб там ня было насеньня хвашчу і іншых непатрэбных траваў, якія шкодзяць ураджаю.

---

## Гной.

**Гной чалавечы.** Гной чалавечы мае гэтакую вялізарную моц, што гноем 7 чалавек магчыма ўнавозіць у працягу году адну дзесяціну зямлі. Але трэба заўважыць, што праз чалавечы гной разводзіцца больш за ўсё ўсялякае заразы, дзеля гэтага трэба па выліваньні чалавечага гною на полі, зараз-жа яго загараць, альбо рабіць на полі невялікія раўкі, якія зарываць па напаўненьні іх гноем.

**Склад гною.** Склад гною павінен быць заўсёды ў цені, бо праменьні сонца вельмі яму шкодзяць, высушваючы яго, што шкодзіць перагнаеньню яго. Найляпей за ўсё трымаць гной у ямах цымантовых, альбо абкладзеных каменьнем.

**Раскіданьне гною.** Па вывазе на поле гною, ён павінен быць складаны ў такім парадку: на кожныя два квадратныя сажні павінен ляжаць адзін воз. Гной павінен быць раскіданы роўным пластам па полі.

**Загорваньне гною.** Пры загорваньні гною, трэба наглядаць, каб гной быў ня вельмі глыбака загараны, і таксама не завельмі мелка.

**Ары зямлю кожны год глыбей,** каб дабрацца на добрую пядзю ў глыб. Араць глыбей можна толькі пад авёс, бо ён не баіцца дзікай (жыўца) зямлі; калі-ж бярэш у глыб пад жыта, дык давай усьлед гной.

**Кідай драўляную снасьць і плуг тутэйшай работы,** а бярыся за фабрычныя, бо зямлі добра ня вырабіш, жывёлу і сябе намучыш, а толькі каваль на гэтым заробе.

**Не ары вясной пакуль скіба блішчыць,** бо пасьля яе не разбарануеш; а як толькі зямля падсохне—бярыся за сяўбу, бо ярына жывіцца толькі зімовым запасам вільгаці. Раньняя сяўба хоць ня ўродзе, але з насеньня ня зводзе.

**Саломісты гной і худая жывёла** для гаспадара не пацеха, а ў гаспадарцы не падмога.

Ня вывозь на поле гною, пакуль ён не перапрэе ў хляве, бо з такога гною карысьць для пасеву невялікая.

Разьбівай на полі гной як драбней, бо вялікія камякі яго ў зямлі цаглеюць і не даюць пагною для зямлі.

Вазі гной з-пад коняў і авечак на нізкае поле, бо ён цяплейшы, з-пад скаціны рагатай—на ўзгоркі, бо там зямля цяжэйшая.

**Кампост.** Кампост робіцца з усялякіх адкідаў гэтакім спосабам: Трэба выкапаць яму, якая павінна быць абцымантована, куды і скідаюць ўсялякія непатрэбныя рэчы, памыі, расьціны, крапіва, птушыны гной, сьмяцьцё з хаты і наагул усялякія адкіды. Прытрымоўваючыся гэткага парадку: Калі бруду набярэцца глыбінёй на адну лапату, дык трэба прысыпаць зямлёй і добра перамешваць.

## Гадоўля жывёлы.

1. У добрай гаспадарцы трэба мець заўсёды ня менш як двух коняў для працы і аднаго для плоду.

2. **Рагатай жывёлы:** адну на корм, дзьве на зарэз, тры на плод і чатыры на малако.

3. **Сьвіней:** адну на прадажу, дзьве для плоду і тры на карміленьне.

4. **Авечак:** дзьве на корм, тры на скуру і мяса, чатыры на прадажу.

Пры гадоўлі маладой жывёлы, трэба старацца, каб яна была заўсёды добра дагледжана. Нельга даваць вельмі сьцюдзёнай вады і кепскага корму.

## Календар цяжарнасьці дамовай жывёлы.

| Дзень станоўкі | Дзень пароду | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Кабыла 340 дзён | Карова 250 дзён | Авечка і каза 154 дні | Сьвіньня 120 дзён | Сучка 63 дні |
| 1 студня<br>16 „ | 6 сьнеж.<br>21 „ | 12 кастр.<br>27 „ | 3 чэрв.<br>18 „ | 30 крас.<br>15 траўн. | 4 сакав.<br>19 „ |
| 1 лютага<br>15 „ | 6 студня<br>20 „ | 12 лістап.<br>26 „ | 4 ліпня<br>18 „ | 31 траўн.<br>14 чэрв. | 4 крас.<br>18 „ |
| 1 сакав.<br>16 „ | 3 лютага<br>18 „ | 10 сьнеж.<br>25 „ | 1 жніўн.<br>16 „ | 29 чэрв.<br>13 ліпня | 3 траўн.<br>18 „ |
| 1 крас.<br>16 „ | 6 сакав.<br>21 „ | 10 студня<br>25 „ | 1 верас.<br>16 „ | 29 ліпня<br>13 жніўн. | 2 чэрв.<br>17 „ |
| 1 траўн.<br>16 „ | 5 крас.<br>20 „ | 9 лютага<br>24 „ | 1 кастр.<br>16 „ | 28 жніўн.<br>12 верас. | 2 ліпня<br>17 „ |
| 1 чэрв.<br>16 „ | 6 траўн.<br>21 „ | 12 сакав.<br>27 „ | 1 лістап.<br>16 „ | 28 верас.<br>13 кастр. | 2 жніўн.<br>17 „ |
| 1 ліпеня<br>16 „ | 5 чэрв.<br>20 „ | 11 крас.<br>26 „ | 31 лістап.<br>16 сьнеж. | 28 кастр.<br>12 лістап. | 1 верас.<br>16 „ |
| 1 серп.<br>16 „ | 6 ліпеня<br>21 „ | 12 траўн.<br>27 „ | 2 студня<br>16 „ | 28 лістап.<br>13 сьнеж. | 2 кастр.<br>17 „ |
| 1 верас.<br>16 „ | 6 жніўн.<br>21 „ | 12 чэрв.<br>27 „ | 1 лютага<br>16 „ | 28 сьнеж.<br>13 студня | 2 лістап.<br>17 „ |
| 1 кастр.<br>16 „ | 5 верас.<br>20 „ | 12 ліпня<br>27 „ | 3 сакав<br>18 „ | 28 студня<br>12 лютага | 2 сьнеж.<br>17 „ |
| 1 лістап.<br>16 „ | 6 кастр.<br>21 „ | 12 жніўн.<br>27 „ | 3 крас.<br>18 „ | 28 лютага<br>15 сакав. | 2 студня<br>17 „ |
| 1 сьнеж.<br>16 „ | 5 лістап.<br>20 „ | 11 верас.<br>26 „ | 3 траўн.<br>18 „ | 30 сакав.<br>14 крас. | 1 лютага<br>16 „ |

# Беларускае Грамадзянскае Сабраньне.

(Адрэс: Вільня, вул. Людвісарская 4). Арганізована ў 1911 годзе, але ў часе вайны было нячыннае; старшыні былі ўсе выехаўшы ў Расею. У 1920 г. Віленскім Беларускім Нацыянальным Камітэтам было даручана грамадзянам Стан. Валэйшы і У. Більдзюкевічу ўзнавіць чыннасьць Сабраньня. Трудная была праца, бо ня было за што наняць памешканьня, а быўшая маемасьць уся была парасьцягвана.

Ня гледзячы на ўсё гэта, Грамадзянскае Сабраньне аднавіла сваю чыннасьць, але і тут ворагі не драмалі, бо праз чатыры месяцы было запячатана і толькі пасьля году цяжкае барацьбы ўдалося дабіцца дазволу ўзнавіць дзейнасьць Грамадзянскага Сабраньня, і яно было ўрачыста агульным сходам 16-га ліпня 1922 году адкрыта. З тае пары Грам. Сабраньне праявіла вялікую культурную чыннасьць; яно паставіла больш як 52 спэктаклі, канцэрты, вечары, прымала розных чужаземных гасьцей, ладзіла сьвяткаваньні незалежнасьці Беларусі (25 сакавіка), штогодна рабіла ўспаміны Слуцкага Паўстаньня. Матар'яльна памагала Віленскай Бел. Гімназіі, Белар. Прытулку, школам, Бел. Нац. Кам. і іншым беларускім арганізацыям і дзеячом; выдала сцэнічныя творы: «Птушку шчасьця» і «Шчасьлівы муж», кніжкі: «Беларускі Тэатр», «Календар за 1923 г.», «Тыпы Палесься» і цяпер выдае п'есу «Янка Канцавы». Беларускае Грамадзянскае Сабраньне прымала ў сваім памешканьні ўсе зьезды ў часе выбараў у Варшаўскі Сойм па сьпіску № 16, а таксама і ўрачыста выпраўляла выбраных паслоў у Сойм і сэнатараў 24 лістапада 1922 г.

22-га чэрвеня 1924 г. Беларускае Грамадзянскае Сабраньне пачало выдаваць газэту «Грамадзкі Голас», выдавецкія правы на якую пасьля перададзены рэдактару яе, грамадзяніну Яз. Салаўю.



ПРЭЗЫДЫУМ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗЯНСКАГА САБРАНЬНЯ.

Першы з левага боку на права—Сэкрэтар *Мікалай Счэнсновіч*, другі—Прэзэс *Станіслаў Валэйша*, трэці — *Усевалад Більдзюкевіч* і чацьвёрты — скарбнік *Андрэй Гаўрылловіч*.

# Беларуская выдавецкая справа у мінулым годзе.

Аб якім-нібудзь сыстэматычна арганізованым беларускім выдавецтве ў нас гаварыць ня прыходзіцца. Тое, што пасьпявае праз друк пабачыць сьвет, выходзіць як-бы выпадкова: справаю друкаваньня беларускіх кніжак займаюцца тыя ці іншыя беларускія арганізацыі, рэдакцыі газэт, або навет і прыватны прадпрыемца.

Гэтак, у 1924 годзе выдаваліся кніжкі:

1) «Беларускім Выдавецкім Таварыствам»;

2) Беларускім Аддзелам «Віленскага Выдавецтва Б. Клецкіна»;

3) Газэтай «Голас Беларуса», і

4) Беларускім Грамадзянскім Сабраньнем.

Найбольшыя разьмерам кніжкі выдаваліся дасюль «Віленскім Выдавецтвам Б. Клецкіна» (прадпрыемства прыватнае — старая выдавецкая фірма ў Вільні з вялікаю ўласнаю друкарняю), але апошнім часам, ня маючы шырокага беларускага кніжнага рынку, Б. Клецкін часова прыпыніў друкаваньне беларускіх кніжак.

Адсутнасьць коштаў у беларускіх арганізацыяў на друкаваньне кніжак, вядзе часамі да таго, што кніжкі адбіваюцца літаграфскім спосабам; гэтак выданы ў 1924 г. вельмі важныя гімназіяльныя падручнікі па фізыцы і космографіі.

Што датычыць газэтнага боку справы, дык у 1924 годзе выходзілі па тры разы ў тыдзень 2 газэты «Грамадзкі Голас» (адрэс Рэдакцыі: Вільня, Людвісарская вул., дом № 4) і «Сялянская Праўда» (адрэс: Вільня, Віленская вуліца, № 12). Апрача гэтага выходзіць тыднёвік „Krynica“.

«Грамадзкі Голас» закладзены Беларускім Грама-

дзянскім Сабраньнем выходзіць з 22-га чэрвеня 1924 г., а «Сялянская Праўда» мае за сабою цэлы рад газэтаў розных назоваў і навет аднаднёвак у мінулым. Гэтак за 1924 г. зьмянялі адна адну такія газэты: «Вольны Сьцяг» зачыніўся на 20 нумары, «Змаганьне» (выйшаў трыццаць адзін (31) нумар), «Голас Беларуса» (21 нумар) і «Сын Беларуса», пасьля якога зьявілася «Сялянская Праўда». Усе гэтыя газэты перажылі даволі шмат конфіскатаў і ў большасьці сваёй спыняліся ўладаю да рэзультату судовага прыгавару.

Найстарэйшаю, якая цяпер істнуе ў Вільні газэтаю, трэба лічыць «Krynicu», бо выходзіць яна 8-мы год.

Пад канец 1924-га году (ў другім паўгодзьдзі ў **Горадне** выйшлі **дзьве** аднаднёўкі «Выстрал» і «Гудок». Апошняя з іх гэтак няўмела змайстравана, што пад некаторымі артыкуламі ў канцы пастаўлена: *„Працяг будзе"*. У Вільні летам выйшла аднаднёўка «Абух».



МАКАР КОСЬЦЕВІЧ
пісьменьнік,
пад рэдакцыяй якога выйшаў гэты Календар.

Як мы спаміналі ў пачатку гэтага агляду, цьвёрдае сыстэмы ў выдаваньні беларускіх кніжак у 1924 г. ня было, як і раней; ня гледзячы на гэта выдавецкі рух у гэтым годзе можна лічыць **у два разы большым**, як у 1923 годзе, дзеля таго, што толькі за 1-е паўгодзьдзе 1924 году было выдана кніжак **гэтулькі сама, як** за ўвесь 1923 **год.**

У 1924 годзе выпушчаны ў сьвет гэткія кніжкі на беларускай мове:

### I. Поэзія Проза. Сцэнічныя творы.

1. **Ф. Аляхновіч** — «Пан Міністар» (камэдыя-сатыра ў 3-х актах).
2. **К. Сваяк** — «Мая ліра» (зборнік вершаў).

3. **М. Лермантаў** — «Мцыры» (поэма) — вершаваны пераклад Краўцовага Макара.
4. **Макманус** — «Ірляндзкія казкі» (пераклад Добрага Карліка), з 33 малюнкамі ў тэксьце.
5. **Я. Быліна** — «На прызьбе» (зборнік вершаў).
6. **Суліма** — «Праф. Зьдзехоўскі аб беларускай душы» (крытычны нарыс).
7. **Ул. Жылка** — «На ростані» (зборнічак вершаў).
8. **Дзяргач** — «Тыпы Палесься» (абразкі й легэнды).
9. **Я. Пачопка** — «Дурнішча» (народная казка).
10. **К. С.** — «Янка Канцавы» (вясковая драма ў 5-х дзеях), прэміравана Радаю Старшыняў Беларускага Грамадзянскага Сабраньня на 1-м конкурсе сцэнічных твораў, абвешчаным Беларускім Музыкальна-Драматычным Гуртком.

## II Навуковыя творы.

*А. Падручнікі, популярныя кніжкі і т. д.*

11. **А. Смоліч** — «Зорка» ч. I і II. (лементар).
12. **А. Смоліч** — Географія Беларусі; выданьне 3-цяе *(з ілюстрацыямі)*.
13. **Н. Рубакін** — Расказы аб вялікіх падзеях розных часоў і народаў. (Вялікія войны і барацьба з вайною). Ілюстрована. *Пераклад з расейскае мовы* **Краўцовага Макара**.
14. **Ю. Вагнэр** — «Апавяданьні аб жывёлах» (з ілюстрацыямі). З расейск. пералажыў **Я. Пачопка.**
15. **Д-р А. Краскоўскі** — «Аб чалавечым целе здаровым, хворым і спосабах яго лячэбнай самаабароны *(з ілюстрацыямі)*.
16. **Б. Каляда** — «Страшны вораг» (гарэлка).
17. **Ф. Аляхновіч** — «Беларускі тэатр» (гісторыя тэатральнага руху).
18. **Р. Астроўскі** — «Космографія» *(прырода, матэматыка)*.
19. **Інж. Ант. Нэканда-Трэпка** — «Фізыка ч. 2» *(оптыка і акустыка)*.
20. **З. Верас** — «Ботанічны слоўнік».
21. «Як адкрыць беларускую школу» *(інструкцыйныя парады)*.

*Б. Гаспадарчыя:*

22. **Я. Пачопка** — «Пчолы і як іх вадзіць у рамовых вульлях».
23. **Я. Пачопка** — «Малочная карова». Як яе выбіраць, карміць і даглядаць.

*В. Палітычныя:*

24. Вэрсальскі Трактат *(пералажыў з польск.* **К. М.**).
25. Констытуцыя Польскае Рэспублікі 17-га сакавіка 1921 году, **Закон** 20.1. 1920 г. аб польскім грамадзянстве і **Рыскі Трактат** (пераклад *з польск.*).
26. **Суліма** — «Якія самаўрад гатуе Польск. Рэсп. Беларускаму Народу?» *(крытыка)*.
27. Прамовы дэпутатаў Беларускага Пасольскага Клюбу ў Польскім Сойме ў часе дыскусіі аб бюджэце і законах аб мовах нац. меншасьцяў *(паводле соймавых стэнаграмаў)*.

Залічаем да выданых у гэтым годзе кніжак і выпушчаны коштам Беларускага Грамадзянскага Сабраньня гэты:

28. «Беларускі Календар на 1925 год».

Усе гэтыя і іншыя беларускія кніжкі **можна купляць у Беларускай Кнігарні ў Вільні,** (Завальная вуліца, 7 і ў кнігарнях на провінцыі (бяз розьніцы ў цане) ў **Навагрудку, Лебедзеве, Слоніме, Клецку** і інш.

Выпісваючы ня больш як на 2 злот. можна прысылаць у Кнігарню грошы паштовымі маркамі і 25 грош. на перасылку (таксама паштовымі маркамі).

Абавязак кожнага беларуса — чытаць і пашыраць роднае друкованае слова!

*К. Н.*





ЯНКА КУПАЛА

адзін з найвялікшых беларускіх поэтаў цяперашняга часу і аўтор драматычных твораў. Яго ўсюды вядомая „Паўлінка" наўрад ці сайдзе калі-нібудзь з беларускае сцэны.

* * *

*Горы ды каменьні,*
*Вузкія палоскі:*
*Гэта наша поле,*
*Поле нашай вёскі.*

*Лапці ды сярмягі —*
*Як абраз ня боскі:*
*Гэта нашы людзі,*
*Людзі нашай вёскі.*

*Курныя ваконцы —*
*Сьвету каб хоць трошкі:*
*Гэта нашы хаты,*
*Хаты нашай вёскі.*

*Корчмы ды вастрогі,*
*Крыжыкі, бяровкі:*
*Гэта наша доля,*
*Доля нашай вёскі.*

**Янка Купала.**

# БЕЛАРУСКІ ТЭАТР У 1924 г.



ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ
аўтор найвыдатнейшых п'есаў беларускага арыгінальнага сцэнічнага рэпэртуару.

Вільня, якая ў першую пару Беларускага Адраджэньня была цэнтрам беларускага культурнага руху, пасьля сусьветнай вайны гэтае месца пачынае ўступаць Менску. І беларускі тэатр, які пасьля першай расейскай рэвалюцыі збудзіўся да жыцьця ў Вільні, цяпер праяўляе ў нас сваю дзеяльнасьць час-ад-часу рэдкімі спэктаклямі, і ўсялякія спробы павясьці працу сыстэматычна, бесьперарыўна, дагэтуль не далі сур'ёзных рэзультатаў.

Прычыны гэтага сумнага зьявішча — дзьве. Першая — гэта адсутнасьць матар'яльнай падмогі. Тэатр—гэта дарагая установа, якая без субсыды, без матар'яльнага абясьпечаньня сваіх працаўнікоў, без багатага асыгнаваньня грошай на тэхнічны бок справы (дэкорацыя, касьцюмы, электрычная інсталяцыя, рэквізыт) істнаваць, а тым балей удачна разьвівацца, ня можа. У нас-жа глядзяць на тэатральны спэктакль перш-на-перш, як на спосаб здабыць грошы на нейкую грамадзкую установу. Пухнуць з голаду дзеці ў беларускім прытулку — кіраўнікі яго ладзяць спэктакль; значны процант вучняў беларускай гімназіі ня мае чым заплаціць за школьную навуку — гімназістыя ставяць спэктакль і г. д. І няма дзіва, што гэткія *ad hoc* майстраваныя спэктаклі ня могуць узьбіцца вышэй за звычайную аматарскую пастаноўку.

Другой важнай прычынай, якая стаіць на перашкодзе разьвіцьцю тэатральнай дзеяльнасьці ў Заходняй Беларусі— гэта сучасныя палітычныя абставіны, пры якіх трудна ладзіць спэктаклі на провінцыі. Дазвол на спэктакль адтрымаць у старастве вельмі цяжка, польскія чыноўнікі робяць усялякія труднасьці, а калі ўсе перашкоды, дзякуючы энэргіі і вытрываласьці арганізатараў спынены, часамі дамагаюцца... перакладу п'есы на польскую мову. (Напр. Вялейскае Стараства). Але імкненьне да тэатральнага спэктаклю гэткае сільнае, што вясковая моладзь няраз патрапляе перамагчы ўсе перашкоды і ставіць часам вельмі ўдачныя спэктаклі на провінцыі (напр., у Радашкавічах).

У Вільні ў апошнія часы тэатральная работа концэнтравалася у Беларускай Драматычнай Майстроўні, якая заставалася ў мурох Беларускай Гімназіі, пабудаваўшы тут зусім добрую сцэну і прыдбаўшы сабе крыху дэкорацыяў, прыгожую заслону, рэквізыт. Але не шанцавала Беларускай Майстроўні. Перш-на-перш нехта у нейкі таёмны спосаб украў уночы дарагую плюшавую заслону, спэктаклі ня ўсе былі „змайстраны" ўдачна. Са спэктакляў, якія сталі на вышыні мастацтва, трэба ад'значыць, „У зімовы вечар" Э. Ажэшкі і „На папасе" Я. Купалы (у сакавіку 1924 г.) Пастаноўка „У зімовы вечар" была цікаўна ня толькі, як добра апрацованы спэктакль, але й як мастацкі экспэрымэнт рэалістычнай рэжысэрскай пастаноўкі. Але ў канцы школьнага году, з прычыны недахвату месца ў мурох Гім-

назіі, сцэну перарабілі на школьную клясу, а Драматычная Майстроўня апынулася без свайго прыпынку.

Таксама адным з удачных спэктакляў быў наладжаны летась спэктакль на карысьць беларускага прытулку, калі ставілі „Пана Міністра“ Аляхновіча з аўторам у загалоўнай ролі.

Што датычыцца спэктакляў на провінцыі, дык трэба перш за ўсё ад'значыць прадстаўленьні, ладжаныя вучнямі Радашкаўскай Гімназіі, якія ставілі „Птушку шчасьця“, „Паўлінку“, „Пана Міністра“, „Страхі жыцьця“ і „Дрыгву“ з гастролямі прыяжджаўшага з Вільні Аляхновіча.

У восені 1924 г. тэатральны сэзон пачаўся „Дрыгвой“ Аляхновіча з аўторам у ролі Галубоўскага.

Трэба спадзявацца, што наша грамадзянства вазьме ініцыятыву ў свае рукі і ў канцы канцоў, выкарыстоўваючы тыя мастацкія сілы, якія ёсьць у Вільні, з'арганізуе нешта трывалае, салідпае, бо мастакі рэдка бываюць добрымі арганізатарамі, а голад роднага слова са сцэны ўжо моцна адчуваецца ў нашай публікі і матар'яльная ўдача прадпрыемства дзеля гэтага можа быць абясьпечана.

Пішучы агляд тэатральнай беларускай работы за апошнія часы трэба ад'значыць спэктаклі за граніцай: у **Латвіі** і **Чэха-Славакіі**. У **Дзьвінску** і інш. гарадох і мястэчках Латвіі беларуская вучнёўская моладзь летась ставіла ўдачныя спэктаклі, якія зьбіралі шмат публікі, ня толькі беларускай.

У апошнія часы **ў Чэскай Празе** заснаваўся **Беларускі Драматычны** гурток, які ставіў спэктаклі ў Празе і выязджаў на провінцыю (у **Юзэфова**). Гулялі „Птушку шчасьця“ Аляхновіча. Драматычны гурток у Празе, дзе цяпер гэтулькі згуртавалася беларускай моладзі ў мурох праскага унівэрсытэту, якая можа даць новай установе маладыя мастацкі матар'ял, можа мець важную ролю ў гісторыі беларускага тэатру.

**Э. Б—кль.**

---

## Першы беларускі спэктакль у Вільні 14 гадоў таму назад.

12 лютага 1910 г. ў салі Жалезнадарожніцкага Клюбу ў Вільні на Хэрсонскай вул. (*Вароняя*) быў наладжаны першы беларускі спэктакль часаў нашага Адраджэньня. Гралі „Па рэвізіі" Крапіўніцкага (пераклад з украінскага), пад рэжысурай Ф. Аляхновіча. Пяяў беларускі хор пад кіраўніцтвам Рагоўскага. Былі на сцэне нацыянальныя беларускія танцы пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага.

Ня толькі беларускае, але польскае і літоўскае грамадзянства сустрэлі першую беларускую вечарынку вельмі прыхільна.

---



ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ
(Мацей Бурачок)
бацька беларускага нацыянальна-соцыяльнага адраджэньня.

Яго некаторыя творы («Дудка Беларуская», «Смык Беларускі») вядомы напамяць у самых глухіх кутках Заходняй Беларусі.

Нябожчык-поэт пахованы ў м. Жупранах, Ашмянскага павету. Яго «Дудка Беларуская» першы раз была надрукована ў Кракаве ў 1891 г.

Даўно ўжо пара беларусам выпусьціць поўны зборнік твораў гэтага вялікага песьняра, вядомага цяпер на ўсёй Беларусі. Падробней азнаёміцца з творчасьцю поэта кожны пісьменны беларус можа выпісаўшы з «Беларускай Кнігарні» ў Вільні (Завальная 7) кніжку М. Гарэцкага «Гісторыя Беларускае Літэратуры» і зборнікі вершаў Багушэвіча «Дудка Беларуская» і «Смык Беларускі».

Даволі прачытяць хоць некалькі словаў ў творчасьці Ф. Багушэвіча, каб бачыць яго над'звычайнае знаньне нацыянальнае душы беларускае і вялікую да яе любоў самога песьняра:

Ой ня будзь ты лепей панам
Ні вялікім капітанам, —
Будзь, чым матанька радзіла,
Каб у госьці не хадзіла,
Каб век з табой векавала,
Гаравала, працавала...
(„Калыханка").

---

Маліся бабушка да бога,
Каб я панам ніколі ня быў.
. . . . . . . . . . .
Каб людзей прызнаваў за братоў,
А багацьцё сваё меў за іх,
*Каб за край быў умерці гатоў,*
*Каб ня прагнуў айчызны чужых,*
*Каб я Бога свайго не акпіў,*
*Каб ня здрадзіў за грошы свой люд...*
(„Ахвяра").

У прыведзеных вышэй адрыўках твораў Ф. Багушэвіча спатыкаем шчырыя полёнізмы, а наагул мова поэта ўзята як-бы проста з вёскі.

На зьдзірванелай ніве беларускае літэратуры Ф. Багушэвіч адважна сеяў зярняты поэзіі нашай у самыя ліхія часы маскоўскае няволі. Ад сяўбы яго ўжо красуе багаты ураджай.



# Некалькі словаў аб беларускіх школах

## Гімназіі.

Найстарэйшаю сярэдняю беларускаю школаю ў Зах. Беларусі зьяўляецца Віленская Беларуская Гімназія, закладзеная ў сьнежні 1918 г.

Першым Дырэктарам гэтай гімназіі быў аж да 1921—1922 шк. г. цяперашні пасол Сойму **Міхал Кахановіч**, (скончыў гісторыка-філёлёгічны-факультэт Харкаўската Унівэрсытэту). У 1922 годзе нядоўгі час быў дырэктарам гімназіі пасол Сойму **Браніслаў Тарашкевіч** — вядомы аўтор беларускае граматыкі, (скончыў Унівэрсытэт у Петраградзе). Затым да 1-га студня 1924 г. Дырэктарам быў інжынер **Антон Нэканда-Трэпка**, (аўтор беларускага падручніка па фізыцы), з якога часу дырэктарам гімназіі зьяўляецца **Радаслаў Астроўскі**.

Лік вучняў у сьнежні месяцы 1924 г. быў у Віленскай Беларускай Гімназіі — 247 (129 хлопцаў і 118 дзяўчат)
По рэлігіі вучні дзеляцца гэтак:

| | |
|---|---|
| праваслаўных | 183 |
| каталікоў | 35 |
| лютэран | 2 |
| кальвіністых | 1 |
| старавераў | 5 |
| іудэяў | 18 |
| мусульман | 3 |
| | 247 |

Па нацыянальнасьці вучні і вучаніцы амаль ня ўсе беларусы (92%), апрача 18 жыдоў.

У гімназіі 8 клясаў, роўналежных няма. Лік вучняў у клясах — ад 20 да 42, у VIII клясе — 21. Апошні выпуск (1923—1924 шк. г.) — 19 чалавек (13 дзяўчат і 6 хлопцаў).

Ня гледзячы на тое, што Гімназія істнуе, як прыватная ў вельмі благіх матар'яльных варунках, ён у 1924 г

удалося купіць вялікую бібліятэку (быўш. „Знаніе“), якая складаецца з 14.000 томаў расейскіх, польскіх, нямецкіх і француск̆іх кніг. Куплена таксама адзіная ў Вільні па свайму зьместу колекцыя матылёў і казулек (каля 2500 экзэмпляраў розных відаў). Зьвяртаецца ўвага на досіць слабую пастаноўку фізычнага кабінэту, але рэч гэта вельмі дарагая. Школьныя прылады па прыродазнаўству і географіі ёсьць у поўнай меры.

За ўвесь час (да 1924 — 1925 школьнага году) Віленскую Беларускую Гімназію скончылі 144 чалавекі.

Пэдагогічны пэрсонал Гімназіі складаецца з 20 асоб.

Даволі прыкрая справа з памешканьнем гімназіі, дзеля таго, што ўрад будынак, у якім месьціцца гімназія (па Вастрабрамскай вул. 9 — быўш Базыльянскія муры) абвясьціў скарбоваю ўласнасьцю, але, паводлуг контракту з Праваслаўнаю Духоўнаю Консысторыяю, гімназія мае права займаць сваё памешканьне аж да 15 жніўня 1926 году. Раней уласьнікам Базыльянскіх муроў лічылася Консысторыя.

---



РАДАСЛАЎ АСТРОЎСКІ
Дырэктар
Віленскае Беларускае Гімназіі.

Яшчэ ў 1917 г. 4-га верасьня п. Астроўскі залажыў першую ў нашыя часы беларускую гімназію ў Слуцку. Грам. Р. Астроўскі мае вельмі паважны пэдагогічны стаж. Пасьля скончаньня фізыка-матэматычнага факультэту (аддзел астранамічны) Петраградзкага Унівэрсытэту ў 1912 г. ён быў вучыцелем матэматыкі і фізыкі ў Чанстахоўскай гімназіі. У Менску быў вучыцелем у вядомай гімназіі Фальковіча, ў жаноцкай гімназіі Скаваронікавай і ў рэальным вучылішчы Хайкіна. Далей быў вучыцелем у Менскім Вучыцельскім Інстытуце і затым Дырэктарам белар.

гімназіі ў Слуцку. У часы Керанскага быў павятовым камісарам Случчыны, будучы назначаным Часовым Урадам на гэтую пасаду. А ў царскія часы грам. Астроўскі быў прасьледаваны ў студэнцкія свае гады, калі будучы старшынёй Слуцкага зямляцтва ў пару гэт. званых „хімічных обструкцыяў“ у Петрагр. Унів-це, адміністрацыйна быў высланы ў Олонецкую губэрню з заменаю на вольнае пасяленьне ў Горадзеншчыне, дзе і прабыў 1 год і 7 месяцаў. З 1920 да 1923 г. грам. Астроўскі быў інспэктарам Польска - Амэрыканскага Камітэту Помачы Дзецям.

Гімназія ў **Радашкавічах** мае цяпер 160 вучняў, ёсьць інтэрнаты для хлопцаў і дзяўчат. Дырэктарам гімназіі — стары беларускі дзеяч Фэлікс **Стэцкевіч.** Над тым, каб залажыць гэтую гімназію шмат папрацаваў быўш. рэдактар „Нашае Нівы“ цяперашні сэнатар Аляксандар **Уласаў,** які й цяпер моцна ёю апякуецца.

Апрача гэтага, ёсьць яшчэ адна беларуская гімназія **ў Наваградку** і адна ў **Клецку.** Палажэньне апошняе з іх хіба што найгоршае, але ёсьць моцная надзея на лепшае. Насяленьне адносіцца да гімназіі з гарачай прыхільнасьцю; ня гледзячы на ўсе перашкоды, якія ставіліся з боку Палескага Кураторыюму, які ня даў магчымасьці пачаць заняткі ў гімназіі аж да Каляд, гімназія ўсё-ж такі не сканала. А ўжо ў верасьні месяцы ў гімназію гэту паступала 96 вучняў. Спачатку ня быў зацьверджаны ўладаю на дырэктара грам. Шпаркевіч па мотывах палітычнага характару. Гімназія ў Клецку закладалася замест істнаваўшае раней гімназіі ў **Нясьвіжы,** пасьля была вельмі трудная справа з памешканьнем пад гімназію ў Клецку. Апошняе ее памешканьне было занята войскам, але, дзякуючы захадам Старшыні Час. Беларускае Рады д-ра Паўлюкевіча, дакляравана было (ў сьнежні 1924 г.) справу гэтую ўрэгуляваць. Настаўніцкі пэрсонал гімназіі складаецца з вельмі добрых сіл. Дырэктарам Клецкае Гімназіі зьяўляецца цяпер Ант. **Якімовіч** (скончыў Вучыцельскую Сэмінарыю ў Нясьвіжы ў 1904 г. і Віленскі Вучыцельскі Інстытут у 1914 г.) Вучняў лічыцца 50.

---

## Пачатковыя школы.

У Вільні істнуе толькі адна ўрадовая пачатковая беларуская школа, на Вострабрамскай вул., 9. У школе 7 аддзяленьняў, агульны лік вучняў 150.

У розных мясцовасьцях Заходняй Беларусі істнуюць прыватныя пачатковыя беларускія школы, з ліку якіх Рэдакцыі нашага календара ўдалося мець вестку толькі аб 26-х.

Офіцыяльны лік беларускіх школаў у Польшчы, як гэта выясьнілася на адным з паседжаньняў Сойму Рэспублікі, не пераходзіў у апошнім годзе за цыфру 44.

У далейшым ёсьць надзея паставіць справу беларускага школьніцтва на болей цьвёрды грунт, чым мае энэргічна заняцца заснованае ў канцы 1924 г. Беларускае Таварыства „Прасьвета“. Ініцыятыву заснаваньня Т-ва „Прасьвета“ ўзяло на сябе беларускае настаўніцтва з мэтаю аб'яднаць у ім магчыма шырэй усе беларускія сілы, якім ляжыць на сэрцы справа прасьветы роднага народу.





# Народная мудрасьць і гумар.

## З беларускіх прыказак.

— Даў Бог дзеці, ды няма куды дзеці.

— Пытае люты, ці добра абуты.

— Каб ня дзірка ў роце, хадзіў-бы ў залоце.

— Гара з гарою ня сходзяцца, а чалавек з чалавекам заўсягды.

— Юр'ева раса — ня трэба коням аўса.

— Да Юр'я — хлеба і ў дурня.

— Дзе гартай плача, там жняя скача.

— Гульня, ды ня штодня.

Глядзі, з чаго хлеб ясі.

— Каб ня ежа, не адзежа, дык апух-бы лежа.

— Абы карыта, а сьвіньні будуць.

— Не чапай чужога, ня бойся нікога.

— Не рабі другому, што нялюба самому.

## З беларускіх жартаў.

### Абраз і табака.

— Быў на кірмашы, куме?
— Быў. Абраза купіў.
— Ану, пакажы.
— А бадай-жа цябе, куме... Не магу разьвязаць—рукі памерзьлі.
— Дык цягні, куме, з капшука табаку—закурым.
— Давай барджэй.

### Тады пабачыш...

— Што ты будзеш, беднанькая, рабіць, калі я памру?—пытаўся мужык у свае маладое жонкі. — Ты-ж такая маладая...
— А вось ты памры, тагды й пабачыш.

### Раздумаў.

— Слухай стары... Сьцяпан Крукачонак хоча жаніцца з нашай Марылькай. Як ты думаеш?
— Ды я думаю, што калі хоча, дык няхай жэніцца.
— Але ён хоча, каб ты яму запісаў палавіну зямлі.
— А ведаеш, старая, я думаю, што ён нашай Марыльцы не раўня.

### Вычытаў.

— Ведаеш, сват, добрая думка прышла мне ў галаву.
— Ну?
— Я вычытаў у газ
што ёсьць нейкая мась ц

ўзрост валосься; куплю сабе; буду мазаць сваю сьвітку, а можа вырастуць на ёй валасы і будзе з сьвіткі кажух.

### Дзед ды баба.

Недзе, кажуць, дзед ды баба пасварыліся паміж сабой дый пастанавілі адно да аднаго не гаварыць. Але нядоўга вытрымалі, бо ў бабы цярпеньня не хваціла, дык яна і пытаецца:— „Стары, ці ты ўчора чхнуў?“ — „А што?“ — панура адказвае ён.—„Будзь здароў!“ — ласкава кажа яна. — „Дзякую“. — Гэтак і пагадзіліся.

### Не спадзяваўся.

Купец выйграў у судзе справу, адвакат і тэлеграфуе яму: „Праўда выйграла!“ Прачытаў купец тэлеграму дый пасмутнеў: — Ніяк, кажа, не спадзяваўся прайграць гэту справу.

### Ня дзіва.

Во дзіва! Я чуў што людзі з алею робяць каменьні. Як гэта яны робяць?

— Што-ж тут за дзіва? А як карова робіць малако з сена і саломы.

### Вытлумачыў.

— Бацька, а бацька! што яно такое, прысяжны адвакат?

— Гэта, сынок, такі чалавек, катораму верацъ толькі тады, як ён запрысягнецца.






## Сіла працы!

**Колькі рабочыя ўсяго сьвету дабываюць за год:** (Паводлуг *Христианскаго* Календара «Друг» за 1924 г).



Волава, паказанага ў параўнаньні з касьцёлам сьвят. Пётры ў Рыме.



Нэфты, агульная колькасьць якой стварыла-б возера даўжынёю ў $3^{1}/_{2}$ кілёмэтры, шырынёю ў 1 кілёмэтр і глыбінёю ў 20 мэтраў, у якім мог-бы плаваць паважны ваенны флёт.



Медзі, паказанай у постаці обэліску побач з вядомым Люксорскім обэліскам вышынёю ў 22,8 мэтр.



Жалеза, паказанага ў постаці куба пад найбольшым у сьвеце Кэльнскім саборам.



Золата ў параўнаньні з паравозам.



Каменнага вугля ў параўнаньні з найбольшаю эгіпэцкаю пірамідаю Хэопса.



Плятыны.



Алмазаў, паказаных у постаці аднаго брыльлянта.



## Штогоднае павялічэньне насяленьня ў некаторых краёх.




Францыя Бэльгія Югаславія, Італія, Англія. Румынія, Нямеччына, Данія. Польшча.



## Сярэдні рост людзей некаторых нацыянальнасьцяў.

Можна падумаць, што сярэдні рост людзей наагул аднолькавы. Але навука, якая гэтым пытаньнем займалася, давяла адваротнае. Думаюць таксама, што даўней людзі былі большымі. Але й гэта навукай не пацьвярджаецца; адзін францускі прафэсар, зьмерыўшы тысячы «дапатопных» касьцей, знайшоў што ў надта-надта сівой мінуўшчыне сярэдні рост чалавека быў — 1,62 мэтра, ў той час, як сярэдні рост людзей цяперака = 1,64 мэтра. З народаў, якія цяпер жывуць, найвышэйшымі ростам лічацца паўднёва-афрыканскія кафры і жыхары ціхаакіянскіх астравоў, якія даходзяць у сярэднім вышыні 1,75 і 1,78 мэтра. За імі йдуць гэрманскія і романскія народы ды славяне. Найменшымі прадстаўнікамі чалавечага роду зьяўляюцца карліковыя плямёны *акку і батуа*, якія жывуць у незачэпных лясох Афрыкі і вядомы яны ўжо даўнейшым рымлянам пад назовам пігмэйцаў.




Сярэдні рост паасобных народаў *(у мэтрах)* гэткі: 1) Афрыканскія плямёны акка і батуа 0,90 мэтр. 2) Паўночныя афрыканцы, 1,38 м. 3) Японцы і кітайцы 1,57 м. 4) Народы былшае Аўстра-Вэнгрыі 1,62 м. 5) Бэльгійцы 1,64 м. 6) Гішпанцы і Партугальцы 1,64 м. 7) Французы $1,65\frac{1}{4}$ м. 8) Расейцы, італьянцы і швэйцарцы $1,66^{1}/_{2}$ м. 9) Немцы і голяндцы $1,67^{1}/_{2}$ м. 10) Датчане 1,68 м. 11) Ангельцы і швэды 1,70 м. 12) Паўночныя амэрыканцы і нарвэжцы 1,72 м. 13) Кафры 1,75 м., 14) Жыхары Сандвічавых астравоў Самоа і Таіті 1,78 м.

## Вышыня некаторых будынін:

| | | |
|---|---|---|
| Вялізарная вежа ў Лёндане . . | 356 | мэтр. |
| Эйфэлева вежа ў Парыжы . . . . . | 300 | » |
| Эйльвэзэ - вежа бяздротн. тэлегр. . . | 240 | » |
| Дом Зінгэра ў Нью-Іорку . . . . | 205 | » |
| Наурн - вежа бяздрот. тэлегр. . . . . | 200 | » |
| Пàлі Гудзонскага мосту ў Нью-Іорку | 173 | » |
| Колённа Вашынгтона . . . . . . . | 170 | » |
| Нацыянальны музэй у Турыне . . . | 164 | » |
| Ратуша ў Філядэльфіі . . . . . . . | 163 | » |
| Сабор у Ільме . . . . . . . . | 162 | » |
| Сабор у Кэльне . . . . . . . . . | 156 | » |
| Сабор у Руане. . . . . . . . . . | 153 | » |
| Касьцёл сьв. Мікалая ў Гамбургу . . | 148 | » |
| » сьв. Сьцяпана ў Вене . . . | 145 | » |
| » у Страсбургу . . . . . . . | 143 | » |
| » у Сэвільі. . . . . . . . | 141 | » |
| » сьв. Олафа ў Рэвалі . . . . | 139 | » |
| Піраміда Хэфрэна ў Эгіпце . . . | 138 | » |
| Касьцёл сьв. Пётры ў Рыме . . . | 138 | » |
| » сьв. Пётры ў Рызе . . . . . | 135 | » |
| » Notre Dame ў Парыжы . . . | 134 | » |
| » сьв. Пётры ў Бэрліне . . . | 130 | » |
| Петрапаўлаўскі сабор у Петраградзе . | 182 | » |
| Сабор у Флёрэнцыі . . . . . . . . | 110 | » |
| Дом для жыцьця ў Нью-Іорку . . . | 117 | » |
| Сабор сьв. Паўла ў Лёндане . . . . | 111 | » |
| » у Бэрліне . . . . . . . . . | 110 | » |
| » у Мілане . . . . . . . . . . | 109 | » |
| Вежа інвалідаў у Парыжы . . . . . | 105 | » |
| Сабор Фраурнкірхэ у Мюнхэне . . . | 99 | » |
| » сьв. Марка ў Вэнэцыі . . . | 99 | » |
| Званьніца Кіеўскае Лаўры . . . . . | 98 | » |
| Сабор Ісаакія ў Петраградзе . . . . | 94 | » |
| Статуя Волі ў Нью-Іорку . . . . . | 94 | » |
| Гандлёвая Палата ў Чыкаго . . . | 93 | » |
| Сабор у Мэксыцы . . . . . . . . | 85 | » |
| Званьніца Івана Вялікага ў Маскве . | 82 | » |
| Адміралтэйская ігла ў Петраградзе . . | 75 | » |
| Рэйхстаг у Бэрліне . . . . . . . . | 74 | » |

## Скольні калек засталося пасьля сусьветнае вайны?

Міжнароднае Таварыства ў Жэнэве падлічыла, што пасьля сусьветнае вайны засталося напэўна 10 мільёнаў калек. З гэтага страшэннага ліку ахвяраў вайны выпадае на:

| | | |
|---|---|---|
| Нямеччыну . . . . . . . . | 1.537.000 | калек |
| Францыю . . . . . . . | 1.500.000 | » |
| Велікабрытанію . . . . . | 1.170.000 | » |
| Італію . . . . . . . . . | 800.000 | » |
| Расею . . . . . . . . . . | 775.000 | » |
| Польшчу . . . . . . . . | 320.000 | » |
| Чэхаславакію . . . . . | 236.000 | » |
| Югаславію . . . . . . . . | 164.000 | » |
| Аўстрыю . . . . . . . . | 164.000 | » |
| Злуч. Штаты Амэрыкі . . . | 157.000 | » |
| Румынію . . . . . . . | 100.000 | » |
| Аўстралію . . . . . . | 76 000 | » |
| Бэльгію . . . . . | 50.000 | » |
| Канаду . . . . . . . | 45.000 | » |
| Новую-Зэляндыю . . | 20.000 | » |
| Фінляндыю . . . . . . . . . . | 10.000 | » |
| разам | 7.124.000 | калек, |

якія адтрымліваюць урадовую падмогу. Калі сюды яшчэ дадаць інвалідаў Турцыі, Баўгарыі, Вэнгрыі, Партугаліі, Эстоніі, Латвіі, Літвы і Японіі, дык напэўна лік калекаў, перавысіць 10 мільёнаў.

## Мэтрычныя меры ў параўнаньні з нашымі і наадварот.

**Мэтр** ёсьць француская адзінка меры даўжыні. Мэтрычныя меры тым практычны ў нашым жыцьці, што яны дзеляцца, або памнажаюцца **толькі на дзесяць** і гэтым аблягчаюць зьлічваньне ўсялякіх рахункаў у гандлі. Дзеля пераходу на мэтрычныя меры, якія блізу ўсюды заведзены, а з 1924 году заведзены ў Польскай Рэспубліцы, трэба спачатку хоць збольшага пазнаць іхняе параўнаньне з нашымі мерамі. Трэба ведаць, што **мэтр** блізка што роўны паўтара нашым аршынам, значыцца 2 мэтры роўны больш-менш сажню, а 500 сажняў (вярста) роўна 1000 мэтрам, — карацей

гаворачы **1 кілёмэтру**. (Вярста, праўда, больш за кілёмэтр, бо 15 вёрстаў роўны 16 кілёмэтрам, але гэта ўжо дадаткова прымаецца пад увагу.

Разгледзім цяпер раўнаньне малых даўжыняў: мэтр мае 100 цэнтымэтраў, 71 цэнтымэтр роўны 1 аршыну, вяршок складаецца з чатырох з паловай цэнтымэтраў. Дакладнасьць тут зусім блізкая, але ўсё-ткі ў сур'ёзных выпадках вылічэньні лепш рабіць, бяручы цыфры з ніжэйпаданых табліц.

Самая сыстэма мэтрычных мер дзесятковая, напр.: у 1 мэтры 10 дэцымэтраў, або 100 цэнтымэтраў, або 1000 мілімэтраў; у 1 кілёмэтры 1000 мэтраў.

## Прыраўнаўчыя меры даўжыні.

1 мэтр=0,4687 саж.=1,405 аршына=22,507 вярш.
1 саж.=2,1335 мэтрам=21,335 дэцым.=213,35 цэнт.
1 аршын=0,711 мэтру,=71,1 цэнтымэтрам.
1 вяршок=4,443 цэнтымэтрам.

Натуральная велічыня аднаго дэцымэтра (1/10 часьць мэтра).




| Меры вярхніны (квадратныя). | | Меры абыйма плыукіх і сыпкіх целау. | | | | Меры масы. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Кв. мэтр. | Кв. саж. | Літр | Бутэлька | Чаць-вярык | Гар-нец | Кілё-грам | Фун-ты | Пуды |
| 1 | 0,21968 | 1 | 1,6278 | — | — | 1 | 2,4418 | 0,061 |
| 4,55208 | 1 | 0,6144 | 1 | — | — | 0,4095 | 1 | 1/40 |
| | | 26,238 | — | 1 | 8 | 16,38 | 40 | 1 |
| | | 3,280 | — | 1/8 | 1 | | | |
| | | 1 гэктолітр=100 літр.=3,8113 чацьв. | | | | 1000 кгр. (тонна)=61 пуду. | | |

## Квадратныя меры зямлі.

1 ар.=21,968 кв. саж.=0,00915 дзесяціны.
1 гэктар=2196,7968 кв. саж.=0,915332 дзесяц.
1 дзесяціна=109,25 арам=1,0925 гэктара.